25 ліпеня 2014 | № 29 (398)

Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

**НАСТУПНЫ НУМАР ГАЗЕТЫ ВЫЙДЗЕ 15 ЖНІЎНЯ**

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10027

**2 СРЭБРА ЖЫЦЦЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА**

«Іртутнае срэбра жыцця» — першая з кніг старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнта (FIDH) Алеся Бяляцкага, прэзентацыя якой адбылася з удзелам самога аўтара



**29 МОМАНТ ІСЦІНЫ ДЛЯ ПУЦІНА**

Гісторыя з малаазійскім самалётам стала падзеяй, якая мяняе ў заходняй свядомасці канцэптуальнае разуменне канфлікту ва Украіне

**9–24**

**Літаратурная Беларусь**

**30 МАМЗЭЛІ І СУТЭНЁРЫ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ**

Пасля верасня 1939 года супрацоўнікі НКУС вывезлі з Заходняй Беларусі на ўскрайкі СССР немалую колькасць прастытутак. Але пачыналася ўсё значна раней

# Страшэнная памылка выканаўцы

## Збіты над Украінай малазійскі «Боінг» абыдзецца вельмі дорага не толькі Расіі



Сяргей ПУЛЬША

**У небе над Данбасам загінулі 298 чалавек. Асноўная версія — самалёт быў збіты тэрарыстамі ДНР з дапамогай расійскага комплексу «Бук-М1» і расійскіх спецыялістаў.**

Падаецца, што «Боінг» быў збіты не спецыяльна. Гэта была «памылка выканаўцы», — таго, хто націснуў кнопку «пуск». Тэрарысты атрымалі інфармацыю, што прыкладна тым жа курсам будзе праляцаць украінскі вайсковы транспартнік АН-26. Пацэліць меркавалі менавіта ў яго, але, як сведчыць былы наводчык такога комплексу Іван Шыла, «грамадзянскія» самалёты засекчы значна прасцей, і лёгка памыліцца.

Напэўна, немалую ролю ў фатальнай памылцы згуляла «логіка вайны». Відавочна, што аператары «БУК-М1» знаходзіліся пад уплывам гэтай логікі: «Спачатку страляй, потым разбірацца будзеш, куды патрапіў». Такі пункт гледжання згуляў вызначальную ролю ў трагедыі. І нездарма на запісе перахопленых СБУ перамоваў тэрарыстаў чуваць, што яны шакаваныя тым, што збілі грамадзянскі борт.

Выварачанасць гэтай логікі прадэманстравалі і далейшыя паводзіны так званых «байцоў ДНР», якія перашкаджалі працаваць на месцы трагедыі міжнародным экспертам.

З гэтай «выварачанай свядомасцю» Расія яшчэ зморыцца. Нягледзячы на ўсе заклікі і просьбы Пуціна не чыніць перашкодаў міжнародным следчым у зоне падзення «Боінга», спароджаныя Расіяй жа тэрарысты не вельмі паслухаліся свайго, нібыта, «гаспадара». «Чалавек з ружжом» звык быць галоўным на сваёй тэрыторыі, а Пуцін — далёка. Ад таго і з'явіліся п'яныя ДНРаўскія «назіральнікі за працай экспертаў» з аўтаматамі і пастрэльваннем у паветра над галовамі следчых.

Наступствы збіцця «Боінга» будуць глабальнымі. Яны ўжо балюча ўдарылі па эканоміцы Расіі. Інфармагенцтва Bloomberg нават выдала загаловак, што Расія паўстала на шлях дэфолту. Самыя песімістычныя прагнозы напачатку ўкраінскага канфлікту, што з-за санкцый і адтоку капіталу за 2014 год Расія страціць $200 мільярдаў, выглядаюць цяпер нават занадта аптымістычнымі. Па дадзеных таго ж Bloomberg, толькі за адзін мінулы тыдзень інвестарамі з расійскага рынку было выведзена каля $47 мільярдаў.

І гэта тады, калі Захад яшчэ не ўводзіў паўнавартасныя сектаральныя санкцыі да расійскіх прадпрыемстваў і банкаў.

Як трагедыя з «Боінгам» адаб'ецца на Беларусі? Нам будзе ўсё горш і горш, бо мы «завязаныя» на расійскую эканоміку. Найперш, па меркаванні эканаміста Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Кацярыны Барнуковай, пацерпіць наш экспарт у Расію. Не будзе грошай, каб набываць нашы інавацыйныя тавары. Да таго ж, мы на парозе «гандлёвай вайны» з Украінай — нашым трэцім па велічыні эканамічным партнёрам пасля Расіі і ЕС. Беларускія ўлады ліцэнзавалі ўвоз украінскага піва і кандытарскіх вырабаў, а ўкраінцы адказалі тым, што ўвялі спецыяльныя мытныя пошліны на шэраг беларускіх тавараў.




**Разам з «Боінгам» была збітая «вакцына ад СНІДу**

Па меркаванні эканаміста Барыса Жалібы, Беларусь могуць закрануць і «банкаўскія санкцыі». У нас багата банкаў з расійскім капіталам: той жа «Белгазпрамбанк» — «дачка» «Газпромбанка», «Альфа-банк» і іншыя. «Белгазпрамбанк», напрыклад, актыўна працуе з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця. І з боку партнёра можа быць абмежаванне крэдытаў. Усё гэта можа абярнуцца дэфіцытам крэдытных рэсурсаў для яго, а таксама для «Белзнешэканамбанка».

І не трэба забывацца: вайна — справа дарагая, яна патрабуе вялікіх грошай. Не ведаю, колькі каштуе Расіі тая тэхніка і зброя, што метадычна падкідваецца баевікам і якую рэгулярна знішчае ўкраінскае войска. Але факт, што абяцаны Пуціным яшчэ напачатку мая крэдыт у $2 мільярды «пад ЕАЭС» так у Беларусь і не прыйшоў.

А што будзе, калі Bloomberg мае рацыю, і Расія атрымае дэфолт? Гэта мы праходзілі ў 1998 годзе. Тады беларускі рубель абясцэніўся амаль у 2,5 разы. Да кіравання Нацбанкам прыйшоў Пётр Пракаповіч, які ўвёў у абарачэнне разліковы білет вартасцю ў паўмільёна рублёў. А на харчовым рынку ў Беларусі з'явіўся дэфіцыт звычайных прадуктаў. Памятаеце знакамітыя выслоўі Аляксандра Рыгоравіча: «Толькі ўзяўся за яйкі — масла знікла»? Альбо: «У беларуса на стале павінны быць нармальныя чалавечыя яйкі»? Гэта ўсё адтуль, з 1998-га.

Але нашы будучыя эканамічныя страты — дробязь у параўнанні з тым, што з-за «памылкі выканаўцы» не атрымала ўсё чалавецтва. Нездарма некаторыя СМІ напісалі, што разам з «Боінгам» была збітая «вакцына ад СНІДу». Гэтым рэйсам на навуковую канферэнцыю ў Мельбурн ляцелі сусветна вядомыя адмыслоўцы ў барацьбе з СНІД. Сярод іх — Юла Ланге — 60-гадовы доктар з сусветным імем, які ўсё жыццё прысвяціў вывучэнню ВІЧ-інфекцыі, ад самага пачатку яе ўзнікнення.

Па меркаванні канадскага адмыслоўца Трэвара Стрэтана, да стварэння лекаў ад СНІДу тым, хто ляцеў злапомным рэйсам, «заставалася зусім нічога».

«Мы страцілі сусветных лідараў, а таксама некаторых перспектыўных маладых навукоўцаў. Гэта вельмі цяжкая страта», — сказаў прафесар Рычард Бойд, дырэктар лабараторыі «Монаш». Зараз у барацьбе са СНІДам мы адкінутыя назад гадоў на трыццаць.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ОРША. Тры пікеты забаранілі

**Тры акцыі 27 ліпеня, у дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, хацелі правесці аршанскія актывісты АГП — у Парку герояў, на пляцоўцы перад уваходам у кавярню «Аронія» і ў парку культуры і адпачынку тэкстыльшчыкаў. Усе тры месцы вызначаныя ўладамі для правядзення масавых мерапрыемстваў.**

Але ў апошнія 3 гады аршанскія ўлады не далі ніводнага дазволу на масавыя акцыі паводле ініцыятывы грамадскіх актывістаў. Прычына адна — і падчас ранейшых спробаў, і цяпер — адсутнасць дамоваў на абслугоўванне пікетаў з міліцыяй, медыкамі і службамі ЖКГ. Гэтыя структуры адмаўляюцца заключаць дамовы, апелюючы да розных прычын. Аднак на адным з судовых працэсаў, калі актывісты спрабавалі адстаяць сваё права на выказванне ўласных меркаванняў, высветлілася, што ні міліцыя, ні паліклініка, ні прадпрыемства ЖКГ «Арыён» не мае права заключаць дамовы на абслугоўванне акцый з прыватнымі асобамі. Хаця менавіта такая ўмова прапісана ў рашэнні Аршанскага гарвыканкаму, якое рэгламентуе правядзенне ў горадзе масавых акцый.

### ГОМЕЛЬ. 40 пікетаў пад забаронай

**Гомельскі гарвыканкам традыцыйна не даў дазвол на правядзенне ў абласным цэнтры 40 пікетаў, якія праваабаронцы і актывісты дэмакратычных арганізацый і палітычных партый планавалі правесці ў Гомелі 27 ліпеня.**

Як вы, напэўна здагадаліся, гарвыканкам адказаў, што заяўнікі не выканалі патрабаванні мясцовага рашэння, паводле якога кожны арганізатар мерапрыемства павінен папярэдне заключыць дамовы і аплаціць паслугі хуткай дапамогі і камунальных службаў. Таксама ў адмове чыноўнікі спасылаліся на тое, што заяўнікі планавалі правесці мерапрыемствы ў найбольш людных месцах абласнога цэнтру ў той час, як рашэнне дазваляе праводзіць пікеты ды іншыя мерапрыемствы толькі ў двух месцах — у аддаленым раёне, каля прамысловых збудаванняў і каля стадыёна на ўскраіне горада.

Тым часам, дамовы заключыць з «хуткай» і камунальнымі службамі немагчыма. «Хуткая» адказвае, што не хапае аўтамабіляў, а камунальнікі спасылаюцца на недахоп кадраў.

21 ліпеня атрымалі таксама адмову на сваю заяўку праваабаронцы, якія хацелі правесці пікет 4 жніўня з мэтай нагадаць грамадскасці пра наяўнасць у краіне палітвязняў.

У Гомелі з 2004 года ўлады не дазволілі правядзенне ніводнага пікету, мітынгу ці шэсця, якія ініцыявалі дэмакратычныя актывісты.

### ГРОДНА. Актывіст падаў скаргу ў КПЧ ААН

**22 ліпеня старшыня гродзенскай гарадской арганізацыі АГП Ежы Грыгенча накіраваў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН.**

Гродзенскі актывіст лічыць парушаным ягонае права на мірныя сходы. Падставай для звароту ў наднацыянальны орган абароны правоў чалавека стала рашэнне Ленінскага суда Гродна, які пад старшынствам суддзі Алены Пятровай аштрафаваў яго за актыўны ўдзел у масавым мерапрыемстве.

«Мы прайшлі ўжо ўсе патрэбныя інстанцыі. Як і чакалася, ніхто не адмяніў рашэнне Ленінскага раённага суда Гродна. Таму зараз у мяне надзея на КПЧ. Я хачу давязаць усім, хто мяне караў, што праўда за мной, — распавёў Ежы Грыгенча. — Таксама мяне абурыў той факт, што пракуратура нават адказу не дала на мой ліст. Я звяртаў увагу на тое, што супрацоўнікі міліцыі, якія складалі на мяне пратакол, або ілгуць у судзе, або проста не выконваюць сваіх абавязкаў падчас акцыі. Бо калі мы нешта на акцыі парушалі, то яны мусілі нас пра гэта папярэдзіць. Гэта іх абавязак. Але там яны толькі паглядалі збоку, праверылі нашы дакументы і ні на што не звярнулі ўвагу, што перашкодзіла нас, што мы нічога не парушаем. А ў судзе яны пачалі казаць пра нібыта парушэнне. Ну а пракуратура заняла пазіцыю маўчання».

Нагадаем, што Ежы Грыгенча разам з чатырма іншымі ўдзельнікамі перадвыбарчага пікета быў асуджаны за ўдзел у нібыта несанкцыянаваным мерапрыемстве, якое праходзіла 7 лютага бягучага года. На гэтым пікеце на гродзенскай вуліцы імя Ажэшкі збіраліся подпісы за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў, а таксама збіраліся подпісы супраць увядзення новай аўтапошліны.

**Паводле spring96.org**

# Закратаваць за лісты да ўладаў

Марат ГАРАВЫ

**З 22 ліпеня падпісантаў калектыўных зваротаў у Адміністрацыю прэзідэнта — актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры выклікаюць на апытанні ў Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Міністэрства ўнутраных спраў.**

Так, 22 ліпеня на працягу дзевяці гадзінаў без перапынку на абед — з 10.00 да 19.00 — супрацоўнік упраўлення, старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах, маёр міліцыі апытаў чатырох жанчын. Прычым трое з апытаных ужо на пенсіі, а дзвюм — больш за 75 гадоў. Сярод апошніх была і мінчанка Ларыса Сіняўская. 24 снежня 1999 года быў забіты яе сын, і па сённяшні дзень жанчына не можа дабіцца ўзбуджэння крымінальнай справы па гэтым трагічным фаце. Падчас апытання Ларысы Сіняўскай, якое доўжылася больш за тры гадзіны, жанчыне заявілі, што яна можа быць прыцягнутая да крымінальнай адказнасці, калі і надалей будзе падпісваць калектыўныя звароты.

Сёння апытанне падпісантаў калектыўных зваротаў працягнецца. Выклікі грамадзян у міліцыю звязаны з праверкай, якую праводзіць Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС у сувязі з даручэннем Генеральнай пракуратуры па ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць юрысткі Тамары Сяргей, якой у красавіку мінулага года было вынесена афіцыйнае папярэджанне аб крымінальнай адказнасці згодна артыкулу 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь за арганізацыю дзейнасці незарэгістраванага грамадскага аб'яднання.

Нагадаем, што па гэтым жа пытанні 8 ліпеня юрыстку ў чарговы раз выклікалі ў Генеральную пракуратуру да намесніка начальніка аддзелу за выкананнем правоў і свабодаў грамадзянаў Паўла Елісеева.

У каментары НЧ Тамара Сяргей адзначыла, што такім чынам улада поўнасцю раскрывае перад народам сваю сутнасць. «Бо права накіроўваць калектыўныя звароты да чыноўніцтва прадстаўлена артыкулам 40 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Замест таго, каб разабрацца з пытаннямі, з якімі грамадзяне звяртаюцца да чыноўніцтва, людзей запалохваюць. А праблема — у адпісках чыноўнікаў, якія не даюць адказу па сутнасці на скаргі грамадзян», — зазначыла Тамара Сяргей.

# Чарговая хваля ціску на Статкевіча

**Жонка палітвязня Міколы Статкевіча — Марына Адамовіч — расказала пра чарговае пагаршэнне ўмоваў утрымання мужа ў Магілёўскай калоніі.**

У яго ізноў з'явіліся праблемы з атрыманнем газет і лістоў, асабліва калі яны не ад сваякоў. Па словах Марыны Адамовіч, у яе мужа амаль няма магчымасці нармальнага шпацыру і яго сцерагуць ахоўнікі з сабакамі.

— Гэта вельмі балючыя падрабязнасці, калі ўспомніць, што Мікола са снежня 2011 года па-сутнасці ні разу не хадзіў па зямлі і не бачыў дрэвы, траву. Вось гэта сапраўды страшна. Яны зразумелі вельмі даўно, што Мікола не паддаецца на розныя спосабы ўздзеяння, а праблема з ліставаннем — гэта адна з першых праблем, з якой яны пачалі яго выпрабоўваць.

Прысуджаны да шасці гадоў турэмнага зняволення нібыта за арганізацыю масавых беспарадкаў, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Мікола Статкевіч ніколі не прызнаваў сваёй віны. Ён таксама не паддаўся ні на якія ціск і пагрозы і адмаўляецца пісаць прашэнне аб памілаванні.

**Беларускае Радыё Рацыя**

# Срэбра жыцця Алеся Бяляцкага

Генадзь КЕСНЕР

**«Іртутнае срэбра жыцця» — першая з кніг старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алеся Бяляцкага, прэзентацыя якой адбылася ў Мінску 22 ліпеня з удзелам самога аўтара.**

Кніга складаецца з шэрагу эсэ, а калі дакладней, з лістоў Алеся Бяляцкага, якія ён дасылаў на волю з 14-га атраду Бабруйскай папраўчай калоніі №2. Як распавяла ўкладальнік выдання Алена Лапцёнак, ёй давялася літаральна дэшыфроўваць складаны почырк Алеся, потым адсылаць яму тэксты для рэдагавання (!). Як жартаваў сам Алесь ды іншыя, хто атрымліваў ад яго лісты, турэмная цэнзура не магла разабраць рукапісы, таму і стала магчымым тое, што напісанае Бяляцкім дайшло да тых, каму прызначалася.

Першыя допісы для кнігі датаваныя вераснем 2012-га года, апошнія — чэрвенем 2013-га. Але ў кнізе ёсць не толькі так званая «хроніка турэмнага жыцця». Ірына Пракопчык з «Вясны» на прэзентацыі прадставіла і тую



частку выдання, над якой ёй давялося працаваць асабіста. Гэта лісты «Сустрэчы салідарнасці», пра паездкі Алеся Бяляцкага і сустрэчы з іншымі праваабаронцамі ў Кыргызстане і Казахстане, Расіі ды іншых краінах, пра тых, хто апынуўся за кратамі. Ірына Пракопчык адзначыла, што ўспаміны Алеся даводзілі яе да слёз, а таксама шмат чаму навучылі, напрыклад, таму, што ў розных умовах можна заставацца сапраўдным чалавекам.

Павітаць і павіншаваць Бяляцкага на прэзентацыю прыйшлі вядомыя ў краіне людзі. Шчырыя словы аўтару сказала старшыня БАЖ Жанна Літвіна. Уладзімір Някляеў прачытаў прысвечаны Алесю верш, напісаны яшчэ да яго 50-годдзя (гэты юбілей праваабаронца сустрэў у вязніцы). З музычным прывітаннем выступіў даўні сябра і аднакурснік Алеся бард Эдуард Акулін.

Былыя палітычныя зняволеныя — лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч і сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец — адзначылі важнасць літаратурнай творчасці Алеся Бяляцкага ва ўмовах турэмнага зняволення. Па іх словах, гэта ёсць летапіс сённяшняй рэчаіснасці і самае шчырае адлюстраванне праўды цяперашняй Беларусі.

Сам герой урачыстасці адзначыў, што менавіта ў такіх экстрэмальных умовах, калі чалавек застаецца сам-насам з сабою, ягоным партнёрам робіцца папера. «Усе пачуцці, усё набалелае, усе назіранні можна было даверыць толькі паперы. Падчас трох апошніх год у турме я імкнуўся штодзённа выкройваць час для напісання артыкулаў, якія і сталі потым раздзеламі сённяшняй кнігі. У выданні сабраныя мае ўспаміны пра жыццё беларускага праваабарончага руху, штодзённыя выклікі і перамогі, пра міжнародную салідарнасць. Пісалася ўсё гэта ў складаных умовах. На тумбачцы дзесьці, на шконцы, на працы недзе ў перапынку — там, дзе была хвілінка часу. І нават, калі часу нешта пісаць зусім не было, я імкнуўся не спыняць працу над кнігай хаця б ва ўласных думках», — адзначыў Алесь.

Паводле ягоных словаў, за месяц і дзень, што знаходзіцца на волі, ён не напісаў аніводнага радка. Але паабяцаў, што вернецца да пісьменніцтва, бо надта шмат матэрыялу назапасілася.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Спякотнае зацішша

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Сярэдзіна лета, і жыццё замерла. Усе ў адпачынках, сцішылася палітычнае жыццё, утаймавалася эканоміка. Калгаснікі рыхтуюцца да хуткай «бітвы за ўраджай». Нават прадпрымальнікі змоўклі. Але такое зацішша, зазвычай, бывае перад бурай.**

У «адпачынкавы перыяд» нас радуюць навіны з ураду. Аляксандр Рыгоравіч прыняў Міхаіла Мясніковіча, дзе і паведаміў, што на ўнутраным валютным рынку Беларусі наступіла стабілізацыя. «Насельніцтва неяк супакоілася, і прадпрыемствы сталі больш прадаваць валюты», — заявіў Лукашэнка.

Прычым, па яго словах, стабілізацыя наступіла сама па сабе, нечакана. А чаго было чакаць? Тыя, каму валюта была патрэбная для адпачынку за мяжой, ужо з'ехалі. Тым жа, хто меў намер адпачыць у «бюджэтным» Крыме, але з-за вядомых падзеяў туды не патрапіў, набываць валюту не мае сэнсу. Усё, што можна купіць у Беларусі, прадаецца за беларускія рублі. Так што беларускі правадыр можа выказаць удзячнасць Уладзіміру Пуціну за такую «стабілізацыю».

Але і тут Аляксандр Рыгоравіч знайшоў хібы. Ён паскардзіўся, што ў насельніцтва на руках знаходзіцца шмат наяўнай валюты. «Не ведаю, да чаго рыхтаваліся, навошта, хоць мы заўсёды казалі, што не збіраемся абвальваць курс нацыянальнай валюты і будзем усяляк падтрымліваць нашу нацыянальную валюту. Вядома, не на шкоду экспарту, але заўсёды будзем весці прадказальную палітыку», — сказаў Лукашэнка. То бок, ён смуткуе з таго факту, што ўжо купленыя долары і еўра насельніцтва назад у абменнікі не нясе.

А навошта несці, калі і беларускіх рублёў хапае? Нашы грамадзяне ўжо ведаюць, што ў любы момант беларускі ўрад можа цудоўным чынам правесці нейкую дэвальвацыю. Прычым, найчасцей ён яе праводзіць тады, калі ўсіх пераконвае: усё ў нас добра, ніякіх перадумоваў да дэвальвацыяў няма. А потым — бац, і ўсё. Таму не дзіва, што грамадзяне ствараюць пэўную «падушку бяспекі» з валютных зберажэнняў.

Дарэчы, пра закупы і рублі. Аляксандр Рыгоравіч сустракаецца не толькі з чыноўнікамі ўраду. На тыдні ён таксама прыняў старшыню савета дырэктараў ТАА «Тытунь-Інвест» Паўла Тапузідзіса, і персанальна даў дазвол на пашырэнне ягонай сеткі крамаў «Карона». «Тытунь-Інвест» мае пабудаваць 130 «гіпераў» па ўсёй Беларусі.

Прычым, як паведаміў Аляксандр Рыгоравіч, Тапузідзіс і кампанія павінны не толькі будаваць крамы, але і змушаць нармальна працаваць нашую вытворчасць. «Вядома, я буду падтрымліваць і настойваць, каб прадавалі ўсё ж такі беларускае. Вы павінны разумець, што трэба прадаваць і беларускія тавары. Я хачу, каб вы (гандаль) усё ж такі паднацiскалі наш легпрам, прымушалі выпрабляць тое, што трэба насельніцтву», — дадаў Лукашэнка.

Якім чынам можна змусіць легпрам ствараць запатрабаваную прадукцыю, не ўяўляю. Па ідэі, гэта павінна вырашацца само сабою: не купляюць прадукцыю — значыць, трэба пераходзіць да іншага асартыменту, паляпшаць якасць, зніжаць кошт і гэтак далей. А калі легпрам не варушыцца, то як яго разварушыць?

«Летняя» сітуацыя і ў прамысловасці. Каму хочацца ў такую спёку сядзець у гарачым цэху, тым больш, што ўжо створанай прадукцыі назапашана багата? Вось яе і прадаюць. Беларускім уладам удалося ў чэрвені скараціць складскія запасы прадпрыемстваў. «Зніжэнне складоў» стала магчымым за кошт рэзкага скарачэння вытворчасці. Напрыклад, у чэрвені былі цалкам спыненыя цукровыя заводы.

Але вынік ёсць вынік. У чэрвені складскія запасы знізіліся на 1,363 трыльёна рублёў (3,8%) пасля росту на 986,4 мільярда рублёў (2,8%) у маі, паведаміў Нацыянальны статыстычны камітэт. Усяго ж на 1 ліпеня запасы гатовай прадукцыі склалі 34,826 трыльёна рублёў, што на 6,868 трыльёна (або 24,6%) больш, чым на пачатак года.

Суадносіны запасаў гатовай прадукцыі і сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці на 1 ліпеня склалі 81,4% супраць 85,2% на 1 чэрвеня і 70,2% на 1 студзеня бягучага года.

Па такой спякоце «забадаўся» з прадпрымальнікамі і Мінгарвыканкам. Прынамсі, адна катэгорыя ІПшнікаў «выцiснула» з яго патрэбнае для сябе рашэнне. Мінгарвыканкам паабяцаў прадпрымальнікам не забараняць кароткатэрміновую арэнду жылля.

Раней планавалася, што такой забаронай улады падымуць наведвальнасць гатэляў, якіх мы багата пабудавалі да Чэмпіянату свету па хакеі, і якія зараз стаяць напаўпустыя. Аднак нейкім чынам прадпрымальнікам удалося перацягнуць на свой бок прадстаўнікоў гатэльнага бізнэсу, якія паведамілі, што арэндадаўцы жылля на суткі — не канкурэнты гасцініц. Яны знаходзяцца ў розных сегментах рынку. А прадстаўнікі дзяржструктураў на гэтым пасяджэнні, па словах старшыні Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў Уладзіміра Карагіна, «далі высокую ацэнку дзейнасці прадпрымальнікаў у гэтым сектары паслуг». Больш за тое, прадпрымальнікаў падтрымаў і намеснік старшыні гарвыканкама Аляксандр Дамарацкі, які толькі заклікаў кватэраздаўцаў выконваць існуючае заканадаўства і своечасова аплачваць «камуналку».

Карацей, тут прадпрымальнікі выйгралі. Але, падаецца, і Мінгарвыканкаму падзецца было няма куды. Зараз у сталіцу «панаедуць» навaспечаныя студэнты, якім трэба недзе жыць. І наўрад ці яны будуць засяляцца ў гатэлі.

Дарэчы, пра ўступную кампанію. Міністэрства адукацыі падвяло папярэднія вынікі прыёму ў ВНУ студэнтаў «першага патоку». Не ведаю, радавацца ці смуткаваць з гэтай нагоды. Аказваецца, многія ўніверсітэты не запоўнілі бюджэтныя месцы. Цалкам закрылі дзённае аддзяленне толькі чатыры ВНУ. Гэта Беларускія дзяржаўныя лінгвістычны і эканамічны ўніверсітэты, Універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. У большасці ВНУ, праўда, незапоўненымі засталіся лічаныя працэнты бюджэтных месцаў, але, тым не менш, адкрыты і дадатковы набор на вакантныя месцы.

Ці то прэстыж нашай вышэйшай адукацыі скаціўся ніжэй плінтуса, ці то сапраўды зараз ідзе ў ВНУ пакаленне «дэмаграфічнай ямы» 90-х, і абітурыентаў проста не хапае на ўсе навучальныя ўстановы. Дый што можна казаць пра вышэйшую адукацыю, калі навуковыя супрацоўнікі зарабляюць разы ў тры менш, чым тыя ж будаўнікі.

Затое ніхто зараз не можа паскардзіцца, што нашая вышэйшая адукацыя «недаступная».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Андрэй Харкавец



**Аляксандр Лукашэнка вызваліў Андрэя Харкаўца з пасады міністра фінансаў. Фармулёўка — «у сувязі з выхадам у адстаўку».**

Размовы пра адстаўку Харкаўца актыўна цыркулявалі апошнія пару месяцаў. І прычынай тут быў не кепскі стан нашай эканомікі, а стан здароўя міністра. Апошнія паўгады Харкавец не ўзнікаў у стужках навінаў, не ўдзельнічаў у калегіі міністэрства. Не ўключылі яго і ў склад Рады бяспекі, хаця міністр фінансаў там заўсёды прысутнічаў. Паводле непацверджанай інфармацыі, Харкавец знаходзіцца на лячэнні ў адной з краін Еўрасаюза. Адметна, што і папярэднік Харкаўца Мікалай Корбут сышоў з пасады па стане здароўя — яго разбіў інсульт.

Харкавец запомніцца як чалавек, пры якім Міністэрства фінансаў сур'ёзна абмяркоўвала і рыхтавала дзіўныя прапановы 100-доларавай пошліны за паездку за мяжу, унікальную прапанову па ўвядзенні падатку на беспрацоўных, а таксама ўведзенай пошлінай «за ўдзел аўто ў дарожным руху».

Але галоўны вынік ягонай працы — пры ім знешні дзярждоўг краіны павялічыўся ўтры разы. На пачатак 2009 года ён складаў $3,7 мільярда, а на пачатак 2014-га — $12,4 мільярда.

## Надзея Ермакова



**Кіраўніца Нацбанка ў чарговы раз правяла «прамую лінію» з чытачамі газеты «СБ — Беларусь сегодня», дзе адказала і на пытанні асабістага характару.**

Мы даведаліся, што кіраўніца галоўнага банка любіць рамонкі і не паспявае хадзіць па крамах. «На жаль, у крамы хаджу рэдка. Няма часу ні ў краму схадзіць, ні на нешта іншае «чалавечае» звярнуць увагу», — адзначыла яна. «Мяне сёння больш за ўсё хвалюе эфектыўнасць эканомікі. Таму што ўсе астатнія пытанні — гэта ўжо вытворныя», — сказала Ермакова.

Заява, канешне, вельмі дзіўная. Падаецца, што старшыню Нацбанка не павінна хваляваць «эфектыўнасць эканомікі», бо гэта не банкаўскі сектар, гэтым павінна займацца Міністэрства эканомікі. Але больш насцярожвае іншае.

Ермакова ўжо не першая з дзяржаўных чыноўнікаў, якая прызнаецца, што не ходзіць па крамах. У Адміністрацыі прэзідэнта ўжо трэба ствараць для такіх адмысловую турыстычную групу. Выдаваць ім тысяч 300 і прапанаваць на гэтыя грошы сабраць які-небудзь «святочны стол». Тады б яны, можа, задумаліся, як іхнія глабальныя думкі пра «эфектыўнасць эканомікі» адбіваюцца на нашых кішэнях і магчымасцях.

## Канстанцін Сумар



**Губернатар Брэсцкай вобласці нарэшце пачынае разумець, што перашкаджае беларусам жыць добра. На тыдні ён заслухаў справаздачы аб развіцці рэгіёна, якая яго не ўзрадавала.**

Пазітыўная дынаміка першага квартала відавочна пайшла на змяншэнне ў другім. Толькі зачын першых трох месяцаў дазволіў больш-менш звесці канцы з канцамі па паўгоддзі. Экспарт тавараў і паслуг пакуль не дацягвае да прагнозу. Не ўдалося забяспечыць рост аб'ёмаў прамысловай вытворчасці. Па інвестыцыях у асноўны капітал вобласць сышла «ў мінус». А многія прадпрыемствы вобласці на кожны рубель прыбытку маюць 2–3 рублі запазычанасці.

«Падобна на тое, катаклізмы не толькі ў свеце, яны ў нашых галовах. Іх трэба неадкладна пачысціць», — адкрыта выказаўся губернатар на адрас вертыкалі. І запатрабаваў ад падначаленых кіраўнікоў менш заседжвацца ў кабінетах, а кіраваць працэсам на палях і вытворчых пляцоўках.

Якім чынам трэба «прачысціць галовы», Сумар, канешне, не ўдакладніў. Але сама ідэя з «чысткай» і адпраўкай чыноўнікаў «у народ» даволі прывабная. Адно толькі, каб у гэтых галовах пасля «чысткі» што-ніхто засталося.




# Канстытуцыя нам гарантуе…

Міхаіл ПАСТУХОЎ,
Сяргей ПУЛЬША

**Нашы правы, свабоды і абавязкі замацоўваюцца ў Канстытуцыі не проста так. Яны могуць і павінны выкарыстоўвацца ў паўсядзённым жыцці. Галоўны ж абавязак дзяржавы — стварыць умовы і магчымасці для іх выканання.**

### Галоўнае — умовы

Згодна з артыкулам 59 Канстытуцыі, дзяржава абавязана прымаць усе даступныя ёй меры для стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантаваных Асноўным законам.

У частцы 2 артыкула 59 Канстытуцыі спецыяльна падкрэсліваецца: «Дзяржаўныя органы, службовыя і іншыя асобы, якім даверана выкананне дзяржаўных функцый, абавязаны ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабодаў асобы». Гэта датычыцца кожнага прадстаўніка ўлады — ад кіраўніка дзяржавы да самага дробнага чыноўніка. Не збіваць, не прыніжаць грамадзян, не патрабаваць ад іх выплаты новых падаткаў, а ствараць умовы для лепшага жыцця.

Канстытуцыя пісалася ўсё ж разумнымі людзьмі. І гэтыя асобы разумелі: галоўнае — даць магчымасць грамадзяніну рэалізоўваць свае правы і свабоды. У такіх варунках грамадзянін добраахвотна падзеліцца часткай сваіх заробкаў (падаткамі) з тымі, хто гэтыя правы, свабоды і магчымасці яму забяспечвае. Грамадзянін будзе і адказным у выкананні сваіх абавязкаў. А калі свае абавязкі не выконвае дзяржава, паводзячы сябе часам па-хамску? Чаму тады грамадзянін павінен выконваць свае абавязкі перад дзяржавай? Лагічнае пытанне, ці не праўда?

Прадстаўнік улады — гэта слуга грамадзян і народа ў цэлым. Калі ён забываецца на сваё прызначэнне і пачынае «забаўляцца» (злоўжываць уладай), яму трэба адмовіць у даверы — то бок, пазбавіць пасады. На гэта дакладна ўказвае частка 3 артыкула 59 Канстытуцыі: «Органы і асобы нясуць адказнасць за дзеянні, якія парушаюць правы і свабоды асобы».

Ці выконваецца гэтая норма на практыцы? Відавочна, што органы ўлады не прымаюць «неабходных мер» для ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян, і ніхто не нясе адказнасці за дзеянні, «якія парушаюць правы і свабоды асобы». Такога кшталту дзеянні можна кваліфікаваць у адных выпадках як «бяздзейнасць службовай асобы», а ў іншых — і ўвогуле як «перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў».

### Суд — абаронца?

Па ідэі, абскарджваць парушэнне сваіх правоў можна ў судзе. Згодна з артыкулам 60 Канстытуцыі, кожнаму гарантуецца абарона яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непарадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны.

Гэтая норма — адкрыццё для тых, хто яшчэ не зразумеў, у чым па законе павінна быць прызначэнне суда. Не кажучы тых, хто паўстаў перад ім, а абараняць! Суд існуе, перш за ўсё, для абароны грамадзян, а не для іх асуджэння. У гэтым — прынцыповае адрозненне суда ў дэмакратычнай дзяржаве ад суда ў таталітарнай сістэме ўлады.

Тое ж кажа і Кодэкс «Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў». Паводле яго, прыярытэтная задача судоў — абарона гарантаваных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь правоў і свабод грамадзян. У Кодэксе таксама адзначаецца, што суды ажыццяўляюць правасуддзе ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і «… іншымі нарматыўнымі прававымі актамі».

**У адміністрацыйных справах рашэнні суда нярэдка прымаюцца на падставе сведчанняў работнікаў міліцыі, якія нават не бачылі асоб, прыцягнутых да адказнасці. І добра яшчэ, калі сведкі-міліцыянты асабіста з'яўляюцца ў суд. Іншым разам «суткі» можна атрымаць толькі паводле**

Аднак зараз суддзі практычна не ажыццяўляюць праваабарончую функцыю. Суды, як правіла, не прымаюць да разгляду скаргі на неправамерныя дзеянні органаў кіравання і службовых асоб. Шмат разоў грамадзяне Беларусі спрабавалі падаць у суд на Аляксандра Лукашэнку і вышэйшых чыноўнікаў. Але заяўнікам прыходзяць адпіскі з фармулёўкай: «Разгляд іску не ў кампетэнцыі суду». Хацелася б даведацца, у чыёй жа ён тады кампетэнцыі?

У адміністрацыйных справах рашэнні суда нярэдка прымаюцца на падставе сведчанняў работнікаў міліцыі, якія нават не бачылі асоб, прыцягнутых да адказнасці. І добра яшчэ, калі сведкі-міліцыянты асабіста з'яўляюцца ў суд. Іншым разам «суткі» можна атрымаць толькі паводле напісаных міліцыянтамі шаблонных пратаколаў. У крымінальным працэсе суддзі часцей за ўсё аддаюць перавагу дзяржаўнаму абвінаваўцы, пакідаючы без увагі аргументы абароны.

Канстытуцыйны суд не ўпаўнаважаны разглядаць скаргі грамадзян на парушэнне іх правоў і свабодаў. Па сутнасці, ён «бесстаронне» назірае, як парушаюцца канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян, у тым ліку ў нарматыўных актах, выдадзеных вышэйшымі органамі ўлады.

### Абарона — справа доўгая

Пасля рэферэндуму 1996 года ў Канстытуцыю быў уключаны артыкул 61, згодна з якім кожны мае права ў адпаведнасці з міжнародна-прававымі актамі, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь, звяртацца ў міжнародныя арганізацыі з мэтай абароны сваіх правоў і свабод, калі вычарпаныя ўсе наяўныя ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны.

Пакуль што грамадзянам Беларусі можна скардзіцца толькі ў адну інстанцыю — Камітэт ААН па правах чалавека ў Жэневе. Ён прымае да разгляду індывідуальныя скаргі на дзеянні нацыянальных уладаў, калі тыя парушаюць правы і свабоды, прадугледжаныя ў Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах.

У гэтую інстанцыю могуць звяртацца грамадзяне ўсіх дзяржаў-сябраў ААН, а такіх зараз — 193 краіны. Адпаведна, скаргаў там больш чым дастаткова. Таму чакаць «чаргі» на разгляд прыходзіцца гадамі. Але найбольш прынцыповыя грамадзяне туды ўжо «праклалі дарожку». КПЧ ААН вынес каля 60 рашэнняў па скаргах грамадзян Беларусі, і амаль ва ўсіх выпадках прызнаў, што ўлады краіны дапусцілі парушэнне сваіх міжнародных абавязацельстваў.

Здавалася б, трэба прызнаць свае памылкі і выканаць патрабаванні ААН. Але ўлады не хочуць лічыцца ні з міжнароднымі абавязацельствамі, ні з нормамі Канстытуцыі. Усе рашэнні КПЧ ААН у адносінах да грамадзян Беларусі застаюцца не выкананымі. Юрыдычна гэта можна кваліфікаваць як злачынную бяздзейнасць, якая носіць працяглы характар.

### А ў вас ёсць адвакат?

У адпаведнасці з часткай 1 артыкула 62 Канстытуцыі, кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыццяўлення і абароны сваіх правоў і свабодаў. Гэта значыць, што ў любы момант можна карыстацца дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, у адносінах са службовымі асобамі і грамадзянамі. Згодна з часткай 2 гэтага артыкула, супрацьдзеянне аказанню прававой дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь забараняецца.

Такім чынам, дзеля абароны сваіх інтарэсаў грамадзянін мае права запрасіць не толькі адваката, але і «іншых прадстаўнікоў». Прычым абрацы гэтых прадстаўнікоў па сваім жаданні. Чалавек можа карыстацца іх дапамогай не толькі ў судзе, а ў любых дзяржаўных органах (міліцыі, пракуратуры, судах, следчых ізалятарах, турмах, калоніях і інш.), прадпрыемствах, установах, арганізацыях і г.д. Для гэтага дастаткова аформідь дакументы аб прадстаўніцтве.

На самай жа справе суддзі «адводзяць» прадстаўнікоў простым пытаннем: ці ёсць у яго юрыдычная адукацыя? У заканадаўстве не замацавана такое патрабаванне, але гэта часцяком з'яўляецца падставай для недапуску прадстаўніка, напрыклад, да ўдзелу ў судовым працэсе. Аказанне ж юрыдычнай дапамогі ў Беларусі фактычна манапалізавана адвакатамі.

З аднаго боку, гэта апраўдана, бо адвакаты з'яўляюцца найбольш кваліфікаванымі юрыстамі. Але з іншага, не кожнаму паслугі адваката «па кішэні», а бясплатная юрыдычная дапамога аказваецца толькі ў выключных выпадках. Дый наконт якасці «бясплатнай абароны» даволі шмат пытанняў. Існуе нават показка: «Дзяржаўны адвакат — памочнік пракурора». Самі адвакаты і іх арганізацыі знаходзяцца пад шчыльным кантролем дзяржаўных органаў. Ужо неаднаразова адвакатам самім была патрэбная абарона — за абарону палітычных апанентаў улады іх проста пазбаўлялі адвакацкай ліцэнзіі.

Каму патрэбная такая дарагая і ў той жа час падкантрольная ўладзе юрыдычная дапамога? Чаму ўлады не жадаюць дапусціць шырокае прадстаўніцтва з боку іншых грамадзян, як таго патрабуе Канстытуцыя? Відавочна, што сістэма юрыдычнай дапамогі павінна быць больш даступная і разнастайная, і манаполію адвакатуры ў гэтай сферы варта скасаваць.

### Абмежаванні — выключэнне

Канстытуцыя зыходзіць з таго, што грамадзянін можа разлічваць на поўнае ажыццяўленне ўсіх сваіх правоў і свабод. Абмежаванне на іх выкананне можа дзейнічаць толькі ў экстрэмальных сітуацыях. Згодна з артыкулам 63 Канстытуцыі, — толькі ў выпадку ўвядзення ў краіне надзвычайнага або ваеннага становішча.

Зразумела, што ваеннае ці надзвычайнае становішча ўводзіцца не проста так, і яно павінна ўводзіцца па закону. Але і ў такім становішчы «скасоўваюцца» не ўсе правы і свабоды грамадзянаў. Так, не дапускаецца абмежаванне права на абарону жыцця ад любых супрацьпраўных замахаў, у тым ліку з боку ўладаў (арт. 24); права не падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму годнасць абыходжанню або пакаранню (ч. 3 арт. 25); права не прызнавацца вінаватым у здзяйсненні злачынства да таго часу, пакуль віна не даказаная ва ўстаноўленым законам парадку (арт. 26); права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі (арт. 31).

Але ж і без увядзення надзвычайнага або ваеннага становішча канстытуцыйныя гарантыі правоў і свабод грамадзян практычна «не працуюць». Дзяржава, яе органы і службовыя асобы не выконваюць сваіх абавязацельстваў перад грамадзянамі, пакідаючы іх бяспраўнымі і безабароннымі. Што з гэтым можна зрабіць?

*Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.*

# Прымусовыя людзі не прыдатныя да рэформаў

**Чаму выкладчыкі не хочуць рэформаў, а ўлады на іх эканомяць? Пра гэта разам з “Заўтра тваёй краіны” разважае сябра Грамадскага Балонскага камітэта, прафесар філасофіі Уладзімір Дунаеў.**



***— Сярод шасці прыярытэтаў Форум палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці абраў два — рэформу сістэмы адукацыі і медыясферы. Над імі эксперты праекта «Рэфорум» будуць працаваць на працягу бліжэйшага года. Чаму менавіта рэформа адукацыі?***

— Акрамя актуальнасці, ёсць яшчэ адзін важны фактар — наколькі рэалістычна сёння чакаць пэўных крокаў па рэфармаванні той ці іншай сферы?

Сёння ёсць матывацыя пачынаць рэформы. Гэта звязана з чарговай спробай Беларусі ўступіць у Балонскі працэс — рашэнне будзе прымацца на пачатку 2015 года. А прадстаўленне Нацыянальнага дакладу з тлумачэннямі, у якой ступені краіна гатовая прыняць еўрапейскія каштоўнасці і мэты палітыкі ў сферы вышэйшай адукацыі, прызначана на канец лістапада. Гэтыя працэсы павінны матываваць дзяржаву прывесці беларускую сістэму вышэйшай адукацыі ў адпаведнасць з еўрапейскімі нормамі, хаця б на ўзроўні заканадаўства.

Акрамя таго, да канца года Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу павінна разглядзець новую рэдакцыю Кодэкса аб адукацыі. Ёсць прапановы Мінадукацыі, але яны шмат у чым не адпавядаюць нават тым чаканням, якія на іх ускладала частка чыноўнікаў і цалкам лаяльных прадстаўнікоў дзяржаўных ВНУ. Таму ёсць магчымасць паспрабаваць максімальна мадэрнізаваць гэтыя прапановы з дапамогай еўрапейскіх экспертаў.

***— Наколькі дзяржава зацікаўлена сёння ў тым, каб правесці сапраўдныя, а не касметычныя рэформы?***

— Пакуль наша сістэма адукацыі зусім беспакарана ігнаруе нават тыя палажэнні і нарматывы, якія ёсць. Пераацэньваць ролю рэформы заканадаўства не варта. Але і без рэформы заканадаўчай базы разлічваць на рэальную мадэрнізацыю нельга.

Зараз пра дзяржаву. Тут я б увогуле адмовіўся ад выкарыстання гэтага слова ў адзіным ліку. Дзяржава неаднастайная. І ў гэтай неаднастайнасці ёсць і пазітыўныя, і негатыўныя бакі. Парламенцкая дыскусія аб рэформах адукацыйнага заканадаўства, якая прайшла ў пачатку снежня мінулага года, паказала, што ў прадстаўнікоў многіх галін улады ёсць запыт на правільны, з нашага пункту гледжання, трэнд. Напрыклад, была агучана неабходнасць дэцэнтралізацыі адукацыі. Ёсць разуменне, што створаны механізм адукацыйнай палітыкі — контрпрадуктыўны. І вядзе да крыклівай дыспрапорцыі — напрыклад, да неэфектыўнасці сістэмы фінансавання адукацыі. Нават прадстаўнікі ўлады ўжо кажуць аб праблемах адкрыта. Пра гэта, у прыватнасці, казаў віцэ-прэм’ер Анатоль Тозік. Ды і аўтар формулы самабытнасці беларускай сістэмы адукацыі Анатоль Рубінаў, які заявіў у 2008 годзе: «Што немцу добра, беларусу — смерць», вымушаны канстатаваць, што мы ідзем кудысьці не туды.

Распрацоўка адукацыйнай палітыкі не можа ажыццяўляцца з дапамогай гіперцэнтралізацыі. Тады ўвогуле губляецца магчымасць кіравання гэтай сферай.

Асноўная наша задача — не спарадзіць яшчэ адзін праект рэформаў, а дамагчыся рэальных зменаў. Важная не толькі экспертыза, але і адвакатаванне гэтых прапаноў. Улада хутчэй пачуе рэкамендацыі ад замежных спецыялістаў, чым ад прадстаўнікоў сваёй грамадзянскай супольнасці. Так ужо наладжаны слыхавы апарат нашай улады. Магчыма, прапановы, калі яны будуць зыходзіць ад еўрапейскіх экспертаў, здадуцца ёй больш пераканаўчымі і менш палітызаванымі.

***— Зразумела, што сістэме адукацыі неабходныя заканадаўчыя змены. Можна, мабыць, прапісаць у законе тыя ж акадэмічныя свабоды. І нават выконваць гэтыя нормы на практыцы. Аднак ці вырашыць гэта праблемы беларускай адукацыі?***

— Вядома, праблемы глыбей. Але і без імплементацыі падобнага роду нормаў нічога не зменіцца. Нават у позднесавецкую эпоху — не будзем яе ідэалізаваць, — заканадаўчая база сістэмы адукацыі была больш ліберальнай. Гэтую сістэму Беларусь атрымала ў спадчыну ад СССР. І як яна ёй скарысталася?

Яшчэ раз паўтаруся — без заканадаўчых змен рэформы неажыццяўляльныя. Нават калі з’яўляецца група рэфарматараў, гатовых ажыццявіць перамены, ім патрэбна заканадаўчая база. Пачынаць трэба з гэтага. Разам з заканадаўчымі зменамі трэба думаць і аб перабудове акадэмічнай культуры, арыентацыі на еўрапейскія імператывы. Але пакуль важна пазначыць добрыя намеры.

***— Пакуль настаўнікі і ўніверсітэцкія выкладчыкі атрымліваюць капейкі, не будзе прэстыжу прафесіі, прытоку таленавітых спецыялістаў. Не будзе добрых настаўнікаў у школах — не будзе падрыхтаваных студэнтаў. Не будзе высокага ўзроўню выкладчыкаў у ВНУ — не будзе спецыялістаў. А ў ВНУ, нягледзячы на ўсе прапісаныя ў законе акадэмічныя свабоды, будуць паступаць тыя ж троечнікі. І таленавітых выкладчыкаў з іх не выйдзе. Кола замкнулася.***

— Давайце не будзем забываць, што Беларусь тут не з’яўляецца першапраходцам. І не вырашае праблем, якіх ніхто ніколі не вырашаў. Гэта агульная праблема для ўсіх. І той жа Балонскі працэс у вышэйшай адукацыі — гэта, у першую чаргу, калектыўны пошук адказаў на такія пытанні. Напрыклад, на праблему якасці адукацыі ва ўмовах яе масавасці. Нашы чаканні ад вышэйшай адукацыі да гэтага часу звязаны з індустрыяльнай эпохай. І мы забываем, што жывем у эпоху постіндустрыяльную. Што гэта значыць? Тое, што ў сярэдзіне XX стагоддзя вышэйшую адукацыю атрымлівалі 10% моладзі. А сёння — 85%. Зразумела, што гэта зусім розныя магчымасці. І тое, што калі ў нас так павялічылася колькасць студэнтаў, то і колькасць выкладчыкаў павінна была ўзрасці. А дзе сістэма іх селекцыі? Выкладчыкаў трэба аднекуль браць. І гэта не толькі фінансавая праблема — колькасць таленавітых людзей таксама абмежаваная. У 1960-я гады ў Беларусі было 10 тысяч студэнтаў, а цяпер — 430 тысяч. Рост велізарны. І чакаць, што паўмільёна можна навучыць гэтак жа, як 60 тысяч, не даводзіцца.

Трэба разумець — якіх мэтаў мы можам дасягнуць, а якіх — не. Тая ж Балонская сістэма пабудавана на трох прыступках. Першая — бакалаўрэат. А затым ідзе селекцыя. І калі браць сярэднюю колькасць магістрантаў у развітых краінах — то гэта каля 15 адсоткаў. У нашым выпадку — гэта і будуць тыя ж самыя 60 тысяч. Гэта тыя, хто зможа прадэманстраваць поспехі на адабраных праграмах. Далей ідуць доктарскія праграмы — гэта ўжо падрыхтоўка навукоўцаў, яшчэ больш высокі ўзровень кваліфікацыі. А ў нас на магістарскай прыступцы ў мінулым годзе займаліся 1,5% студэнтаў. 15% і 1,5% — ёсць розніца? Беларусь дэманструе дэградацыю прафесіяналізму.

Без сур’ёзных інвестыцый тут сапраўды мала што можна зрабіць. Аднак у тым, што тычыцца вышэйшай адукацыі, Беларусь дэманструе незразумелую скупасць. Кошт аднаго студэнцкага месцы ў Беларусі — больш за 2 тысячы долараў у год. У сярэднім у развітых краінах — каля 14 тысяч долараў. Прычым гэта з улікам парытэту пакупніцкай здольнасці.

**Ці хочуць рэформаў выкладчыкі? Гэта складанае пытанне, бо нашы выкладчыкі бяспраўныя, і ў іх няма ніякіх гарантый таго, што кантракт з ім не скасуюць датэрмінова**

І яшчэ лічбы — у развітых краінах на навучанне студэнта траціцца 45% долі ВУП на душу насельніцтва, а ў нас толькі 15%. А наш ВУП і ВУП развітых краін таксама нельга супаставіць.

Плюс мы неэфектыўна выкарыстоўваем нават тыя сродкі, якія ў нас ёсць. На ўсё гэта напластоўваецца непразрыстасць — скажам, тыя, хто плаціць за навучанне, не ведаюць, на што ідуць іх грошы.

Дададзім сюды яшчэ адзін архіважны складнік — сістэму акадэмічных каштоўнасцяў. Калі гэта такія вось «самабытныя» каштоўнасці, якія ператвараюць адукацыю ў сталінскую «шарашку», то казаць аб якасці не даводзіцца. Акадэмічныя свабоды — гэта інструмент, які павышае эфектыўнасць вышэйшай адукацыі і даследаванняў.

Так што пакуль мы навучыліся толькі эфектыўна ўхіляцца ад міжнародных методык ацэнкі якасці. Ні ў адной такой праграме Беларусь не ўдзельнічае. І пакуль суцяшае сябе нейкімі ўласнымі фантастычнымі лічбамі сваіх поспехаў.

***— Аднак у рэформе сістэмы адукацыі ёсць яшчэ настаўнікі, выкладчыкі ВНУ, прафесура. На іх гэтая рэформа таксама накіравана. У гэтым асяроддзі ёсць попыт на рэформы?***

— Рэформа накіравана не на іх, а на студэнтаў, іх бацькоў, на працадаўцаў.

***— Ну, ім, па меншай меры, так ці інакш, трэба будзе прымаць у ёй актыўны ўдзел. І яны могуць стаць ахвярамі гэтай рэформы.***

— Рана ці позна яны ўсё роўна стануць ахвярамі. Але што важна — калі мы гаворым пра рэформы, мы кажам, у першую чаргу, аб змене маштабаў грамадскага ўдзелу. Важна, каб стэйкхолдэры атрымалі рэальны доступ да кіравання, каб іх голас чулі выкладчыкі. Сёння выкладчык цалкам незалежны ад запытаў працадаўцы. Выкладчык залежыць толькі ад уласнага начальства. І начальству, а не студэнтам, іх бацькам, працадаўцам ён і будзе дагаджаць. Але ж не начальства з’яўляецца спажыўцом паслугі пад назвай «адукацыя».

Чаму заказчыкі не могуць аспрэчыць якасць гэтай паслугі, тым больш што наша адукацыя ўсё больш камерцыялізуецца?

Ці хочуць рэформаў выкладчыкі? Гэта складанае пытанне, бо нашы выкладчыкі бяспраўныя, і ў іх няма ніякіх інструментаў, каб выказваць сваё меркаванне. Саветы ў нашых установах адукацыі бяспраўныя. Незразумела нават, як дзейнічаюць механізмы іх фармавання. У выкладчыка няма гарантый таго, што, калі ён будзе чагосьці хацець, кантракт з ім не скасуюць датэрмінова. Так што ўсё вырашае воля начальства. А выкладчыку нічога не застаецца, акрамя як дагаджаць. Да чаго могуць быць гатовыя такія прымусовыя людзі?

Гэта і ёсць разбурэнне акадэмічнай культуры. Сучасны беларускі трэнд, які абсалютна процілеглы сусветнаму. І казаць пра тое, што мы адпавядаем Балонскаму працэсу, пакуль не даводзіцца. Таму нам так неабходныя рэформы.



# Смерць студэнта

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**26 ліпеня 1984 года, каля 16 гадзін, з акна апошняга паверха галоўнага корпуса БДУ выкінуўся былы студэнт філасофскага аддзялення гістарычнага факультэта Алег Малашчук.**

Гэта самагубства амаль ніхто не заўважыў. Аднакурснікі Малашчука ўжо скончылі ўніверсітэт, студэнты былі на вакацыях, выкладчыкі — у адпачынках. А рэктарат пастараўся не надаваць справе розгаласу.

Усё пачалося ў красавіку 1981 года. Узгадвае Віктар Ламака, тады студэнт II курсу: «Аднойчы Анатоль Агапеевіч Круглоў вёў семінар па навуковым атэізме, і я ў яго нешта спытаў. Але замест адказу пачуў: «Ламака, ты дурак или притворяешься?» Мы выйшлі на перапынак. І нашы дзяўчаты пачалі абурацца: «Што гэта ён сабе дазваляе?!» Ну, і пайшло, сталі ўзгадваць, хто з выкладчыкаў мае якія хібы».

Неўзабаве ўтварылася група па напісанні калектыўнага звароту, у якім былі б пералічаныя ўсе крыўды і пажаданні студэнтаў. Да складання звароту далучыліся муж другакурсніцы Іны Войцкай студэнт IV курсу Валеры Залатар ды яго сябры. Зварот пісалі ў Крыжоўцы, дзе жылі Іна і Валеры. У працэсе ўдзельнічалі яшчэ і студэнткі II курсу Ірына Нікіціна і Галіна Квасіновіч.

На жаль, тэкст калектыўнага звароту страчаны, таму поўны спіс патрабаванняў немагчыма аднавіць. Архіўныя дакументы (пратаколы партыйных і камсамольскіх сходаў) кажуць пра два галоўныя патрабаванні: вольнае наведванне заняткаў і стварэнне камітэта студэнцкага кантролю за навучальным працэсам. Але агульная колькасць пунктаў набліжалася да тузіна.

Студэнты прасілі замяніць некаторых выкладчыкаў; развесці ў часе спецкурсы па філасофіі і сацыялогіі, каб мець магчымасць наведваць дадаткова спецкурсы не свайго профілю; скараціць колькасць гадзін на гісторыю КПСС і павялічыць на філасофскія дысцыпліны. Турбавалі студэнтаў і бытавыя праблемы: некаторыя заняткі праходзілі ў аўдыторыі над спартзалай, і шум не даваў сканцэнтравацца; графік заняткаў у другую змену быў нязручны.

Подпісы пад зваротам збіраліся пасля арганізаваных самімі студэнтамі пазачарговых камсамольскіх сходаў. Узгадвае тагачасны чацверакурснік Леанід Свярдлоў: «Я зашёл в аудиторию. Сидит народ. Говорят, собрание. И, по-моему, Витя Шихутин говорит, что вот тут студенты-второкурсники предлагают такое дело. Прочитал. Я тогда впервые увидел текст этого «Обращения...». Я подписал, передал дальше. Люди подписывали, особо не заморачиваясь, поскольку не видели в этом крамолы».



Галоўны корпус БДУ. З аднаго з гэтых вокнаў (пазначаны стрэлкай) зрабіў свой апошні крок Алег Малашчук



Студэнты філасофскага аддзялення ва ўнутраным дворыку БДУ і на занятках. Здымкі з прыватных архіваў колішніх студэнтаў. На жаль, фота самога Алега Малашчука аўтару адшукаць не ўдалося

Гэты сход на IV курсе прайшоў 18 красавіка 1981 года. Дата захавалася ў дзённіку Тацціяны Буйко, тады камсорга курса, якая склікала сход па просьбе стваральнікаў дакумента. Аналагічны сход на II курсе прайшоў раней (13 красавіка), на III курсе — пазней.

Натуральна, пра збор подпісаў стала вядома і ў дэканаце, і ў партыйных органах, і ў КДБ. Але ніхто рэагаваць не спяшаўся. Набліжаўся Дзень філосафа. Карныя органы чакалі, што студэнты адколюць нешта такое, за што іх можна будзе ўзорна пакараць, а заадно і зварот узгадаць.

У 1981 годзе Дзень філосафа адзначалі 23 красавіка. Дзень адзначаўся «капуснікам», а таксама сцяной студакратыі. На пятым паверсе галоўнага корпуса БДУ, дзе быў дэканат гістфака, вывешваліся вялізныя аркушы паперы, на якіх кожны студэнт тэарэтычна мог напісаць тое, што хоча.

У той дзень здарыўся галалёд, многія студэнты не даехалі ў час, і пастаноўка сарвалася. Найбольш рызыкоўныя жарты не прагучалі.

Затое на кафедры марксісцка-ленінскай філасофіі гуманітарных факультэтаў зніклі журналы наведвання. Адначасова ў галоўным корпусе нехта зняў расклад заняткаў філасофскага аддзялення. І ўся група II курса філасофскага аддзялення не прыйшла на заняткі. Пачалі шукаць вінаватага — і знайшлі.

6 траўня 1981 года на пасяджэнні камітэта камсамола гістфака вядомага жартаўніка, студэнта II курса Аляксандра Жаўняровіча выключылі з камсамола за тое, што нібыта ён зняў расклад заняткаў філасофскага аддзялення і скраў журналы ўліку наведвання.

Потым яго пад пагрозай выключэння з універсітэта прымусілі напісаць дакладную на студэнта IV курса аддзялення філасофіі Леаніда Свярдлова, нібыта журналы і расклад заняткаў яны схавалі разам. За гэта выключэнне з камсамола Жаўняровічу замянілі на строгую вымову з занясеннем у ўліковую картку. Да дакладной Жаўняровіча далучылі яшчэ пару дакладных на Свярдлова аўтарства іншых студэнтаў, і 13 траўня пастанавілі выключыць Свярдлова з камсамола.

Пратакол гістфакаўскага камсамольскага паседжання ад 6 траўня ў далейшым знікне з архіва камсамола БДУ (замест яго ўзнікне іншы пратакол — ад 13 траўня, пад тым самым нумарам — 14), але яго копія застанецца неабачліва пакінутай у персанальнай справе Свярдлова ў абкаме камсамола.

Узгадалі і калектыўны зварот (тэкст якога студэнты перадалі надзейнай выкладчыцы): за ўдзел у яго складанні з камсамола выключылі студэнтку II курса Іну Войцкую, некалькім іншым другакурснікам далі строгія вымовы з занясеннем на ўліковую картку. Па аддзяленні філасофіі прайшоў шэраг камсамольскіх і партыйных сходаў з шальмаваннем як самой ідэі пісаць звароты, так і канкрэтных патрабаванняў студэнтаў. З многімі студэнтамі праводзілі індывідуальныя гутаркі камсамольскія важакі, выкладчыкі, прадстаўнікі дэканата і нават «людзі з органаў». Некаторых спрабавалі запалохаць праз бацькоў.

Выключэнне з камсамола аўтаматычна цягнула за сабой выключэнне з універсітэта. Таму лагічна, што Леанід Свярдлоў і Іна Войцкая паспрабавалі яго абскардзіць. Сітуацыя Войцкай была абцяжарана шматлікімі прагуламі заняткаў і акадэмічнай запазычанасцю, а вось Свярдлоў быў выдатнікам.

Яго падтрымалі аднагрупнікі і, у выніку Леанід дамогся (на ўзроўні ЦК ЛКСМБ!) замены выключэння на «строгую вымову з занясеннем» і здолеў скончыць універсітэт.

Былі выключаны з універсітэта яшчэ двое студэнтаў — другакурснік Алег Малашчук і чацверакурснік Валеры Залатар. Малашчук быў выкліканы ў КДБ. Невядома, пра што з ім там размаўлялі, але пасля гэтай гутаркі ён сам пайшоў запісвацца ў войска. Яго ўсё адно выключылі — заднім чыслом. Валерый Залатар спрабаваў перавесціся на завочнае аддзяленне, і яго нібыта перавялі, але затым адразу выключылі.

Большасць з тых, хто падпісаў ліст, была шчырымі камсамольцамі, адкуль жа такая рэакцыя? Успамінае Уладзімір Казлоўскі, на той час студэнта I курса аддзялення гісторыі:

«О тех событиях говорили очень мало. Слышал, что рассматривали дело на заседании комитета комсомола по поводу какого-то письма. Написали письмо в поддержку «Солидарности». Это письмо через какого-то польского студента пытались переслать, а оно оказалось в руках КГБ. И начались преследования. Вот то, что я слышал...»

Нагадаю, гэта быў 1981 год, у Польшчы прафсаюз «Салідарнасць» і незалежныя студэнцкія саюзы дзейнічалі напаўлегальна. КДБ вельмі нервова рэагаваў на любыя весткі пра падобныя настроі ўнутры СССР.

КДБ ужо назіраў раней за Валерыем Залатаром, выклікаў у аддзел кадраў для тлумачэнняў пра «сумнеўныя сувязі». «Я всегда был антикоммунистом, антисоветчиком. Мы с Инной слушали западные «голоса», мы знали о Солженицыне, о Сахарове. С моей стороны было предложение, существенно углубившее содержание обращения. Говорю: «Инна, напиши, что мы создадим Комитет студенческого контроля для наблюдения за учебным процессом чтобы минимизировать вмешательство официальной идеологии в обучение», — узгадвае Валерый Залатар.

Паколькі ў Польшчы ў гэты час быў папулярны лозунг: «Не падпальвайце камітэты — ствaрайце камітэты!», патрабаванне студэнтаў стварыць камітэт магло ўспрымацца начальствам як рэвалюцыйнае.

Але вернемся да Алега Малашчука. Алесь Камоцкі, аднакурснік і сябар Алега, успамінае: «Харошы хлопец быў, з ідэаламі... Начытаны такі, з жывым розумам. Ён быў дыялектычны, і мог на грунтах нейкіх розных ведаў выводзіць новыя свае. Творчы быў, і вельмі гэтым быў цікавы, і вельмі нечаканыя мог рабіць высновы з таго, што мы разам чулі ці разам бачылі. Але яму не было дзе прымяніцца. Трошкі не ў свой час, выскачыў са сваімі ідэаламі. І аб гэта ён і разбіўся».

Згадвае Ірына Нікіціна: «Он совершенно не был приспособлен для армии. Такой мальчик из интеллигентской семьи, рафинированный, с чувством юмора. И, наверное, ему было очень тяжело». Таму здарылася так, што 22 сакавіка 1982 года Алег Малашчук быў асуджаны ваенным трыбуналам вайсковай часткі 55454 за «воінскае злачынства, прадугледжанае артыкулам 235а Крымінальнага кодэкса БССР».

«У него была неудачная попытка дезертировать, его словили в Москве и возвратили уже в дисциплинарный батальон в Масюковщине. Когда он сидел в дисбате, мы с Инной неоднократно приезжали к нему, привозили сигареты и всё остальное», — дадае Валерый Залатар.

Пасля дэмабілізацыі Алег уладкаваўся на Брэсцкі дыванова камбінат, атрымаў там станоўчую характарыстыку, і з ёй паспрабаваў летам 1984 года ўзнавіцца на філасофскім аддзяленні. Але спачатку дэкан гістфака Іраіда Царук, а потым прарэктар Пятраеў адмовілі хлопцу. Некалькі дзён ён думаў. А потым запрасіў сваіх сяброў прыйсці ў 16 гадзін 26 ліпеня на плошчу Леніна да галоўнага корпуса БДУ.

Сябры не змаглі прыехаць. І гэта зберагло ім нервы і, мусіць, гады жыцця. «В день самоубийства Малащук продолжительное время находился в кабинете №604 главного корпуса БГУ, где читал подшивку литературной газеты, затем в аудитории №609 на подоконнике аккуратно сложил пуловер, часы, сигареты, спички, носовой платок, разменную монету столбиком и в соседней аудитории №611 мелом на ученической доске оставил предсмертную надпись на белорусском языке, в которой попрощался с людьми и пожелал им счастья. В кармане брюк он оставил записку с просьбой сообщить родителям о случившемся в г. Кобрин, указал адрес и телефон».

Бацькі Алега патрабавалі завесці крымінальную справу па факту яго смерці. Ім адмовілі: праверка, праведзеная пракуратурай Маскоўскага раёна, паказала, што, маўляў, ніхто яго да самагубства не даводзіў.

Распаведы і чуткі пра калектыўны зварот і самагубства яшчэ некалькі год блукалі па калідорах гістфака. Самазабойства Алега Малашчука згадваецца ў апублікаваных дзённікавых запісах Міхала Дубянецкага, а ўся справа з калектыўным зваротам студэнтаў-філосафаў — у нататцы, напісанай Ігарам Бабковым для даведніка «Дэмакратычная апазіцыя Беларусі: 1956–1991. Пэрсаналіі і кантэкст».

# TV

## 30 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Прыгодніцкі серыял «Востраў непатрэбных людзей» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Выратаваць або знішчыць» (Расія). 3 серыя.
**16.35** Гістарычная драма «Вольф Месінг: бачыў скрозь час» (Расія).
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**19.20** Спецыяльны рэпартаж.
**19.40, 00.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы».
**21.00** Панарама.
**21.45** «Вялікая вайна». Дак. фільм. 3 серыя.
**22.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.55** Дзень спорту.
**01.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Фазэнда».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.50** «Пад прыкрыццём». Тэлесерыял.
**23.50** Прэм'ера «Гамора».
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.55** «Нам і не снілася».
**09.55** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Смяротная зброя 3». ЗША, 1992г.
**16.00** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мінчшына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Кавалер». ЗША, 1999г.
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.15** Фільм «Фламенка, фламенка». Іспанія, 2010г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «План» Б «(Расія).
**10.05** Беларуская кухня.
**10.50** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.40** Вострасюжэтны баявік «Паляванне» (Расія). 3. Серыя.
**12.40** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія-Францыя). 2-я серыя.
**13.50** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**14.50** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**15.50** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**17.00** Рэпарцёр.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «План» Б (Расія).
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.50** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія-Францыя). 3. Серыя.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**22.35** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.45** Вострасюжэтны баявік «Паляванне» (Расія). 3. Серыя.
**00.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Вялікі тэатр.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Без сына не прыходзь».
**09.30** «Маёр Ветраў». Мастацкі фільм па матывах твораў Мікалая Чаргінца. Частка першая «Міратворац».
**10.25** «Сімвал Перамогі». Польшча. Загінуўшым на Одэры.
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра тэатра юнага гледача Андрэя Андросіка.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.25** «Дэпутат Балтыкі». Мастацкі фільм.
**12.55** «Калейдаскоп».
**13.05** «Сімвалы эпохі». Вялікі тэатр.
**13.20** Сімфанічны «ІР аркестр» і Алег Мінакоў.
**14.40** «Размаўляем па-беларуску».
**14.45** «Шамбала». Дак. фільм пра дзівосныя мясціны прыроды - беларускія балоты.
**15.15** «Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь - 90 гадоў». Дакументальны фільм.
**15.30** «Падарожжа са смакам». Вена.
**16.05** «Мая настаўніца Айша». Дак. фільм.
**16.20** Серыял. «Пракляты ўтульны дом». 10-я серыя.
**17.00** «Размаўляем па-беларуску».
**17.10** «Душа мая з імем жаночым». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць пісьменніцы Элізы Ажэшкі.
**17.30** «Стальныя звяры». Дакументальны фільм пра бранятанкавую тэхніку Германіі і СССР другой сусветнай вайны. 1-я і 2-я серыі.
**18.25** «Калейдаскоп».
**18.35** «Сімвалы эпохі». Вялікі тэатр.
**18.50** Мультфільмы.
**19.35** «Размаўляем па-беларуску».
**19.40** Дзіцячы фільм «Прыгоды Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя». 1 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.15** «Маёр Ветраў». Мастацкі фільм па матывах твораў Мікалая Чаргінца. Частка другая «Гераін».
**22.05** «Сімвал Перамогі». Польшча. Загінуўшым на Одэры.
**22.35** «Гусарская балада». Мастацкі фільм.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра тэатра юнага гледача Андрэя Андросіка.
**00.30** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Манчэстэр Юнайтэд - Інтэр.
**10.00** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард.
**12.05** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Рэал - Рома.
**13.55** Спорт-кадр.
**14.40** Воднае пола. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Паўфіналы.
**17.15** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Манчэстэр Юнайтэд - Інтэр.
**19.10** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард.
**21.15** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Рэал - Рома.
**23.05** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**09.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі.
**09.15** Басаножпа свеце.
**09.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**09.55** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**10.35** «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**11.25** «Лонданцы», серыял: 8 серыя.
**17.00** Басаножпа свеце (спазнаваўчая праграма).
**17.25** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Павел Касцюкевіч.
**17.40** «Глыбокая вада – 2», серыял: 4 серыя.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Як звярталіся прадзеды?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.20** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць у жыцці беларускіх жанчын месца асалодзе?: ч. 1.
**19.40** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Якуб Ясінскі.
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**20.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**20.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Людская справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): Забытыя скарбы: чаму не цэнім спадчыны?
**21.55** «Катынь. Праз 70 гадоў», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**22.30** «Белая візітоўка», серыял: 1 серыя.
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.30** Аб'ектыў.

## 31 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы».
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.10** Прыгодніцкі серыял «Востраў непатрэбных людзей» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Выратаваць або знішчыць» (Расія). Заключная серыя.
**16.35** Гістарычная драма «Вольф Месінг: бачыў скрозь час» (Расія).
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** «Вялікая вайна». Дакументальны фільм. Заключная серыя.
**22.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.05** Вечар цяжкага дня.
**00.55** Сфера інтарэсаў.
**01.30** Дзень спорту.
**01.40** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Фазэнда».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.50** «Пад прыкрыццём». Тэлесерыял.
**23.50** Прэм'ера «Гамора».
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Нам і не снілася».
**09.55** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Кавалер». ЗША, 1999г.
**15.40** «Мае цудоўныя...».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мінчшына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон 5». ЗША - Канада, 1993г.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Кашмар на вуліцы Вязаў». ЗША, 1984 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «План» Б «(Расія).
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.35** Вострасюжэтны баявік «Паляванне» (Расія). Заключная серыя.
**12.35** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія-Францыя). 3. Серыя.
**13.40** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**14.45** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**15.45** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**16.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.25** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «План» Б «(Расія).
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.45** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія-Францыя). 4-я серыя.
**20.50** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**22.30** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.40** Вострасюжэтны баявік «Паляванне» (Расія). Заключная серыя.
**00.30** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў» .

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Духі «Красная Москва».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Прыгоды Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя». 1 серыя.
**09.15** «Маёр Ветраў». Маст. фільм па матывах твораў Мікалая Чаргінца. Частка 2 «Гераін».
**10.10** «Сімвал Перамогі». Балгарыя. Алёша.
**10.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці спявачкі Вольгі Шутавай.
**11.05** «Размаўляем па-беларуску».
**11.10** «Гусарская балада». Мастацкі фільм.
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.50** «Сімвалы эпохі». Духі «Красная Москва».
**13.05** «Песня мая». Канцэрт Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2014».
**14.00** «Размаўляем па-беларуску».
**14.05** «Пейзажы скрозь час». «Аліўкавы гай» Рэнуара.
**14.35** «Жыво. Зажынкі. Дажынкі». Дак. фільм.
**14.50** «Давід Ойстрах, народны артыст?» Дакументальны фільм пра яркага прадстаўніка савецкай скрыпічнай школы.
**16.10** «Размаўляем па-беларуску».
**16.15** Серыял «Пракляты ўтульны дом».
**17.00** «Гісторыя аднаой фатаграфіі». Дак. фільм.
**17.20** «Сад маёй душы». Дак. фільм пра Батанічны сад у Мінску і яго супрацоўнікаў.
**17.50** «Персона». Эдзіта П'еха.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.20** «Сімвалы эпохі». Духі «Красная Москва».
**18.35** Мультфільм «Дванаццаць месяцаў».
**19.30** «Размаўляем па-беларуску».
**19.35** Дзіцячы фільм «Прыгоды Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя». 2 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** «Маёр Ветраў». Мастацкі фільм па матывах твораў Мікалая Чаргінца. Частка трэцяя «Сябры».
**22.05** «Сімвал Перамогі». Балгарыя. Алёша.
**22.30** «Царазабойца». Мастацкі фільм.
**00.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці спявачкі Вольгі Шутавай.
**00.40** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Манчэстэр Сіці - Ліверпуль.
**09.20** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард.
**13.25** Футбол. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Францыя - Германія.
**15.20** Футбол. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Бразілія - Калумбія.
**17.15** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Рэал - Рома.
**19.10** Футбол. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Аргенціна - Бельгія.
**21.05** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Манчэстэр Сіці - Ліверпуль.
**23.00** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард. Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** «Людская справы»: Забытыя скарбы: чаму не цэнім спадчыны?
**08.55** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць у жыцці беларускіх жанчын месца асалодзе?: ч. 1.
**09.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Якуб Ясінскі.
**09.25** Басаножпа свеце.
**09.50** Назад у будучыню.
**10.05** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Павел Касцюкевіч.
**10.15** «Глыбокая вада – 2», серыял: 4 серыя.
**11.10** «Катынь. Праз 70 гадоў», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**11.35** «Белая візітоўка», серыял: 1 серыя.
**17.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**17.35** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**17.45** «Глыбокая вада – 2», серыял: 5 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Этыкет продкаў – узор нашчадкам.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.20** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Культура. Адказнасць. СМІ.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Клеафас Агінскі.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Алена Анісім і Вінцук Вячорка.
**21.55** «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**22.30** «Левасуддзе», тэлесерыял: 3 серыя.
**23.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.25** Аб'ектыў.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №8 (96)
(ліпень)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест





Фота Валерыя Дубоўскага

# Вуліца Барадуліна

**Месяц таму распачалася грамадская кампанія «Вуліца Барадуліна» па зборы подпісаў за прыняцце мераў па ўшанаванні памяці Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.**

Перад тым — яшчэ 6 мая 2014 года — Саюз беларускіх пісьменнікаў накіраваў афіцыйны ліст прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь Міхаілу Мясніковічу з хадайніцтвам аб стварэнні Урадавай камісіі па ўвекавечванні памяці Рыгора Барадуліна і прапановамі па ўшанаванні яго спадчыны.

Асноўнымі пунктамі дзейнасці камісіі, на думку Саюза беларускіх пісьменнікаў, павінны былі стаць:

- падрыхтоўка і выданне Поўнага збора твораў Рыгора Барадуліна;
- усталяванне на доме ў Мінску, дзе жыў паэт (вул. Івана Мележа, 4), памятнай шыльды;
- хадайніцтвы аб прысваенні імя Р. І. Барадуліна вуліцам у Мінску і г.п. Ушачы Віцебскай вобласці;
- заснаванне мемарыяльных экспазіцый, прысвечаных жыццю і творчасці Р. І. Барадуліна, у літаратурных музеях Мінска, Віцебска і Ушачаў;
- хадайніцтва аб прысваенні імя Р. І. Барадуліна школе ў г.п. Ушачы;
- усталяванне помніка на магіле паэта;
- падрыхтоўка радыё- і тэлеперадачаў, а таксама дакументальнага фільма пра Р. І. Барадуліна і інш.

На свае прапановы старэйшая пісьменніцкая арганізацыя Беларусі атрымала адказ — не ад кіраўніка Савета Міністраў, а за подпісам намесніка міністра культуры В. М. Чэрніка.

З дакумента вынікае, што, апрача некалькіх лакальных мерапрыемстваў — у прыватнасці, кніжных тэматычных выставак у Музеі гісторыі беларускай літаратуры (які, дарэчы, зачынены на доўгатэрміновы рамонт), Нацыянальнай бібліятэцы, кніжнай выстаўкі і літаратурнага вечара ва Універсітэце культуры і мастацтваў — больш нічога з боку дзяржавы не плануецца.

Памяць творцы агульнанацыянальнага маштабу на малой радзіме мяркуюць ушанаваць, пашырыўшы частку экспазіцыі, прысвечанай Р. Барадуліну, ва Ушацкім музеі народнай славы імя Героя Савецкага Саюза У. Е. Лабанка.

Самыя ж істотныя прапановы Саюза беларускіх пісьменнікаў, згаданыя вышэй, засталіся па-за ўвагай чыноўніцкіх структураў.

«Гэты адказ — звычайная чыноўніцкая адпіска, — пракаментаваў сітуацыю старшыня СБП Барыс Сачанка. Практычна ніводная з прапановаў Саюза беларускіх пісьменнікаў не падтрыманая. Стварэнне Урадавай камісіі па ўшанаванні памяці Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна дзяржава палічыла «не абавязковым». Можа, яно й так... Бо што з таго, што пасля смерці Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (дзевяностагоддзе з дня нараджэння якога мы нядаўна адзначылі) такая камісія была створаная і нават была прынятая адпаведная пастанова Савета Міністраў. Але большасць галоўных пунктаў той пастановы так і не выкананая за адзінаццаць гадоў. Дагэтуль няма вуліцаў Васіля Быкава ў Менску і Гародні, няма шыльдаў на дамах, дзе ён жыў, не выходзіць у дзяржаўным выдавецтве Збор твораў... Прыкра і горка ўсведамляць, што так абыякава беларуская дзяржава ставіцца да памяці пра сваіх лепшых сыноў. Гэты ліст з міністэрства культуры адказ не толькі нам, але і грамадзянскай кампаніі «Вуліца Барадуліна». Але не трэба адчайвацца. Значыць, варта спадзявацца толькі на свае сілы. І першай справай для ўсіх нас — пісьменнікаў, сяброў, прыхільнікаў творчасці Рыгора Барадуліна, павінна стаць дапамога сям'і ва ўсталяванні помніка на магіле Народнага паэта ва Ушачах. Ну і варта працягваць бамбардаваць галовы чыноўнікаў лістамі аб неабходнасці перайменавання вуліцаў, выдання збораў твораў, устаноўкі шыльдаў на дамах, дзе жылі творцы — не толькі Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў, але і тыя, хто сёлета пайшоў ад нас — Анатоль Кудравец, Уладзімір Дамашэвіч, Давід Сімановіч, Генадзь Бураўкін».

Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў прапаноўвае ўсім неабыякавым грамадзянам накіроўваць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь і Мінскі гарвыканкам свае асабістыя звароты з заклікам аб неадкладным і годным ушанаванні памяці пра выдатных нацыянальных творцаў.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**



Фота Алены Казловай

# Школа маладога літаратара

**У магілёўскім грамадскім цэнтры «Кола» адбылася незвычайная вечарына — паказаць свае творы і пазнаёміцца з магілёўцамі прыехалі выпускнікі Школы маладога літаратара, якая ўжо другі год дзейнічае пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.**

У складзе «літаратурнага дэсанту» — сем навучэнцаў Школы з Горадні, Гомеля, Магілёўскага раёна, Менска, а таксама адна з каардынатарак Школы Алена Казлова (Анка Упала) і паэтка Віка Трэнас.

Сустрэлі гасцей сябры гарадскога літаратурнага клуба «Святліца» на чале з Тамарай Аўсяннікавай, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СБП Мікола Яцкоў, паэтка Ала Яцкова, старэйшыя пісьменнікі Міхась Булавацкі, Эдуард Мядзведскі, малады паэт Аляксей Карпенка ды іншыя.

Сёлета маладыя аўтары пад кіраўніцтвам выкладчыкаў Наталкі Бабінай, Ганны Бутырчык і Людмілы Рублеўскай асвойвалі ў Школе маладога літаратара майстэрства прозы. Але на імпрэзе дзяўчаты і хлопцы чыталі і апавяданні, і вершы.

Большасць навучэнцаў Школы пачыналі пісаць па-расійску, але цяпер спрабуюць па-беларуску, ці, прынамсі, перакладаюць свае творы на родную мову. Нехта піша паралельна на дзвюх мовах, як, напрыклад, Воля Агапонава.

На пытанне, наколькі складана існаваць адначасна ў дзвюх розных ментальнасцях, дзяўчына адказала, што асабіста для яе гэта спосаб бачыць свет больш разнастайным, бо ёсць тэмы, асвятляць якія можна толькі па-расійску, або ў іншым выпадку — толькі па-беларуску.

Цягам імпрэзы пісьменнікі і чытачы неаднаразова абмяркоўвалі з'яву білінгвізму і яе ўплыў на творчасць і мысленне, што актуальна для нашага грамадства ўжо колькі стагоддзяў і па сённяшні дзень.

Мікіта Волкаў і Павел Якуць прачыталі свае беларускамоўныя апавяданні, а Міраслаў Шапавалаў — расійскамоўнае. Зрэшты, усе — і хлопцы, і дзяўчаты аднолькава добра былі прынятыя гледачамі, іх выступленні запомніліся непадробнай шчырасцю, эмацыйнасцю, артыстызмам.

Алена Казлова як адна з мадэратарак навучання распавяла пра арганізацыю працы Школы і адказала на пытанні сваіх землякоў. Віка Трэнас прааансавала свежы, 70-ты нумар часопіса «Дзеяслоў» і прачытала некалькі новых вершаў.

На заканчэнне сустрэчы свае творы прачыталі выхаванцы гарадскога літаратурнага клуба «Святліца», а аўтары найлепшых пытанняў, зададзеных гасцям, атрымалі падарункі ад грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!».

Школа маладога літаратара дзейнічае як нефармальны грамадскі адукацыйны праект. Для падачы заяўкі кандыдату (узрост — да 25 гадоў) на залічэнне ў Школу неабходна даслаць свой празаічны мастацкі тэкст любога жанру аб'ёмам 2-5 старонак, а таксама матывацыйны ліст з адказам на пытанне, чаму вы хочаце вучыцца ў пісьменніцкай школе.

Заяўкі прымаюцца па электроннай пошце да 1 кастрычніка па адрасе sbp@lit-bel.org. Тэму ліста неабходна пазначыць як «Школа».

Пра паспяховае залічэнне ў Школу слухачам будзе паведамлена да пачатку заняткаў.

**ВТ.**

## ЖНІВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Сергіеня Яўген Аляксандравіч (нар. 08.08.1964)
Зубовіч Яўген Аляксеевіч (нар. 21.08.1984)
Чобат Аляксандр Фёдаравіч (нар. 23.08.1959)
Бабкова Наталля Мікалаеўна
(Наталка Харытанюк) (нар. 24.08.1984)
Санько Валер Аляксеевіч (нар. 29.08.1939)



Жадаем усім радасці,
натхнення і дабрабыту!

# «Між дзвюх эпох»

**Так называецца выстава, якая экспануецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь і прысвечана 80-годдзю Першага Усебеларускага з'езда пісьменнікаў, на якім было абвешчана аб стварэнні новай творчай арганізацыі — Саюза пісьменнікаў.**




На выставе прадстаўлены выданні, якія распавядаюць аб літаратурным жыцці маладой краіны напярэдадні з'езда.

Вядома, што пасля заканчэння грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі на пачатку 20-х гг. XX ст. у Беларусі адбылася небывалая актывізацыя літаратурна-грамадскага жыцця. У літаратуру прыйшла цэлая плеяда новых аўтараў. Моцны творчы патэнцыял маладой беларускай дзяржавы выразна прасочваецца па публікацыях тых гадоў у часопісах «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», якія выходзілі пры літаратурных аб'яднаннях з аднайменнымі назвамі. На старонках перыядычных выданняў можна ўбачыць і першыя спробы пяра маладых аўтараў, і творы пісьменнікаў старэйшага пакалення.

Самым шматлікім згуртаваннем літаратараў тых часоў быў «Маладняк». У розных кутках краіны аб'яднанне мела свае філіі, пры якіх выходзілі часопісы «Аршанскі маладняк» (г. Орша), «Маладняк Барысаўшчыны» (г. Барысаў), «Маладняк Калініншчыны»(г. Клімавічы). На экспазіцыі прадстаўлены зборнік «Зарніцы» Полацкай філіі «Маладняка», дзе змешчаны творы Петруся Броўкі, Эдуарда Самуйлёнка, Тараса Хадкевіча і іншых літаратараў. Пры літаратурным аб'яднанні «Маладняк» выйшла шмат аўтарскіх выданняў. На іх вокладках выявы маладых пісьменнікаў: Іларыёна Барашкі, Кандрата Крапівы, Паўлюка Труса, Міхася Чарота, Алеся Якімовіча і многіх тых, хто плённа працаваў на літаратурнай ніве ў гэты перыяд.

На старонках часопіса «Узвышша» знайшла адлюстраванне найперш творчасць Адама Бабарэкі, Уладзіміра Дубоўкі, Кандрата Крапівы, Язэпа Пушчы, Кузьмы Чорнага. У нумарах перыядычнага выдання можна пазнаёміцца не толькі з творамі айчынных пісьменнікаў. Дакрануцца да творчасці чэшскага пісьменніка Іжы Волькера дапамагаюць пераклады Уладзіміра Жылкі. Настрой паэзіі літоўскага аўтара Юліуса Янbackніса адчуваецца праз пераклады Уладзіміра Дубоўкі. Аб дзейнасці літаратараў з суседніх краін распавядаецца ў артыкуле Юрыя Бярозкіна «Расейская мастацкая проза ў 1926 годзе».

Часопіс «Полымя», які некаторы час меў назву «Полымя рэвалюцыі», друкаваў пісьменнікаў старэйшага пакалення: Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Цішку Гартнага і іншых. Акрамя мастацкіх твораў у выданні размешчаны літаратурна-крытычныя працы, сярод якіх публікацыі Міколы Байкова, Івана Замоціна, Міхаіла Піятуховіча. Прыцягваюць увагу і навуковыя артыкулы Сцяпана Некрашэвіча, Антона Лёсіка, Язэпа Лёсіка. Аб грамадска-палітычным і эканамічным жыцці можна даведацца з артыкулаў Алеся Чарвякова, Гаўрылы Гарэцкага, Хведара Імшэніка, Аляксандра Цвікевіча.

Вядома, мастацкая літаратура — люстра, у якім адбіваецца час. Гістарычныя, грамадскія, сацыяльныя, культурныя падзеі заўсёды аказваюць уплыў на яе развіццё. На экспазіцыі знайшлі адлюстраванне і сацыяльна-палітычныя складанасці гэтага перыяду, калі творчы ўздым інтэлігенцыі на дзесяцігоддзі быў спынены сталінскімі рэпрэсіямі. Зразумела, што многія пісьменнікі не паспелі цалкам рэалізаваць свае творчыя магчымасці. Творы рэпрэсіраваных аўтараў доўгі час былі забаронены, не друкаваліся. На выставе прадстаўлены працы літаратуразнаўцаў, якія прысвечаны літаратурнаму працэсу 20-30 гг. XX стагоддзя.

...Кожны чытач, які трапляе ў бібліятэку, спыняецца ля экспанатаў выставы «Між дзвюх эпох...». Зацікавілася экспазіцыяй і Станіслава Кавалёва, якая з'яўляецца пляменніцай Віктара Казлоўскага, аднаго з літаратараў гэтага яркага пакалення. Станіслава Юльянаўна доўгі час працавала ў бібліятэцы, а цяпер часта наведвае яе. З цікавасцю ўглядалася жанчына ў дакументы тых часоў, сярод якіх публікацыі яе роднага дзядзькі — Віктара Казлоўскага, тады маладога беларускага паэта, творы якога даследчыкі лічаць блізкімі да паэзіі Сяргея Ясеніна, Уладзіміра Маякоўскага. Станіслава Юльянаўна клапатліва збірае для сямейнага архіва матэрыял, які звязаны з жыццём і творчасцю блізкага ёй чалавека. Для яе выстава, як і для многіх з нас, гэта яшчэ адна магчымасць пераасэнсавання тых далёкіх часоў, падзей, якія аказалі ўплыў на далейшы лёс людзей і краіны.

**С. Д. Паўлавіцкая, супрацоўнік аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь**

# Непрыдуманая літаратура ў Беларусі і Еўропе

**У канферэнц-зале Інстытута Гётэ ў Мінску адбыўся круглы стол, прысвечаны праблемам непрыдуманай літаратуры.**



Фота Аляксандра Назарчука

У мерапрыемстве бралі ўдзел прадстаўнікі нядаўна створанай секцыі непрыдуманай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў: Наталля Гардзіенка, Сяргей Тарасаў, Сяргей Харэўскі, Андрэй Аляхновіч, Сяргей Макарэвіч, а таксама Юля Цімафеева, Андрэй Хадановіч, Валянцін Акудовіч, Павал Касьцюкевіч, Ігар Логвінаў.

Спецыяльна запрошаны госць аўстрыйскі пісьменнік і перакладчык Марцін Полак распавёў пра адметнасці сваёй творчасці ў галіне непрыдуманай літаратуры, а таксама пра асаблівасці гэтага напрамку ў Аўстрыі, Нямеччыне, Польшчы. Беларускія ўдзельнікі спрабавалі вызначыць, што з'яўляецца адметным для беларускай літаратуры нон-фікшн і чаго ёй не хапае. Сярод тэматычных напрамкаў, у якіх не стае айчыннай непрыдуманай літаратуры, былі адзначаныя: сацыяльная літаратура, біяграфічная, кнігі па мікрагісторыі, гісторыі сям'і, працы, што па-новаму, з пазіцыі простага жыхара асэнсоўваюць Другую сусветную вайну, творы, прысвечаныя жыццю беларускага габрэйства і інш.

Абмен думкамі адносна праблем і перспектыў беларускай і еўрапейскай непрыдуманай літаратуры засведчыў наяўнасць рознага разумення самой сутнасці гэтай літаратуры, аднак запэўніў у неабходнасці развіцця яе ў Беларусі, — у тым ліку і дзеля таго, каб зрабіць нашую краіну больш зразумелай і для Заходняга свету.

**Ул. інф. секцыі непрыдуманай літаратуры СБП**

# Гарадзенскія могілкі

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**Старыя гарадзенскія могілкі — не проста месца памяці, а надзвычай цікавая культурная спадчына. Даўняя назва — Фарныя, заснаваныя ў 1792 годзе.**

Праводзячы экскурсію «Сцяжыны літаратурнай Гародні», заўсёды запрашаю на могілкі, якія знаходзяцца ў цэнтры нашага горада, на стромым беразе Нёмана. Вузкая дарога, што дзеліць каталіцкую і праваслаўную часткі, лёгка пераадольваецца наведвальнікамі-беларусамі, бо тыя, хто служылі нашаму Краю, спяць па абодва яе бакі.

Магіла Марыі Апанасаўны Багдановіч у самым цэнтры праваслаўных могілак. На паперці, каля ўваходу ў царкву. Мо камусьці падасца дзіўным, што звычайная гараджанка, асоба ў тым часе зусім невядомая, была пахавана на такім шанаваным месцы, дзе традыцыйна знаходзілі апошні прытулак святары. Тым жа, хто ведае характар і намеры Адама Ягоравіча Багдановіча, гэты факт дзіўным не падаецца. Быў асобай шматбакова адоранай, але не настолькі, каб праславіцца, дабіцца шанавання і пасля сыходу. Будучы амбітным, быў пэўны, што сын Марыі Апанасаўны перасягне сваімі поспехамі бацьку, таму яе магіла не мусіць быць страчанай. Бо ўдзячныя нашчадкі абавязкова, хай праз многа гадоў, знойдуць месца спачыну маці вялікага чалавека. Таму і дамогся, выкарыстаўшы свой немалы аўтарытэт у горадзе, каб пахаваць каханую Марыльку насупраць царквы. Мо аргументам было тое, што між яе продкаў былі святары? Праўда, не праваслаўныя, а ўніяцкія, што, хутчэй за ўсё, замоўчвалася. Цэрквы мусяць стаяць калі не вечна, то вельмі доўга. Дакладна апісаў месца, вымераў, колькі метраў ад уваходу ў храм і пад якім кутом магіла знаходзіцца. Пакінуўшы наш горад у хуткім часе пасля пахавання, не збіраўся ніколі наведвацца сюды. Шанаваў сябе. А ўспаміны жалобныя шчасця, здароўя не дадаюць. Ведаў, што магіла, якую не даглядаюць родныя, хутчэй за ўсё будзе страчана. Так і здарылася.



Марыя Багдановіч з сынам Максімам. Першае фота паэта

Праўда, праславіў род Багдановічаў не той сын, на якога спадзяваўся амбітны бацька. Адзінае, у чым памыліўся.

Зразумела, што магіла была недагледжанай. Справай заняліся гарадзенскія творцы. Пачалі збіраць сродкі. Данута Бічэль згадвала: «У 1987 годзе студэнты будаўнічага атрада імя Максіма Багдановіча «Нашчадкі» частку заробленых на раскопках замку грошай пералічылі на надмагілле Маці Паэта». Праўда, тутэйшыя ўлады не выказалі асаблівага імпэту, каб дапамагчы аднавіць магілу. Гарадзенскай паэтцы давялося пачуць ад тутэйшае гарвыканкамаўскае бюракраткі: «А кто она такая? Вы тоже потребуете, чтобы горисполком поставил памятник Вашей матери!» І ўсё ж помнік паўстаў. Просты і велічны. Камень з крыжам. Хіба першы на беларускіх могілках такі помнік на магіле вядомай асобы. Хоць былі перасцярогі: «Мастакам прастата не да спадобы, ім хочацца прыдумваць нешта адметнае, штучнае...» Гарадзенскі скульптар Уладзімір Панцялееў нічога прыдумваць не стаў. Надпіс на помніку лаканічны, ні аднаго лішняга слова: Марыя Багдановіч, маці паэта. 1869–1896.

Сюды заўсёды нехта прыходзіць, хоць беларусаў у Гародні нямнога. Калісьці нехта з іх прынёс кветкі і абвязаў іх стужкай. Тонкім паяском. Бел-чырвона-белага колеру. Тыя, што прыходзілі пазней, выкідалі ўжо завялыя букеты і абвязвалі паяском свае. І мае белыя астры таксама абвіла тая стужка-эстафета.

Падыдзем да магілы, услухаемся ў радкі верша Алеся Чобата «Марыя Багдановіч», у якіх паэт вядзе аповед пра месца пахавання, прамаўляючы словы стрымана, без эмоцый, лаканічна паведамляючы, каментуючы, каб урэшце ў фінале страфы ўзвысіць голас:

*Маці Марыя на гродзенскіх могілках спіць,*
*Камень паставіў па ёй Панцялееў Валодзя.*
*Надпіс і крыж. І ніякае медзі — і годзе.*
*Маці душа і без медзі на Небе звініць.*

Незвычайнае месца помніка звязваецца паэтам з нябеснай апекай, бо тут сышліся два вялікія імёны, якія захоўваюць людзей ад няшчасцяў, ратуюць ад духоўнага нябыту, успрымаюцца як перасцярога ад новых напасцяў:

*Камень стаіць каля сцежкі ля белай царквы.*
*Злева Ісус, а направа спіць Маці Марыя.*
*Праз два імёны Гасподзь нас ратуе і крые*
*— каб мы трапілі ў новыя ямы й равы.*

Зразумела, што аўтар не мог не згадаць трэцяе імя, сына нашае Маці Марыі. Думка ляціць у тую далеч, дзе ён спачывае. І хай тое не заўсёды збываецца ў зямным жыцці творцы, але знакавыя месцы яго душа, як перакананы паэт, усё ж праходзіць:

*Трэйцім у Тройцы Святой —*
*сын Марыі Максім.*
*Ён пахаваны далёка. На неба ўзняты.*
*На пілігрымку выводзіць дарога да Ялты.*
*Праўду казалі, праходзіць Паэт Крым і Рым.*

Самотны, але надзвычай светлы настрой верша Дануты Бічэль «На магіле Марыі Багдановіч, маці паэта» падкрэсліваецца заключным рэфрэнам. У ім глыбокае шкадаванне абарванага ранняй смерцю жыццёвага шляху і разуменне велічы таго, што паспета ў кароткім зямным жыцці жанчыны — споўнена місія мацярынства. У кожную пару месца спачыну адлюстроўваецца праз адпаведныя часу вобразы, напоўненыя станоўчай энергетыкай, што супрацьстаяць ранняму зімоваму змроку і выклікаюць да жыцця парасткі вясновае квецені:

*Апошнім*
*снег у вечным змроку тае,*
*дзе пахавана маці маладая.*

*Зямля*
*Святым барвенкам зацвітае,*
*дзе пахавана маці маладая.*

*Таму нішто змрочнае не можа сыходзіць*
*з гэтага светлага месца:*

*І чорных птахаў вырай не ўзлятае,*
*дзе пахавана маці маладая.*

На старых гарадзенскіх могілках пахавана маладая маці самага маладога беларускага класіка.

# Згадка пра Паэта,

## або Чаму знішчаюць музеі?

Паліна КАЧАТКОВА

**Упершыню верш Максіма Багдановіча я пачула ў пад'ездзе дома №106 па вуліцы Савецкай у Гомелі.**

Мы сядзелі на прыступках, якія вялі на гарышча. І Лена — суседка — сказала, што зараз прачытае мне верш, ён па-беларуску. І прачытала верш «Слуцкія ткачыхі». Быў 1978 год.

Пасля маці паказала мне рандэль — «На могілках»: «Амур і сумны і прыгожы стаіць з павязкай на вачах ля склепу». Верш быў у зборніку, набытым у 60-ыя гады ў Маскве ў кнігарні, дзе прадавалася літаратура народаў СССР. Мае бацькі вучыліся ў Маскоўскім універсітэце, і ў тым асяродку ўзнікла мода на нацыянальнае.

У 1985 годзе, у 10-м класе, перад самымі выпускнымі іспытамі пачала чытаць кнігу Міхася Стральцова «Загадка Багдановіча». Постаць паэта была прыцягальнай, таямнічай і містычнай, а ўсё загадкавае, таямнічае і містычнае вабіла мяне. І тады з'явілася мара: каб толькі чытаць Багдановіча, і пра Багдановіча, і ўсё, што звязана з Максімам Багдановічам і ягоным бацькам Адамам Багдановічам. Вось тады загадала я жаданне, якое спраўдзілася праз пяць з паловай гадоў: у 1990 годзе Алесь Бяляцкі запрасіў мяне на працу ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча ў Мінску.

Музей пачаў ствараццца яшчэ ў 1981 годзе — падчас 90-годдзя з дня нараджэння выдатнага паэта, што на 100-годдзе ў Мінску мусіць адчыніцца музей Максіма Багдановіча. Аснову фондаў музею складалі зборы бібліёграфа Ніны Ватацы і экспанаты, перададзеныя сваякамі паэта ды сабраныя супрацоўнікамі падчас шматлікіх экспедыцыяў.

Алесь Бяляцкі стаў дырэктарам музею ў 1989 годзе і працаваў на гэтай пасадзе да жніўня 1998 года. У 1990-м у музеі працавалі дасведчаныя музейшчыкі — Вера Мікута, Таццяна Шубіна, Валянціна Бяляўская... Вельмі сумленныя і адукаваныя людзі. Алена Кісялевіч (Лапцёнак) пачала працу ў музеі напачатку 1990 года, пасля — перад самым адкрыццём у 1991 годзе — далучылася Таццяна Равяка.

За мастацкую канцэпцыю музею — у стылі мадэрн — мастак Эдуард Агуновіч атрымаў Дзяржаўную прэмію. Такім чынам, сама экспазіцыя была прызнаная творам мастацтва. На жаль, яна знішчаная пару гадоў таму...

Чаму знішчаюць музеі? Музеі створаныя дзеля таго, каб захоўваць мінулае; люстэрка экспазіцыі адбівае жыццё, якое было калісьці, але якога ўжо няма. Як таямнічае «Возера» у Максіма Багдановіча:

Цяпер у Беларусі музеі падвяргаюцца перманентным рамонтам, падчас якіх натуральныя матэрыялы мяняюцца на пластык, а культурныя здабыткі музейнай справы знішчаюцца. Знікае музейная таямніца, таямніца даўняга часу.

Яшчэ на пятым курсе ўніверсітэта я атрымала дазвол на працу ў фондах музея, бо дыплом быў пра міфалагічныя матывы ў творчасці Максіма Багдановіча, і я хадзіла ў музей, каб чытаць «Перажыткі старажытнага светаўспрымання беларусаў» Адама Багдановіча (тады яшчэ не быў выдадзены факсімільны варыянт). 9 кастрычніка 1990 года выйшла на працу. І адчула сябе як у цыкле вершаў Максіма Багдановіча «У зачараваным царстве».

Музей у той час знаходзіўся ў стане пабудовы экспазіцыі. Праца была творчая — часам паміж мастакамі і музейшчыкамі ўзнікалі спрэчкі. Праца ішла і ўдзень, і ўначы — музей святціўся... У ім адчувалася жыццё.

Музей быў Домам паэта, напоўненым незвычайнымі рэчамі, кнігамі, рэліквіямі. Да прыкладу, захаваўся гадзіннік, які быў падараваны Максіму Багдановічу бацькам пры заканчэнні гімназіі і які адлічыў апошнія хвіліны зямнога жыцця паэта ў Ялце. Музей быў сам сабе — таямніца, яшчэ не адкрытая для наведнікаў. У тэматычна-экспазіцыйным плане музея было напісана наступнае: «Выпадковы дом, пазбаўлены мемарыяльнай абаяльнасці, напоўніўся новым зместам, у ім створаны музей Паэта. Літаратурны музей Максіма Багдановіча знаходзіцца непадалёк ад таго месца, дзе нарадзіўся паэт. З вялікай спадчыны Максіма Багдановіча ўласна мемарыяльных прадметаў засталося няшмат: чатыры асобнікі зборніка «Вянок», арыгінальныя здымкі, рукапісны зборнік вершаў «Зеленя», некалькі аўтографаў. Гэта каштоўныя набыткі музея. Вялікі архіў паэта быў страчаны падчас Другой сусветнай вайны. Зборы музея — гэта здымкі, дакументы, рукапісы, кнігі, якія належалі сваякам і знаёмым Максіма Багдановіча, яго сябрам».

Адкрыццё музея адбылося ў снежні 1991 года — да стагоддзя з дня нараджэння паэта. Экспазіцыя ўвасабляла сабою адзіны прыжыццёвы зборнік «Вянок» — кожная зала была прысвечаная пэўнаму перыяду жыцця і адначасова аднаму з раздзелаў «Вянка».

Залы музея ішлі па кругу, гэта было сімвалічнае кола жыцця, як у вершы Максіма Багдановіча, прысвечаным яго сябру Дзіядору Дзябольскаму.

*Быць можа, пуціна жыцця*
*Лягла пярсцёнкам, друг.*
*І я ў краіне забыцця*
*Не раз раджаўся, як дзіця,*
*Прайшоўшы поўны круг.*

З цытавання гэтага верша пачыналася кожная экскурсія. І наведнікі ішлі па сімвалічным коле жыцця — «Вянку»...

Летам 2012 года я завітала ў музей. І не зразумела, куды трапіла — у фае быў садраны паркет і на яго месца пакладзеная танная плітка. Замест экспазіцыі былі пустыя залы — толькі дзе-нідзе валяліся кавалкі матэрыялу, якім былі абабітыя стэнды, ды нейкія трэскі... Экспазіцыйныя пакоі былі пустыя. Страшны сон — жахлівае трызненне. Нішто не нагадвала пра Паэта. Калі музей зачыняецца на рамонт, мала хто ведае, што адбываецца ўсярэдзіне...

Які лёс цяпер чакае музей Максіма Багдановіча? Ці адродзіцца ён зноў, «прайшоўшы поўны круг»? І ці выпадкова знішчаюцца музеі ў сучаснай Беларусі?



# Дзе далячынь нагадвае мора



Франц СІЎКО

### Дзень у Рыме

Дзень у Рыме — стаерская дыстанцыя даўжынёю ў музейную ходку, духоўны стыпль-чэз з навязліваю асцярогаю кудысьці не паспець, штосьці не ўгледзець, да нечага не датыкнуцца.

Вандроўка з відарысам паўз паранджу стэрэатыпаў, што, як ні намагайся, — не жадаюць саступіць яве ў растузаных усё новымі і новымі ўражаннямі глуздах. Каларытны нацюрморт з дэкорам з ватыканскіх станцаў Рафаэля, незлічоных копій скульптурных выяваў, золата базілік — усяго, што, безумоўна, ускалыхне душу, але сярэдначы табе, стомленаму дзённаю гарачынёй і мільгаценнем уваччу, занадта прыўкраснае, занадта каларытнае, — наўрад сасніцца.

Нават з-пад купала сабора святога Пятра, з больш як стотрыццацімятровае вышыні, Рым так сабе, без дай прычыны не адкрыецца. Грудаю ружаватых муроў Форуму ды няяснымі абрысамі тэрмаў Каракалы ці Калізея ўдалечыні пацешыць вока хвіліну-другую і замкнецца зноў у сабе, унурыўшыся ў покрыва са смугі і старых, як свет, як наросты цвілі на магутных калонах-дазорцах, што абкружаюць плошчу пры саборы, міфаў. Міфаў, сюжэты якіх дарэмна ты будзеш імкнуцца ажывіць у памяці з дапамогаю выпадковага суразмоўцы: міфы ў пранізаным імі дарэшты месцы — не лепшая тэма для размовы.

Рым, Вечны горад, калыска вечнасці. Пазачассе, спрасаванае са згадак летапісцаў, што даўмеліся ўчасна давесці іх свету дзеля сцвярджэння самасці — сваёй, свайго народа, сваіх нашчадкаў.

Горад-міф, дзе ўсё, што ні сталася вартым увагі наступнікаў, — даніна павагі хрысціянскай традыцыі і толькі потым ужо — жыццяпіс эпохі і шляху асобнага, хай сабе і найвыбітнага, чалавека. Дзе і магіла знакамітага творцы пад нагамі — частка яго, міфу, а для некага тым часам — і нагода датыкнуцца да вечнага, а то і, глядзіш, — чаго не здараецца на свеце! — здабыць шчаслівы квіток да чыннага ўдзелу ў ім.

Горад-прынада — для прагных да славы, што не ведаюць супакою ў вярэдлівым памкненні пакінуць хоць што па сабе, хоць якою зарубкаю, хоць шнарам на носе П'еты адзначыцца на скрыжалях пакручастай яго, спярэшчанай узлётамі і падзеннямі, гісторыі.

Горад-мроя — для тых, хто з усіх ведамых чалавечай істоце фобіяў ды страхаў найбольш падуладны адной — фобіі небыцця, страху смерці, хто і ў хвіліну скону не перастае песціць надзею на жыццё вечнае.

Горад-старэча, чый узрост нястомна падкрэсліваюць стаража́тныя надпісы на не менш стаража́тных арках — сведчанні велічы ды славалюбства служкаў люду і веры, узор эгаістычнай дальнабачнасці для валадароў усіх часоў і народаў.

Горад-музей тысячы і адной, патрэбных і не надта, выкшталцоных і не вельмі, рэчаў.

Горад-Эльдарада — для кішэннае справы адмыслоўцаў, злодзеяў дробнага і рознага іншага фармату.

Горад-хамелеон, увасабленне сімбіёзу высакародства паставы — і жулікаватасці жэстаў, пампезнасці Алтара Радзімы — і красамоўнай сціпласці Мамерцінскай вязніцы, вусцішнай змрочнасці замка Святога Анёла — і боскасці крылаў белых паставаў на аднайменным мосце перад ім, шматгалосся ўзнёслай малітвы пры галоўнай святыні — і немай роспачы Кабірыі ў забытым Богам завулку, нялюбасці адрынутага памяццю ўласнае гадоўлі валадара, Нерона, — і прынятага дзеля вечнага супачыну героя чужога, суайчынніка твайго, Язафата.

Горад-кравец, адмысловец духоўнае апраткі сучаснікаў у іх адвечным жаданні калі не ўзняцца вышэй за продкаў, дык хоць — стаць тоеснымі, адпавядаць крытэрыям дыхтоўнага зрэбнага куцюру апошніх.

Горад-фірмовы знак плебейскай сутнасці неарэалізму, выпхнутага эстэтамі ў купку люду ля дармовага латка пры краме гандляра-філантропа.

Горад злагоднага перазову дзённага пурытанства, узмоцненага блізкасцю дома Бога, і вакхічнае бессаромнасці прыцемку паблізу знакамітага на ўвесь свет фантана-сутэнёра.

Горад-выспа памяці ў акіяне бяспамяцтва.

Прастора Рыма — квадратура над- і падзямелля, перапляценне вуліц і катакомбаў, двуадзінства адзжылага і жывога. Дрэва-аўтахтон з каранём-рэліктам, сімвал адвечнае перавагі зместу над формай.

Рух на вуліцах Рыма — барометр тэмпераменту, не сапсаванага празмерным дбаннем нашчадкаў імперыі пра імідж сённяшні.

Голас Рыма — нізкі шэпт пажылой (не без слядоў колішняй прыгажосці, вядома) гараджанкі, крыху сіпаты, крыху грубы — водгулле велічы памінулай, цяжар клопату заўтрашняга.

Сімвалы Рыма — няўлоўнасць водару, прыглушанага пахам ладану, няпэўнасць колеру дыванка, звешанага з вакна сабора ў гадзіну звароту чарговага наступніка апостала Пятра да шматтысячнага натоўпу пілігрымаў.

Такі ён, Рым, горад, якому хвіліны даволі, каб назаўжды паланіць тваю памяць.

Такі ён, дзень у горадзе, куды вядуць усе дарогі і толькі адна, незалежна ад размяшчэння зорак на небе і твайго жадання, заўсёды — з.

### Горад-прывід з каменю і попелу

Трапіць у Італію і не ўбачыць Пампеяў — тое самае, што не спаткацца ў Вечным горадзе з папам. Ні першае, ні другое нашай прытомленай лекцыямі групе, на шчасце, не пагражала. Больш за тое, так сталася, што з ласкі нашых апекуноў абедзве падзеі мелі адбыцца ў адзін дзень, з невялікім перапынкам. Ажно занадта, ды хто зазірае ў зубы доранаму каню?

Гэтая досвітная хвіліна пачатку вандроўкі да нязведанага! Яшчэ драбнаваты вясковы спадкаемца насельнікаў колішняй імперыі ледзь даў рады раскласці свой адмысловы сялянскі тавар у намёце збоч уваходу на тэрыторыю нашага часовага жытла і магнолія пры вокнах страўні не паспела як след атрэсці кроплі ранішняе імжы, як мы, абцяжараныя пакункамі «сухога» харчу ды тэчкамі з «горшым» (пампейская лава занадта ўедлівая, папярэдзіў гід) абуткам, паспяхова ўнікнуўшы агромністых шышак паўднёвае хвоі, што раз-пораз падаюць з дрэваў на пляц пры Доме Яна Паўла II, вырушаем аўтобусам у нябліскі шлях.

Італьянская дарога — момант спраўджвання існасці з падручніка прадаўняе гісторыі.

Белавата-шэрым прывідам эпохі брутальнае распусты вымкнецца з хмызу пры шашы і схаваецца зноў у яго чэпкіх абдоймах выкінуты ўзлаваным месцічамі за межы горада саркафаг нядобрай памяці Нерона.

Пляцоўка з шыхтамі элеганцкіх падробак — скульптурных выяваў рымлянаў часоў росквіту антыкі — мільгне прад вачмі і асядзе глыбока ў глуздах пацвярджэннем растыражаванага з лёгкае рукі спадара Раселіні міту аб адкрытасці вечнага горада.

Апіеў бальшак, па якім увайшоў у Рым апостал Пётр, — узрушыць і пакіне ў разгубленасці ад здагадкі, што ўсё гэтак блізка, амаль побач, у выяўным суседстве.

Утульныя, больш падобныя да казачных гарадкі ды мястэчкі выплываць насустрач аўтобусу з просіні надгор'я і растаюць паза часам, ускалыхнуўшы душу вярэдліва-пакутлівым пачуццём (даруй, Божа!) зайздрасці.

Чысцюткія штучныя ставы ды басейны, падманлівае ўвасабленне экалагічнага раю, пацешаць вока хвіліну-другую і, нібыта не жадаючы браць удзел у бессаромным ашуканстве, саступяць месца за акном брудна-жоўтым стужкам рэчак і раўчукоў.

Адметная рыса ранішняга апенінскага відарысу — бязлюддзе на тле ўпарадкаваных, неверагодна акуратных (і калі паспяваюць людзі ўрабляць?) палеткаў.

Чародка козаў пасярод неапалітанскага краявіду — яскравы напамін, адкуль яно ўсё.

Завеса марыва над затокаю, такога густога, што, колькі ні ўзірайся, так і не ўгледзіш услаўленага безлічу пёраў ды пэндзляў звабліва аквамарыну.

Бяскончы, як размовы беларусаў пра лёс роднае мовы, Геркуланум з выглядам на Везувій — сімвал заўсёднае рызыкі і наканаванасці.

Урэшце яны, Пампеі, горад-прывід з каменю, лавы і сонца, горад-напамін, што ўсё на свеце — апошні раз.

Шлях ад Марскога брамы да ўскраіннай забудовы Пампеяў — прагулянка ў вечнасць працягласцю ў тры-чатыры гадзіны. Водаправодчык-вынаходнік, архітэктар, пекар ці проста аматар карцінак фрывольнага зместу — кожны знойдзе сярод руінаў сваё, тое, што абраў за прыярытэт на шляху ў вечнасць.

У Пампеях вечнасць, між іншым, — рэч цалкам датыкальная. Мазаікі і фрэскі, узрост якіх сягае пад амаль два дзясяткі стагоддзяў, мармуровыя балеі, што помняць цяпло сцегнякоў і спінаў стаража́тных аматараў камфортнага купання, белыя каменьчыкі ў бруку, што свяцілі па начах не аднаму пакаленню палкіх мясцовых донжуанаў падчас шпацыру да ложка каханкі, малюнкі з выявамі сабак перад уваходам у жытло, ахайна абчасаныя плескачы пасярод вулкі — праезд забаронены! — усё можна пакратаць, памацаць, агледзець з усіх бакоў.

І — лава, лава, лава… Яе так шмат усюды, што яна яшчэ доўга па вандроўцы будзе нагадваць пра сябе шараватым налётам на чаравіках. Попел, пасланы Богам (існуе і такая версія) жыхарам дваццацітысячнага горада дзеля пакарання за легкадумнасць і парушэнне Яго запаветаў.

Трынаццаць злепкаў целаў патрыцыяў і іх рабоў, атрыманых у выніку маніпуляцый рэстаўратараў з гіпсам і пустотамі, што ўтварыліся з цягам часу ў лаве на месцы тых целаў праз стагоддзі пасля таго, як яна накрыла Пампеі, — дакладная ілюстрацыя катастрофы лета 79 г. н. э. і адначасна — напамін аб хуткаплыннасці жыцця і нікчэмнасці таго, што мянуецца грамадскім ці якім іншым статусам чалавека.

Пампеі — мудры дарадца, што дапамагае кожнаму, хто меў шчасце дакрануцца да яго жудаснай мінуўшчыны, хоць на нейкае імгненне пазбыцца ўсяго таго дробязнага і неістотнага, што перашкаджае жыць.

Пампеі ўзрушаюць і — узвышаюць. Гнятуць і разам з тым — ачышчаюць, высвечваючы сапраўдныя, а не ўяўныя кошт слова, рэчы, учынку.

Пампеі — узор паважлівага стаўлення люду паспалітага і яго правадыроў да ўласнае этнакультурнае спадчыны. Схаваны ад вока чалавечага цягам больш як паўтары тысячы гадоў пад покрывам смерці тоўшчаю пяць-шэсць метраў, рэстаўраваны, наколькі гэта было магчыма, горад стаўся не толькі ілюстрацыяй прыроднага катаклізму (каго сёння ім здзівіш?), але і сведчаннем памкнення народа да захавання сваёй гістарычнай памяці.

Зрэшты, Пампеі — гэта не толькі руіны стаража́тных муроў. Ледзь пакінуўшы царства смерці, акурат трапіш у горад сучасны, што раскінуўся побач, — ажыўлены, шматлюдны, заняты сваімі штодзённымі клопатамі, адзін з адметных цэнтраў рэлігійнага жыцця Італіі.

Як Рым — горад вечны, так Пампеі — горад вольны. Вольны перадусім праз наяўнасць невымернае трагедыі — чынніка самадастатковасці, праз адсутнасць неабходнасці дбання аб дні заўтрашнім — складніка волі найвышэйшай, даступнай адно жабракам ды бадзяжным паэтам.

Горад-абярэг, што, вандруючы ў аднойчы прыручаным часе, засмучаны тваім духоўным занядбаннем і празмерною прыхільнасцю да зямных спакусаў, не-не ды і сыпне ў вочы дзеля напаміну пра існае жменю ўедлівага везувійскага попелу…

# Кашуля Ісідора



Дзмітрый ЛАВІЦКІ



### Усё неўзабаве вернецца

*— Яны не пытаюць пра дождж і сонца —*
*яны не ўраблялі глебу*
*і не кідалі зерне,*
*і я цяпер паміж імі.*

*— Ты не павінна плакаць.*

*— Яны не радуюцца дарункам,*
*ні боскім, ні чалавечым,*
*іх расчароўвае сціпласць,*
*і я апынулася з імі.*

*— Ты не павінна плакаць.*

*— На іх пунсовыя вусны*
*так лёгка сядаюць восы*
*і робяць сабе там гнёзды,*
*і блізка мая чарга.*

*— Ты не павінна ніколі плакаць:*
*ні над замерзлым садам,*
*ні над засохлым ставам,*
*ні над такім каханнем.*
*Хутка ты знойдзеш сваё люстэрка —*
*у ім усё перавернецца,*
*усё неўзабаве прыйдзе,*
*усё неўзабаве вернецца.*

### Кашуля Ісідора

*Слаўную кашулю носіць Ісідор —*
*чорная клетка, зялёная поверх палоска.*

*Дзяўчыне той цалавалі далоні,*
*прасілі яе кахання,*
*а яна вышывала яму кашулю,*
*рухавыя пальцы яе — як кіпцюры кажана.*

*Яна забаўлялася надвячоркам*
*і розных звяроў выпраўляла ў поле,*
*каб да світання яны прарылі*
*новую рэчку з бясконцай плынню,*
*і тыя выконвалі ўсе загады,*
*яна ж сядала ізноў за працу,*
*рухавыя пальцы яе — як кіпцюры кажана.*

*Слаўную кашулю носіць Ісідор —*
*чорная клетка, цямнее на ёй палоска.*

### Выкраданне плыта

*Мы падгадалі найлепшы момант —*
*пахмурнасць мяняла слабое сонца,*
*аслізлы з гадамі фабрычны плыт —*
*як нечаканы штуршок і вокрык.*
*Перад вачыма гнілыя дошкі,*
*парэнчы з іржой і магчымасць трапіць*
*да неймаверна глыбокіх шлюзаў.*
*Ты проста маўклівa вядзеш шастом,*
*цяпер ты ўжо не дзіця,*
*ты мідыя, вадамерка,*
*жоўты гарлачык, лін, —*
*нарэшце ты выбіраеш сам.*
*Але галовы тваіх сяброў*
*паварочваюцца назад,*
*і зараз ты ўбачыш таксама,*
*як следам, нібы расліна,*
*па хвалях віецца вуж, —*
*і ты, можа быць, адзіны*
*за столькі хвілін ад сушы*
*і столькі метраў да дна,*
*хто твар не хавае ў руках.*

### Танец Ісідора

*Апантаны ўласным танцам,*
*ён чапляе плячом вушак —*
*і гэта таемны знак*
*для незнаёмцаў, каб засмяяцца.*
*Але ён радуецца за ўсіх,*
*хто рады яго няшчасцю:*
*людзі заўжды абрасталі скурай,*
*вялікай зморшчынай дзесяцігоддзяў,*
*сярод іх няма вінаватых.*
*Ён пачуваецца доннай рыбай —*
*не маладзее, мінае старасць,*
*і паветра яму густое, як рэкі,*
*і толькі сутаргі поўняць цела,*
*і ён ад напругі стуляе вусны*
*з цяжкаю думкай, што больш не ў стане*
*хоць калі-небудзь спыніць свой танец.*

### Валасы

*Адусюль набліжаюцца валасы,*
*якія не ведаюць літасці,*
*кароткія і неймаверна доўгія,*
*прамыя і скручаныя віткамі,*
*усіх адценняў, усіх магчымых:*
*цёмны каштан, і затым руда,*
*і вось нарэшце смалова чорны —*
*апошні на сёння колер.*
*Яны застаюцца ляжаць у кнігах,*
*нібыта меткі простым алоўкам,*
*рассыпаюцца па кашулі,*
*нібыта поўсць гадаванцаў,*
*прапаўзаюць цераз падушку,*
*і прэч выкідаюць пер'е.*
*І сон губляе сваю празрыстасць,*
*перапоўнены імі ўшчэнт,*
*тоўстымі, як канаты,*
*хітрымі, як спадзевы,*
*цяжкімі, як маўчанне.*
*І да іх не дастаць рукой:*
*яны не памятаюць пачатку*
*і не баяцца канца,*
*і бянтэжаць паветра, як навальніца,*
*і распачынаюць паводку,*
*і час ім найлепшы дарадца*
*і памагаты ў справах.*

### Кепская вестка

*Ісідора вітаюць казулі панурым рогам,*
*а ён не глядзіць ані ў які бок.*
*Слімакі напаўзаюць яму на скуру,*
*аблізваюць пальцы, нібы сабакі,*
*а ён нічога не заўважае.*
*Клапы караскаюцца ў кашулі,*
*крыльцы складаюць на знак любові,*
*а ён не прымае такой спагады.*
*Конікі скачуць па белым твары,*
*а ён іх быццам зусім не бачыць.*
*Зязюля наўмысна пяе працяглей,*
*а ён развучыўся нібыта слухаць.*
*Ісідор разззлавана ламае веццe,*
*вока вільготнае трэ рукою,*
*сее наўкол Ісідор самоту,*
*сее гняўлівасць і сее сум.*

# Спелыя вішні



Рада РАДАБОЛЬСКАЯ

### Дзяўчынка на снезе

*Дзяўчынка на снезе танцуе,*
*пяшчотныя пальцы замерзлі,*
*сама схаладзела.*
*Ды доўгае па*
*калыша ўпругкае цела,*
*спружыніць ступня*
*і рукі крылáмі*
*ўзлятаюць у неба.*
*Снег ціха мігоча —*
*халодны, дрыготкі.*
*Яму чалавечае плоці*
*няведама тонкая галізна,*
*і цёплага цела*
*узлёты і рухі*
*няведамы снегу.*
*Ён сфінксам застыне*
*ля ног, ля агню —*
*падножжам спрадвечнага*
*алтару.*

### Маляваць

*Маляваць пісьмёны на снезе.*
*На ветры.*
*На воблаку.*
*І на вадзе.*

*Назваць намаляванае*
*К А Х А Н Ь Н Е М.*

*Сплесці са слоў вянок*
*і пусціць па рацэ Вечнасці.*

*Хай плыве.*

### Спелыя вішні

*спелыя вішні*
*у залатым сонечным соку*
*вып'ю іх*

*поўнюся*
*спелай музыкай лета*
*развітаюся*
*з тым, што спета*

*гэта — лета*
*лета новых здзяйсненняў*
*сакавітых вішняў*
*і свету*
*вып'ю іх*

*і халоднай зімой*
*грэючы кроў*
*будзе агонь па венах блукаць*
*пунсова палаць*
*сонечны сок вішнёвы*
*будзе вусны твае саладзіць*
*калі буду цябе цалаваць*

*я — халоднай зімой —*
*з Лета гукаць*

### Першы пацалунак

*Першы пацалунак,*
*напоены цішынёй.*
*Не зразумець —*
*саладосцю ці горыччу*
*поўны ён,*
*прахалодай, а можа,*
*ж а р а м? —*
*не разабраць.*

*Як успleск зарніцы*
*глыбокай ноччу —*
*першы пацалунак,*
*напоены цішынёй —*
*не ясны.*

*Дзіўны.*
*Прысмак медзі на вуснах.*

*І толькі пытанне:*
*«Няўжо вось так*
*цалуюцца?»*

*Першы пацалунак,*
*напоены цішынёй —*
*з д з і ў л я е...*

*Узмах вясла, усплёск вады, —*
*лодка плыве па плыні —*
*ноччу глыбокай.*

*...Усё Таямнічае вабіць*
*спазнаць яго.*



### Макі-экстазы

*нізка схіліўшыся*
*над макаў букетамі*
*ўдыхаць ціхамірна*
*эйфарыі чыстыя*

*і слёзы губляць*
*ад чагосьці шчаслівыя*
*ў іх цёмна-бяздонныя*
*чырвоныя кубачкі*

*экстазамі лета*
*быць*
*счараванымі...*

### Вішнямі вуснаў

*Сады месяцовыя*
*пахнуць вішнямі —*
*вуснаў тваіх —*
*салодкімі...*

*Возера спіць ціхае,*
*цыкады пяюць звонкія...*

# Пацыент





Міхась ЗІЗЮК

Сяргей Пятровіч падыходзіў да ганку псіхіятрычнай бальніцы ў добрым настроі. Майская зеляніна, цёплае паветра, сонца, прыветлівыя людзі — чаму ж не радавацца жыццю? Хай сабе ты ідзеш на працу, дзе чакаюць пацыенты з хворай псіхікай, з імі трэба будзе займацца, размаўляць, даваць рэкамендацыі і прызначаць лячэнне, разбіраць карткі ды шмат чаго яшчэ. Так, увесь час прыходзіцца працаваць з нездаровымі людзьмі, выслухоўваць столькі ўсяго, бачыць іншым разам такія выбрыкі, што і самому можна звар'яцець. Але ж ён тут не першы год, а больш дзясятка, прывык, да таго ж праца ёсць праца, трэба і гэткую справу некаму рабіць.

Ахоўнік на варотах ветліва павітаўся з ім. Сяргей Пятровіч адказаў і ступіў на тэрыторыю бальніцы. Абапал пешаходнай сцежкі ярка зелянелі падстрыжаныя кусты, палымнелі на клумбах цюльпаны, шчабяталі птушкі — усё гэта падбадзёрвала настрою. Ён зайшоў у будынак, адчыніў кабінет і зняў лёгкі плашч. Амаль адразу да яго заглянула медсястра Ірына — пышнацелая саракагадовая разведзёнка, якая працуе тут крыху болей за дваццаць гадоў і некалі, па першым часе, спрабавала дамагчыся яго ўвагі, а пасля, зразумеўшы бесперспектыўнасць такога занятку, пераключылася на новага доктара. Дзякуючы сваім формам яна спраўляецца з буйнымі пацыентамі не горш за санітараў.

— Добры дзень, Сяргей Пятровіч.

— Добры дзень, Ірына Іванаўна. Што ў нас сёння?

— Ціха, калі не лічыць, што наркаман з пятай спрабаваў разбіць шкло і парэзаць сабе вены. Але хлопцы своечасова яго ўціхамірылі. Вы на планёрку цяпер?

— Так. Што новага?

— Не, нічога. Ага, ледзь не забылася — новенькага прывезлі сёння, нейкага маладога вясковага настаўніка. Сядзіць у ізалятары, а сам такі спакойны, паслухмяны, размаўляе ветліва, на вы. На выгляд і не скажаш, што псіх. І даволі сімпатычны.

Ірына нечага заўсміхалася.

— Што ж, значыць, будзем разбірацца.

Будзённая планёрка, якую галоўурач праводзіў па панядзелках, прайшла ў звыклым рытме і нічога новага не прынесла. Ператрэслі старыя праблемы пра рамонт у харчблоку, пагаварылі пра парадак у палатах, крыху праехаліся па яшчэ маладым, але сівым загадчыку гаспадаркі і акрэслілі накірунак на новы тыдзень. Усё як заўсёды.

Падняўшыся на другі паверх па бетоннай лесвіцы, ён зайшоў у ізалятар. Санітар падаў кнігу з запісамі і паперы на новенькага.

— Што ў вас?

— Усё нармальна, парадак, — бадзёра адказаў санітар. — Прывесці яго?

**Дайце толькі магчымасць яму паспрабаваць смак свабоды, удыхнуць гаючага паху волі, і чалавек ужо больш ніколі не захоча жыць так, як ён жыў раней. Вось так і было са мною**

— Давай да мяне.

Пакуль той хадзіў за пацыентам, Сяргей Пятровіч пераглядзеў паперы: пашпарт, накіраванне ад раённага псіхіятра, характарыстыку са школы, даведку аб стане здароўя — і пра сябе адзначыў — цікавы выпадак.

Ён увайшоў у кабінет, ветліва павітаўся і прысеў на стул каля стала.

— Можаш ісці, — кіўнуў санітару Сяргей Пятровіч.

Крыху пагартаўшы яшчэ паперы, ён паглядзеў на настаўніка. Русявыя прамыя валасы, правільныя рысы твару, крыху вастраваты нос і жывыя васількова вочы, якія ўважліва і пранікнёна глядзяць на доктара. Не, на шызафрэніка ён зусім не падобны.

— Скажыце, Іван Мікалаевіч, вось тут, у характарыстыцы, ёсць радок, што вы вершы пішаце. Сапраўды так?

— Так, — ціха пацвердзіў малады настаўнік.

— Пра што, калі не сакрэт?

— Тэмаў шмат, але ў большасці пра людзей.

— А калі дакладней...

— А вы пачытайце, і адразу зразумееце. Я думаю, што калі мяне схапілі, то і сшытак мой таксама забралі, перачыталі і сюды прычапілі. Зусім, як у трыццаць сёмым, — паэт і настаўнік сумна ўсміхнуўся.

— Навошта вы так, Іван Мікалаевіч? Ніхто вас не хапаў і не цягнуў, вас запрасілі. Вы, як ніхто, павінны разумець, што чалавечы мозг — найскладанейшы орган, які дасюль не вывучаны, і ўсялякае можа адбыцца з псіхікай. Таму мы хочам усё высветліць і вам дапамагчы.

— Ведаеце, вялікі дзякуй, але мне не патрэбна дапамога.

— Хм, я мяркую, што гэта не так. Вы ж не будзеце адмаўляць таго факта, калі казалі дзецям, што можаце лятаць. І што кожны чалавек можа, калі захоча, так рабіць. Ці гэта ў вас проста была паэтычная метафара?

— Безумоўна, я не буду адмаўляцца ад сваіх слоў: кожны чалавек, пры вялікім жаданні, можа навучыцца лятаць.

— Цікава, цікава. І даўно гэта ў вас?

— Гледзячы што вы маеце на ўвазе.

— Скажам так — калі вы сталі лятаць.

Паэт і настаўнік крыху задумаўся. Яго твар, як бы яшчэ больш завастрыўся, а позірк пацяплеў, паспакайнеў.

— Ведаеце, усё сваё свядомае жыццё я задумваўся: чаму птушкі лятаюць, а чалавек не? Чаму мы не маем волі, свабоды над сваім целам? Часта выходзіў на круты бераг ракі і ўяўляў, як распасціраю рукі, скачу ўніз і лячу. Лячу над ракою, над лугам, узмываю ўверх, вяртаюся і кружу над вёскаю. Але ж боязь, страх за сваё жыццё не пераадольвалі пачуццё, жаданне палёту. І гэтая думка не давала мне спакою. Паступіўшы ў інстытут, я шмат чытаў і даведаўся, што магчымасці нашага арганізма практычна неабмежаваныя — трэба адно толькі займацца сабою, развіваць свае здольнасці і тое, што закладзена ў нас звыш. Любое наша жаданне можна ўвасобіць у жыццё, трэба толькі захацець гэтага моцна-моцна. Так я стаў займацца сабою. Канечне, спачатку ў мяне нічога не атрымлівалася. Спатрэбілася некалькі гадоў штодзённых заняткаў, трэніровак, пакуль не дамогся свайго. І гэта, аказваецца, зусім нескладана. Патрэбна толькі ўсяго адключыць свой страх, напружыць волю і ўяўленне — і ўсё атрымаецца. Калі прасцей сказаць — паверыць у сябе, у свае сілы, узняцца над сабою.

Іван Мікалаевіч ўсміхнуўся.

— Вы можаце лічыць мяне хворым, запіхнуць у палату, калоць рознымі лекамі і піхаць таблеткі, але гэта не дапаможа: вы не зможаце перамагчы тое, што перамагчы немагчыма. І самае галоўнае, што ў любога чалавека падсвядома дрэмле пачуццё свабоды, канчаткова яго забіць нельга. Канечне, пад уздзеяннем розных абставін можна пераўтварыць яго ў раба, у паслухмяны вінцік, але дайце толькі магчымасць яму паспрабаваць смак свабоды, удыхнуць гаючага паху волі, і чалавек ужо больш ніколі не захоча жыць так, як ён жыў раней. Вось так і было са мною: узляцеўшы аднойчы, я больш не захацеў быць чарвяком, казуркаю. Вы не ўяўляеце, якая гэта асалода — ляцець над зямлёю, лунаць у паветры: над табою зорнае неба, а навокал толькі вецер і воля. Я ніколі не лятаў днём, бо не хацеў непатрэбных размоў і спекуляцый. Але хаваць у сабе шчасце і не падзяліцца з людзьмі — для мяне было б злачынствам. Таму на ўроку я расказваў дзецям пра магчымасці нашага арганізма, пра тое, на што мы здольныя, і, галоўнае, каб яны паверылі ў сябе. Чалавек без веры — не чалавек.

Сяргей Пятровіч уважліва паглядзеў на настаўніка, на нейкае імгненне задумаўся, а пасля падняўся, падышоў да акна, рашуча, адным рэзкім рухам, расчыніў яго і павярнуўся да Івана Мікалаевіча.

— Давайце.

Настаўнік здзіўлена паглядзеў на яго.

— Давайце, ляціце. Калі вы можаце лятаць — ляціце, прадэманструйце свае здольнасці. І адразу выпішу вас, вы паедзеце дахаты. Давайце.

Сяргей Пятровіч скрыжаваў рукі на грудзях і ўтаропіўся ў настаўніка. Ён ведаў, што нічым не рызыкуе: кабінет на першым паверсе, а калі пацыент і выскачыць на вуліцу, то нікуды не паспее збегчы. Іван Мікалаевіч падышоў да акна, нейкі час моўчкі ўзіраўся на кусты — і павярнуўся да доктара.

— Не, я так не магу.

— Чаму?

— Я ніколі не спрабаваў узнімацца ў паветра пад нечым пільным позіркам: гэта тое ж самае, што быць дрэсіраванай малпай і скакаць з тумбы на тумбу па загаду гаспадара. Вы ж не можаце загадаць птушцы — ляці! Яна вольная ў сваіх жаданнях. Так і я. Да таго ж мне патрэбен пэўны час, каб сканцэнтравацца, настроіцца на хвалі Сусвету, з якіх чарпаю энергію, а пад кантролем я не магу гэтага зрабіць. Прабачце.

Сяргей Пятровіч зачыніў акно і сеў за стол. Ён як бы згубіў цікавасць да свайго пацыента. Усё зразумела, буднічна, як і заўсёды: проста чарговы хворы чалавек, якому патрабуецца дапамога псіхіятра. Ён выклікаў санітара.

— Адвядзіце яго ў палату.

Іван Мікалаевіч падышоў да дзвярэй і азірнуўся на Сяргея Пятровіча:

— Усё ж дарэмна вы мне не верыце. Але ж гэта ваша справа, бо я ўсё роўна буду вольным. Бывайце.

Псіхіятр сеў за стол і хацеў зрабіць запіс у картцы, але нечага задумаўся, адкінуўшыся на спінку стула. Без сумнення, цікавы чалавек, гэты настаўнік і паэт, але творчыя людзі — яны ўсе ў нейкім сэнсе нездаровыя. І могуць уявіць сабе такое, што не можа звычайны чалавек, могуць прыдумаць іншую рэальнасць і жыць у ёй. Хутчэй за ўсё, так сталася і з гэтым маладым чалавекам, які захацеў адгарадзіцца ад цяжкасцяў і праблем у сваёй рэальнасці. Прыйдзецца прызначаць яму псіхатропныя прэпараты, паназіраць нейкі час, а потым рабіць высноў па далейшым курсе тэрапіі.

Назаўтра ў бальніцы здарыўся перапалох: раніцай выявілася, што настаўнік знік. Дзяжурны санітар запэўніваў, што нікуды не выходзіў і нікога не выпускаў з другога паверху, але куды знік пацыент — ён не ведае. Усе вокны там з металічнымі краткамі, і тое, што настаўнік мог збегчы такім шляхам, выключалася. Дзеля праўды, трэба адзначыць, што санітар вырашыў змаўчаць аб адной акалічнасці: ноччу, як звычайна, ён крыху прыснуў. А чаго было хвалявацца? Усе гэтыя псіхі ў палатах, калідор замкнёны, а ключ ад дзвярэй толькі ў яго. Ён ужо не першы год тут, і ніколі ўцёкаў не здаралася, было ціха, калі не лічыць двух ці трох выпадкаў самагубства. Калі прачнуўся і выйшаў пакурыць на лесвічную пляцоўку, то заўважыў, што акно там прыадчынена. Санітар бачыў, што ўдзень там прыбірала пыл прыбіральшчыца, і, напэўна, яна забыла зачыніць фрамугу. Як жа мог псіх выбрацца на лесвіцу? Таму са спакойнаю душою ён прыкрыў акно і пайшоў драмаць далей.

У тую ж ноч Саўка, вартаўнік калгаснай фермы, што месцілася ў некалькіх кіламетрах на поўнач ад псіхіятрычнай бальніцы, рабіў абход па тэрыторыі. Вартаўнік паспеў выцурбаніць пляшку таннага «чарніла» і быў у гуморы. Ён добра ведаў, што да раніцы ўжо ніхто правяраць не будзе — з гадзіну назад быў участковы, і больш тут ніхто не з'явіцца. Таму, зрабіўшы па тэрыторыі круг для самазаспакаення, Саўка збіраўся прытуліцца ў зацішку і падрамаць. Адвярнуўшыся ад ветру, каб чыркнуць запалкаю ды прыпаліць цыгарэту, ён ледзь не ўпусціў пачак «Прымы». Вартаўнік заўважыў чалавека, які ляцеў у паветры, распасцёршы рукі. Месяц праглядваў з-за хмар, і чалавека Саўка выразна разгледзеў: той ціха плыў па небе. Вартаўнік патрос галавою, працёр вочы і зноў паглядзеў у начное неба. Там нікога не было. Саўка ціха вылаяўся: усё, дапіўся, ужо людзі пачалі лятаць. Не, мабыць, мае рацыю жонка, калі дапякае яго за ледзь не штодзённае прыкладванне да бутэлькі. Трэба завязваць. Азірнуўшыся яшчэ раз, Саўка пацягнуўся далей.

Калі б яшчэ хто-небудзь не спаў у вёсцы той ноччу, то заўважыў бы, як нейкі цень мільгнуў над хатамі, над школаю — і растаў у цемры. Што гэта было — ці буйная начная птушка, ці кажан, ці яшчэ хто — так і засталося невядомым.

# Нараджэнне краіны



Усевалад СЦЕБУРАКА

### Прадсвяточнае прадчуванне

*Мне хочацца на снежаньскі Майдан!*
*І ў думках я, напэўна, буду там.*
*Калі ў застоллях піць пачнуць*
*«за мілых дам»,*
*свой келіх падыму і тым аддам,*
*хто даў адпор амапаўскім шыхтам,*
*малым мястэчкам,*
*вёскам, гарадам,*
*маім суседзям*
*і маім братам —*
*ўсім тым, на кім трымаецца Майдан!*

### Украіна 2014

*Сумная менская ноч.*
*Мы заліплі каля манітораў —*
*Кіеў. Баі на Грушэўскага. Месяц каторы*
*цягнецца гэта тру сторы.*
*Хто з імі, хто з намі?*
*Хто баіцца канторы,*
*хто шукае адказаў у Гугле,*
*хто ў Торы.*
*Мы чакаем на лепшае,*
*першае,*
*пераймаемся вершамі,*
*вешаем цэтлікі, мятлікі,*
*палім у фортку.*
*Палохаем жонку,*
*чухаем котку.*
*У навушніках на патыліцы —*
*шум нараджэння краіны.*
*Героі, іх мроі,*
*і пульс Украіны!*

### Гарадскі эцюд

***Менскаму раёну «Шарыкі» прысвячаецца***

*Ля дома смутку «Цырыманіял»*
*стаяў цынічна магазін «Прадукты»,*
*у ім гнілі гародніна і фрукты,*
*п'яны раён па звычцы ціха спаў.*

*Пад лініяй электраперадач*
*задумлівыя серылі сабакі,*
*капаліся ў смецці небаракі,*
*паволі павялічваючы срач.*

*У нікому непатрэбнае ВэЧэ*
*паціху вар'яцелі салабоны,*
*паблытаўшы статут і забабоны*
*і шмат чаго паблытаўшы яшчэ.*

*Зіхцеў праспект у гонар партызанаў*
*да ходніка тулілася таксі,*
*што не скранецца, колькі не прасі,*
*бо спіць таксіст цяпер ужо да рана.*

*Крый мілы Божа! Міма пранясі*
*хрушчобаў пралетараў-ветэранаў,*
*ад вуліцаў аматараў таранаў,*
*заводаў трактарных,*
*іх дымавых туманаў,*
*падпольшчыкаў,*
*чырвоных атаманаў,*
*далей і прэч*
*хутчэй*
*мяне нясі!*

### НГ-рэквіем

*Даедзены апошні калядны бутэрброд,*
*і Дзед Мароз з-пад кропельніцы вылез.*
*Крыху паадэкватнеў падвыпіты народ*
*і пасталеў яшчэ на год — на выраст.*
*А новы год пачаўся, як скончыўся*
*стары, —*
*валютны курс і жарсці па хакеі.*
*У роспачным раскаянні заціснае пары*
*ялінка на вачах ніякавее.*
*Вурчыць лядоўня, сохне мандарын,*
*мігціць гірлянда і наводзіць смутак.*
*І пляма ад шампанскага — адзіны напамін*
*пра сем мінулых навагодніх сутак...*

### Фэйсбукавае

*Што за навіны ма́ю са стужкі? —*
*пара падлеткаў просіць папружкі,*
*Дзьве-тры разбэшчаныя дзявулі*
*на інстаграмах губы надзьмулі.*
*Ветхі палітык (амаль паралітык)*
*сочыць, што піша па ім аналітык.*
*Зноўку губляюцца коткі й сабакі,*
*шчыльна хвараюць на рак небаракі.*
*Хутка Каляды, чэргі на межах,*
*нашы сцягі на майданаўскіх вежах...*
*Тыдзень-другі — і ў год новы Каня*
*дзёрне галопам стужка мая!*

***

***маім сябрам***

*Я вулкамі прайдуся па лісці,*
*па снезе*
*і па высахлым асфальце,*
*па ўспамінах,*
*згадках*
*і па памяці.*
*Па ўсім, па чым не можна не прайсці,*
*па ўсім, па чым не можна мне прайсці...*
*Я ў вашы вокны буду заглядаць,*
*шукаючы агеньчыка*
*ці знічку.*
*Калісьці мелі мы такую звычку —*
*да раніцы дзвярэй не зачыняць.*
*У дом гасцінны іх не зачыняць.*
*Пайду цягацца,*
*пацягнуся йсці*
*па вуліцах вясёлай маладосці.*
*Сустрэну невымоўнае там штосьці,*
*пазнаю,*
*запрашу сабе на госці.*
*Усё, што пагублялася ў жыцці,*
*усіх, каго згубіў я па жыцці.*
*Мы сядзем ўсе за столікі кафэ.*
*Замовім тое,*
*што пілі звычайна,*
*і зноўку пасябруем так адчайна,*
*што хоць у бой,*
*хоць на аўтадафэ.*
*Што хоць у бой,*
*хоць на аўтадафэ...*
*Я вулкамі прайдуся па лісці,*
*па снезе,*
*і па высахлым асфальце,*
*па ўспамінах,*
*згадках*
*і па памяці.*
*Па ўсім, па чым не можна не прайсці.*
*Па ўсім, па чым не можна мне прайсці...*

***

*Туманы над Вялейкай і Будславам,*
*над Кабыльнікам* туманы,*
*як у коўдру ў іх загарнуся*
*ад дакучлівай гаманы.*

*Туманы над палямі і хатамі,*
*і навокал, дзе толькі відаць,*
*гэты край, туманамі багаты,*
*на зіму ўкладаецца спаць.*

*Цішаць гукі, выбельваюць фарбы,*
*запавольваюць час туманы,*
*прыбіраючы восені скарбы,*
*пад пухнатыя дываны.*

*І як толькі заплюшчыш павекі,*
*з туманоў уцялесніцца ён —*
*найкарыснейшы за ўсе лекі,*
*белы-белы, кастрычніцкі сон.*

* Кабыльнік — старая і сапраўдная назва мястэчка Нарач.

**Менск-Вялейка**

### Чыгуначны рок-н-рол

*Каму са мной па дарозе? —*
*Сядайце ў мой цягнік,*
*Сядайце ў мой цягнік,*
*Сядайце ў мой цягнік!*

*Упэўнены ў перамозе,*
*Ён рвецца ў белы цалік,*
*Ён рвецца ў белы цалік,*
*Ён рвецца ў белы цалік!*

*Даволі чакаць на марозе —*
*Зваротны пайшоў адлік,*
*Зваротны пайшоў адлік,*
*Зваротны пайшоў адлік!*

*Не трэба стаяць на парозе —*
*Тым, хто да волі звык,*
*Тым, хто да волі звык,*
*Тым, хто да волі звык!*

*З перону сплывае цягнік,*
*І спіць праваднік у знямозе,*
*Гвалтуючы рыфмы*
*І помсцячы прозе,*
*ў такт колам грукоча,*
*спыніцца не хоча.*

*Не*
*Па*
*Слух*
*Мя*
*Ны*
*Язык!*

***

*Рыба пачынае з галавы.*
*Рыбу пачынае з галавы КОТ.*
*Раб пачынаецца з галавы.*
*Раба пачынае з галавы КАТ.*



«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (96) | 25 ліпеня 2014 | № 29 (398) Новы час

# Шурка



Віктар СУПРУНЧУК

На вуліцы ля хаты, на лаўцы, якую пазаўчора пафарбавалі ў зялёны колер, а фарбу ім прынесла ў кубку Шурка, бо засталося ад плота, — сядзяць Сцяпан і Маня Гацулы. Адпачываюць, радуюцца жыццю.

Надвор'е хоць і восеньскае, але яшчэ не холадна. Асабліва калі на плячах цёплыя ватоўкі.

Шурка нетаропка ідзе па вуліцы, здалёк угледзела Сцяпана і Маню, і ніяк іх не абмінеш. Яна адзела чорную ў белы гарошак спадніцу, якую ёй летам пашыла Нінка Казловая з Фурштата, чырвоную кофту, прычасалася і, гледзячы ў люстэрка, у які раз падумала: «Здаецца, нічога зайздроснага, а мужыкі лезуць, нібы мухі на мёд». Ай, хай яшчэ будзе: падфарбавала вусны памадай. Чырвоныя вусны, у валасах сівізны ні-ні. Баба яна яшчэ — ого, агонь. Цьфу-цьфу… Пад нагамі гадоў не чуе. Дый якія гады? Пятая восень на пенсіі. Нібыта пенсія — канец жыцця.

Калі выходзіла з хаты, Міхал заўсміхаўся сваім бяззубым ротам, падняўся з лаўкі і праводзіў да веснічак. Лёгенька ляпнуў Шурку ніжэй спіны, і яна, задаволеная, шчаслівая, паабяцала купіць не адну бутэльку «чарніла», а дзве, два «фаўсты» ці нават тры і цыгарэты не «Прыму», а «Мінск» у цвёрдым пачку.

Усё-ткі добра ёй з Міхалам. Ён вясёлы, ніколі не сварыцца. Унь учора дзве курыцы здохлі. Яна выпадкам пасыпала атручанага ячменю, што трымала ў паветцы, каб «пачаставаць» мышак у пограбе. Паскудзяры пагрызлі палову бульбы, нават таўканіцы не згатуеш. Міхал толькі пасмяяўся, пажартаваў, маўляў, дзякуй, што яму не насыпала ў суп. Каб суседка Валя гэтак зрабіла, дык яе мужык Цюра забіў бы. Можа, і не забіў бы, але пакалечыў бы. Дый Колька, нябожчык, здаецца, ціхі, ціхі быў, а калі ўзбурыцца, ратуйся: пысу наваксуе. Тыдзень будзеш хадзіць з чорнымі вачмі.

Міхал — іншае, ніводнага разу на яе не падняў рукі. Дый ці параўнаеш быка і індыка. Колька, калі ў месяц дакранецца, то і добра, а Міхал кожную ноч варушыцца, цалуе, нібы маладую. Не, ну і Колька быў чалавек нішто сабе. Узяў яе ў жонкі. Часам успамінаецца, як яны на чатырох санях па замерзлай Ясельдзе ад саміх Песак праз балоты ехалі да Сяльца. Гэта ж не інакш паўсотня кіламетраў. Вазьмі які крук… На першых санях яна з Колькам. Пад кажушком белая да пятаў сукня, на нагах валёнкі, з белай воўны, якія збіў да вяселля сусед крывы Олесь. Колька ў новым сінім гарнітуры, што і цяпер яшчэ вісіць у шафе. Костачкі ягоныя даўно струхлелі, а адзежа жывая. Нават Міхал неяк адзяваў у Бярозу, калі ездзіў у райсабес.

Не, неблагі чалавек быў Колька, толькі надта ўжо слухаўся маткі. А тая за ім, бы хвост. Адыдзе некуды да хлопцаў цішком узяць чарку, ужо бяжыць, лямантуе на ўсю вуліцу: «Колька, Колька!..» Куды падзенецца твой Колька? Я, жонка, і то спакойна сяджу, калупаюся ў хаце ці ў агародзе. Што з ім здарыцца? Не, бяжыць, крычыць, бы пераляканая. Зразумела — адзін сын, бязбацькавіч. Бацьку яшчэ ў вайну застрэлілі немцы, бо лез куды не трэба. Актывістам у саракавым годзе быў, людзей з хутароў зганяў, а потым дапамагаў высяляць іх да белых мядзведзяў.

«Колька, Колька…» А навошта самагонку цукровую гнала? Замест таго, каб рабіць з жыта. Ведала, што ў яго сэрца слабое. Вось табе і Колька. Няхай сабе… Што было, ужо не вернеш. Усё-ткі неблагі быў мужык Колька. Сына Ваську і дачку Анжэлу нарадзілі. Апошнюю назвалі ў гонар гэтай чорнай, кудлатай з Амерыкі Анжэлы Дэвіс, якая крычала: «Далоў капіталістаў — імперыялістаў!» Тады якраз Ваську пяць гадоў было.

Дзеці, дзеці… Мала розуму ім далі. Усё свякруха камандавала: «Глядзі ж там, Васька, у арміі не спі. Бач, як салдацікі з аэрадрома прасціны па вёсцы носяць, газаю гандлююць. Глядзіш, і да хаты нейкі прыбытак. Няўжо ж яны ўсе грошыкі прапіваюць…» Даслухаўся бабкі-разумніцы, гаспадарніцы.

Пакуль Шуркі не было ў хаце, дык штовесну, казалі людзі, бегала па суседзях па бульбу, крупы. Не кажучы пра сала.

Не спаў Васька ў арміі, не спаў. Служыў ажно ў Сібіры, ля Іркуцка. Надоечы, здаецца, пайшоў у войска. Зграблі чалавечыя праводзіны: выгналі жытнёвай, закалолі чымалага парсючка…

Паўгода не мінула, як тэлефануюць з пошты: «Вам пасылка». Ад каго гэта? За ўсе гады, як выйшла замуж у Сялец, не тое што пасылкі, пісьма ніколі не было. Амаль уся радня за Ясельдаю, цяпер за возерам, як зруйнавалі раку, за балотамі, — ляжыць у зямлі. Толькі дзве стрыечные сястры засталіся, але яны такія, што снегу зімою не выпрасіш. А тут пасылка! Атрымалі, і мову адняло. Пасылка ад Ваські. У ёй ліст. Пісаў сынок: «Дарагія мамуля і татуля! Я вельмі добра служу. За гэта мяне моцна хваліць начальства. Нядаўна я атрымаў прэмію, адсылаю яе вам. Можаце прадаць альбо насіце самі. Рэч добрая. У салдат з аэрадрома такіх няма…»

У пасылцы быў кажушок, белы, даўгі, прыгожы. Толькі на спіне плямка, нібы мазутаю хтосьці пляснуў. Такога кажушка ні ў каго ва ўсёй вёсцы не было. Узрадаваліся падарунку. Колька дык адразу ўсхапіўся ў краму па віно, бо цукроўка ўжо скончылася. Як след замачыць рэч, каб доўга насілася. Малайчына, Васька! Во гэта сын, во здабытчык! Усё ў хату, у сям'ю. Не тое, што Клёчкаў Толік: у адных штанах пайшоў у войска, у другіх штанах вярнуўся.

Колька ў краму, а Шурка не вытрымала, пабегла да Гацулаў пахваліцца падарункам ад сына. Кажушок нюхалі, мялі пальцамі, ледзь на зуб не бралі. Ацанілі суседзі. Відаць, пазайздросцілі. З чатырох сыноў ніводзін кажушка не падарыў з арміі, а ўсе служылі.

…Шурка ідзе па вуліцы нага за нагу, хоць ззаду Міхал, нібы паганяйла, яшчэ чуваць як крычыць: «Магазін зачыняцца, лахудра, варушыся!» Ды паспее яна, паспее. За віном ісці, не дзіця з сябе выціснуць, малако, з гаршка закіпеўшы, не ўцячэ. Хай лепш печ глядзіць, бо хата поўная ўжо дыму. Бывае, як шыбане агонь праз дзіркі ў цаглінах, то хоць ратуйся. Калі гэта стары Лібачка рабіў ім печ? Мо на трэцяе лета пасля вяселля? Ваську пад трыццаць падкаціла.

— Куды, Шурка? — спыняе праз тры хаты Клаўдзя. Яна ўжо ледзь цягне ногі, старая. Сядзіць пад вішняю ля студні. Вось шанцуе чалавеку. Мужык даўно памёр, але сын пры ёй. Дзіўны чалавек Тадэвуш. Ездзіў па свеце, шукаў шчасця, шукаў. Жонка нібыта ёсць, а нібыта няма. Дужа хітрыя. Ён ля маткі, а жонка ў Бярозе крамкі мае, гандлярка, прадпрымальніца. Тадэвуш з барадой ужо сівой, валасы, бы, крый Божа, у папа. Такі ўжо вернік, такі вернік, крый Божа! Учора гарэлку піў, віно больш за Кольку, а цяпер — святы. Крый Божа!

— Іду па хлеб, — кажа Шурка і паварочвае галаву так, каб Клаўдзя бачыла яе падфарбаваны, яшчэ, здаецца, маладжавы твар. Памадаю, што Анжэла пазалетась прывезла з Брэста, мазнула вусны. Спярша запякло, нібы ад адэкалона, а пасля нічога. І выгляд, бы ў дзеўкі-перастаркі: не маладая і не старая. Дзякуй Богу, да васьмідзесяці пакуль як да Амерыкі пехатою і з торбачкай: за год не дапхнешся. — Можа, і вам прынесці?

— Не, дзякуй Богу. Тадзік учора прывёз і хлеба, і да хлеба. А кілбаса… Ты такой не каштавала.

— Дык дайце пакаштаваць, — Шурка спынілася і смяецца, ведаючы адказ, а Клаўдзя нібы не чула яе:

— Шурка, і што Васька?

Што Васька, што Васька… Шурка мацюкнулася так, як у іх любілі лаяцца за Ясельдаю, у Пясках, і, нічога не адказваючы, пашыбавала далей. Адчуваючы, як пацяжэлі ногі, у галаве — туман, і свет ужо не такі ласкавы, радасны, і ўчарашнія Міхалавы начныя пацалункі не хочацца ўспамінаць.

Што Васька, што Васька… Прынёс Колька пяць «фаўстаў», селі, як людзі. Капустачка на стале, туды накрышыла цыбулькі, наліла алею. Сала, праўда, пазаўчора даелі, але пасоленкі ў чыгуне былі.

Ля печы на крэсле расхінула кажушок ад Ваські. Падарунак. Налілі з Колькам па кубачку і нават не паспелі глынуць, а ў дзверы нехта ляпае. Хто ж гэта з суседзяў стукае, — ніхто. Ведама, чужы. Кольку віно калом у горле стала, ледзь не задыхнуўся, крычыць: «Самім мала. Хавай!» Як хавай, калі ў руцэ кубак, поўны віна. Дый навошта хаваць. Хай чалавек грамульку і возьме, бяднейшымі не будуць.

Не паспела Шурка дапіць віно, як адчыняюцца дзверы, і на парозе адзін, а пасля другі. Абодва вайскоўцы, з пагонамі. Усміхаюцца, нібы да сваіх бацькоў прыехаўшы.

— Дзень добры!

— Дзень добры!

— Аляксандра Тафілеўна і Мікалай Станіслававіч?

— Так, — Шурка прыцягнула з кутка ўслон, паставіла да стала. Яна адразу зразумела, што гэтыя госці ад Ваські. Скінула з «фаўстаў» ручнік, якім іх прыкрыў Колька ад чужых вачэй.

— Сядайце, госці дарагія.

Хлопцы селі за стол, а старэйшы дык усё падміргваў Шурцы, быццам запрашаў на пастаўнік пагуляць, і калі за акном стала шарэць, нават кроплі не засталося ў бутэльках. Тады ўжо госці паставілі на стол свой каньяк. Выпілі. Пазнаёміліся. Колька даўно абдымаў падушку, толькі мармытаў: «Солдат вернётся, ты только жди…»

І старэйшы, а гэта быў маёр, ваенны пракурор, паклаўшы руку на плячо Шурцы, прамовіў:

— Дарагая Аляксандра Тафілеўна, лепшага за Вас чалавека я не сустракаў у жыцці… Аднак факт ёсць факт: Васька ўкраў кажух. Украў. І ўсё тут. Значыць, што?

— Што? — заплакала Шурка.

— Турма, — сказаў маёр.

Яны дапілі каньяк, пераначавалі ў Шурчынай хаце, забралі белы прыгожы кажушок і паехалі. З таго часу Васька недзе сядзіць у турме. Нешта доўга сядзіць… Ён прыслаў пісьмо: «Усё будзе добра. Хутка атрымаеце лепшы падарунак. Гэта была мая памылка. Прабачце, дарагія тата і мама…»

Яны прабачылі, а што далей? Шурка не надта ўзяла да сэрца гэтую гісторыю. Малады, нічога. Жыццё — навука: і турма, і торба. Усё варта паспытаць, абы чалавекам застацца. Кольку нібы штосьці ляпнула па галаве: стаў маўклівы, задумлівы. Піў цукроўку дзень і ноч. Прачнецца, рука да конаўкі, і — толькі вады глыне. Памёр, не дачакаўся Ваські. Пайшоў у халодны, мокры жвір. Яму выкапалі пад высокай сасной, сонца з усіх бакоў. Падумала — і сабе побач месца пакінула. Не вечная. Хоць жывы дбае пра жывое…

Гэта было ўвосень, толькі кароў загналі ў хлеў. Дый кароў ужо — на руцэ пальцаў шмат: у Віцькі Капарэя і Валодзі Тараса. А было тым годам, калі прывезлі яе з Песак на санках па замерзлай Ясельдзе, дзве калейкі на вуліцы.

Зайшла ў хату: цёмна — запаліла святло. Сумна, пуста, толькі ў Гэлі Корданавай, дзякуй Богу, сабака гаўкае, ажно захліпваецца. То маўчыць, нібы здохлую мыш з'еўшы, а то, бач, раззяпіўся.

Можа, бульбы паесці? Няма ахвоты. Булён у печы стаяў. Наліла міску, толькі лыжку ў руку ўзяла, заходзяць. Васіль Кравец з Алендраў і нейкі мужчына. Сіваваты, хударлявы. Відаць, вясёлы, на месцы не стаіць, быццам шыла ў адным месцы. Прабег па хаце, агледзеўся і — за стол. Дастаў бутэльку гарэлкі. Булён унюхаў, зацмокаў:

— Смаката! Ой, смаката!..

Ну, дык і частуйся, ці ж шкода? Пасядзелі, выпілі, паспявалі. Застаўся ў яе Павелка наначь. Ложак шырокі, у хаце цёпла. Удваіх — не адной. Здаецца, нават паветра ўжо зусім іншае. Сонца праз вокны лепш грэць стала. Куры пад паветкаю ажылі. Певень загарланіў, як калісь п'яны Маляк.

Праз дзень прывёз Павелка з Бярозы свой паўпусты рэчмяшок, у якім акрамя дзіравых трусоў, штаноў і шкарпэтак нічога не было. А навошта Шурцы ягонае багацце. Галоўнае, што жывая душа побач. Ад Колькі засталіся боты, ватоўка незашмальцаваная, хоць і рабіў шафёрам. Дый яшчэ шмат чаго з адзежы, амаль не ношанай.

Павелка цукроўку не піў, толькі віно. Добры, лагодны быў чалавек. Вып'е кубак «чарніла», абдыме Шурку і спявае песні. Як сядзе, так і спявае. Спярша суседзі да яго не надта. Пасля Сцяпан Гацула ўпадабаў. Дык яны ля яго хаты паўдня гамоняць, разважаюць аб нечым сур'ёзным.

Вячэра стыне на стале, куры ўжо на седале, а Павелка ўсё ўспамінае, як ён некалі лавіў рыбу на Байкале. Шурка даўно ўжо ведала, што ён тры разы тануў, але яго выратавала мясцовая дзеўка. Яна была такая прыгожая, што Павелка ледзь не ажаніўся з ёй. Туга па роднай зямлі, па балотах, на якіх раслі чарніцы і журавіны, прымусіла яго вярнуцца ў Бярозу. Спярша Шурка нават раўнавала Павелка да той далёкай невядомай дзяўчыны, а потым ужо не слухала ягоную байку. Гэта была нібы казка, якую ёй на печы ў маленстве расказвала бабуля. У кожнага ўзросту свае казкі…

Грошы Павелка прыносіў рэдка. Шурка надта не сварылася. У яе пенсія. Не босыя, не галодныя. Грошы — не агуркі ці сала, не засоліш. Унь з Прадмесця Тодар усё збіраў, збіраў. У адной ватоўцы і ў гумовіках хадзіў зімой і летам, смачнага следзя не з'еў, не тое, што кілбасу. Парсюка выгадуе, бычка якога і — на мясакамбінат. Грошы — на ашчадную кніжку. Удваіх з жонкай: ні дзяцей, ні ўнукаў. Нібы паўсотні тысяч савецкіх рублёў было. І што? Засталася толькі ашчадная кніжка. Чытай, цалуй яе. У Шуркі гэтай кніжкі не было і не трэба. У каморы поўны кошык яек, да якіх вялікі аматар Павелка, у кубле сала, капустка, агуркі і грыбочкі салёныя. Бульба ёсць і да бульбы таксама. Жыві, спявай, радуйся!

Не, і гэты, нібы Колька, — сэрца, сэрца. Ляжаў побач, наеўшыся яек з віном. Раптам захроп, нібы конь з пераляку, пачуўшы ваўка. Пакуль сюды-туды, туды-сюды — няма. Адскакаў, адспяваў.

Ай, нават і слязінкі не было. Шкода, канечне, мужыка, але што зробіш? А нічога. Бог даў, Бог узяў. На хаўтурах Васіль Кравец з Алендраў, можа, разоў з дзесяць усё пачынаў: «А добры быў мужык Павелка. Ты, Шурка, павінна быць мне ўдзячнай…» Хто ж кажа, што благі. Добры. Але няма. Быў, але няма. І тады, ужо падпіўшы, Шурка трохі паплакала, успамінаючы, як Павелка лавіў рыбу на Байкале.

У Ганулі Дамінікавай быў некалі муж. Яна з ім развялася, бо дужа піў. Ад гарэлкі заснуў пад плотам і не прачнуўся. Гануля завяла сабе дзядзьку. Сімпатычны, сіваваты. Сяргей. Грады палоў, дровы сек. З Ганулай пад ручку хадзіў у краму. Кожную раніцу ездзіў на аўтобусе ў горад, дзе рабіў зваршчыкам, а вечарам — дахаты.

Шурка была таксама ў той дзень у Бярозе. Якраз на-

пярэдадні атрымала пенсію. Захацелася па крамах прайсці, паглядзець на прыгожыя рэчы. Можа, што і ёй спадабаецца.

Ад царквы, да якой з паўгода ўжо даязджаў аўтобус, яны ішлі разам па сцэнцы праз поле. Змеркла, зрэдзь сям-там у хатах святло. Толькі насупраць сядзібы Віці Капарэя на слупе гарыць ліхтар.

Ішлі: Шурка — спераду, Ганулін мужык — ззаду. Маўчалі. На паўдарозе нібы ачуўся:

— Мусіць, цяжкая ў цябе торба? Мо, дапамагчы? Абновак накупляла?

— Ха! Навошта. Гэтых трантаў і так поўная шафа. Так, сёе-тое. Розная драбяза.

— Бутэлечка, пэўна, ёсць? Якая-небудзь смачная?

— А як жа ж. Пабыць у горадзе і вярнуцца з пустой торбаю. Гэта не па-людску.

— Дык запрасі ў госці.

— Ха! Многа вас такіх ласых да чужых кілбасаў. Дый у цябе Гунуля ёсць. Нябось чакае, вочы прагледзела. Нябось свежай таўканіцы натаўкла.

— Нічога, пачакае, — ён рашуча ўзяў з Шурчыных рук торбу, у якой, канечне, прысмакі былі. Хто пачастуе, калі не сама сябе?

Слова за словам, ля-ля, ляля… На вуліцу са сцэнкі не звярнулі, збоку засталася Ганулі Дамінікавай хата. Цёмна вакол, страшнавата. Нават Гэлі Кордавай сабака не брэша.

— Усё, я прыйшла, — кажа Шурка.

— Ну, і добра, — цягнецца валацуга ўслед за ёй у двор.

Дык ужо і няёмка не пусціць у хату. Усё-ткі торбу нёс, дапамог адзінокай кабеце. Дзверы нібыта самі адчыніліся, нават не зарыпелі. Няйнакш адчулі мужчынскую руку.

На стол Шурка выставіла амаль усё, што прывезла з Бярозы. Набрала ў каморы яшчэ салёных агуркоў і грыбоў.

Ад душы пасядзелі, на гадзіннік не глядзелі. Гэты Ганулін Сяргей быў за сталом спрытны малацьбіт. Байкі, як Павелка, апавядаў. Але больш усё пра электрычную зварку. Як ён варыў нейкія тоўстыя трубы і быў самы лепшы зваршчык у раёне. Яму ордэн павінны ўжо былі даць… Яшчэ штосьці баяў зваршчык Ганулін Сяргей, але Шурка ўжо засынала. Ложак за спіной, далёка не ісці. Словы, бы кісель, цякуць, закалыхваюць… Як усё роўна пасля сена на Межарэхах, яе, стомленую, закалыхвае ласкавая вада Ясельды. Цела лёгкае, быццам у птушкі. Толькі б крылы. Пахне свежым сенам, рыба плёскае, забаўляецца, дыхае чыстым паветрам сенажаці. Колька касою шморг, шморг, шморг, шморг. Ледзь дыхае, хакае, але махае, замест таго, каб скокнуць у ваду, у абдымкі гарлачыкаў, адчуць, што радасць не толькі ў цукроўцы, касьбе, мазуце, машыне. Яна ў гэтай мяккай і роднай рачной вадзе.

Прачнулася Шурка, калі развіднела. Павярнулася, глянь: мужчына пад бокам. Абдымае яе. Сам, нібы ў сваім ложку. Божачкі! Успомніла: Ганулін мужык. Вось табе ў горад з'ездзіла. Спярша залзавала, а потым неяк пацяплела ў сярэдзіне, на сэрцы было такое шчасце, як некалі Колька прыязджаў у Пескі ў запоіны.



**Хаты, у якой яны ўчора з Шуркаю смачна частаваліся, пілі віно, не было. Тырчэў абсмалены комін, курэлі абсмалкі. І не было больш Шуркі… Не было яе голаса, вясёлых вачэй. Яе больш не было**

У адрозненне ад Павелка Сяргей прыйшоў да яе з чамаданам. З аднаго боку радасць, а з другога — бяда. Глядзець у вочы Ганулі, хадзіць міма яе хаты. Толькі яна ведала праўду. Ёй адной адкрылася Шурка, пасля таго як нарадзілася Анжэла. Бліжэй тады нікога не было за Ганулю. Трэба ж некаму сказаць, каб не муляла душу. Кольку ж не скажаш. Выпіў цукроўкі і спіць. Зусім стаў нямоглы…

Штораніцы па вуліцы ляскаюць калёсы. Брыгадзір Асецкі Іван Мінавіч збірае людзей скірдаваць салому. Ён — мужчына высокі, чарнявы. Як гукне, адразу адчуваецца, што ўлада ў руках. За такім не пойдзеш — пабяжыш. Калі глядзіць на кабету, здаецца, хай толькі скажа — усё зробіш. Дый каня ўзяць, каб бульбу пасадзіць, сенакос, дровы — без дазволу Мінавіча ні-ні.

Было лета, побач лес. У лесе грыбы, ягады. Хоць як пацягаеш саломы, нічога ўжо не трэба. А дома — агарод. Недзе ўжо Колька спіць пад падпіты, сэрца палячыўшы цукроўкай.

Які агарод? Які Колька? Мінавіч пад вечар прывёз тры бутэлькі партвейну і толькі хітнуў ёй галавой. Бабы пацягнуліся дамоў, а яна — у грыбы. На паляне, ля сівога ядлоўца, у чмурным паветры яе чакаў Мінавіч. Што было потым, ёй толькі зрэдку сніцца. Сніцца, а на зямлі яе крывінка — Анжэла. Здаецца, нават падобная на Кольку?

Шурка ўсё расказала Ганулі. Ёй адной. Больш ніводзін чалавек на свеце не ведаў, што Анжэла ад Мінавіча. Ніхто, ніхто… Ганулю бажылася захаваць да скону Шурчын сакрэт. Аднак чамусьці даўно ўся вёска гаварыла, што Анжэла ад Мінавіча. Як дзве кроплі вады. Чарнявая, такі ж нос, даўгаваты твар. А ў вачах: «Я — вышэй за ўсіх». Магчыма, толькі Колька быў не ў курсе.

Яна і тады ішла ў краму. Маня Гацуліха перадала, што прывезлі хлеб. У шафцы застаўся акрайчык. Дый рысу ўжо не было, алею. Сваё сала даелі, а як у хаце без сала? І запалак мала.

На вуліцы харахтво. Машыны не гойсаюць. Сонца не смаліць. Птушкі пяюць. Лісце на дрэвах, трава яшчэ зялёныя. У душы спакой, нібы вярнулася маладосць і настрой, як некалі ехалі з Колькам па замерзлай Ясельдзе на конях, і толькі хрумстаў чарот пад іх нагамі.

— Ах, ты, гадаўка, двухстволка ванючая! — яе піхнулі ў спіну, і Шурка адразу пачула Ганулі Дамінікавай голас. — Каб цябе ваўкі загрызлі, сучка аблезлая! Каб твае вочы святла больш не бачылі. Прастытутка! У, гадасць… Спалю свалату. Спалю хату і цябе! У свалата!

Чаму прастытутка, чаму двухстволка? Шурка не паспела нават асэнсаваць гэты крык, перапоўнены прыгажосцю жыцця, шчасцем, якія падарыў ёй лёс. Яна не ўпала, але на некалькі крокаў вельмі хутка прасунулася. Забылася пра ўсё на свеце: перад вачыма ад варот бяжыць Сцяпан Гацула, раз'юшаная Ганулю, у якой у руках тоўсты дубец. Не дай Бог, лясне па галаве. Не розум, а страх прымусіў яе, падхапіўшы спадніцу, кінуцца з усіх ног. Яна бегла па вуліцы, і краем вока бачыла, як рагаталі суседзі, чула, што гаўкалі сабакі. І, прыпыніўшыся ўжо на сцэнцы, села на запыленую жоўтую траву і заплакала.

Шурка плакала, але ёй чамусьці не было сумна. Душа не хвалявалася. І стала смешна. Яна зарагатала, і ад смеху слёзы былі не горкія, а салёныя.

У краме Шурка што хацела купіла. Накрыла стол. Пачаставаліся з Сяргеем, паспявалі. Нават у ложку паляжалі. Калі ўжо запалілі святло ў хаце, Шурка адчыніла насцеж дзверы, выставіла за парог чамадан зваршчыка:

— Бывай, любы, бывай!

— Куды бывай, як бывай?

— Бывай! — кінула у рукі ватоўку, у якой прыйшоў, шапку і, больш нічога не гаворачы, выштурхнула на вуліцу.

Усю ноч Сяргей грукаў у дзверы, ледзь шыбы не раскалаціў у вокнах. Крычаў, спаць не даваў. Дый яна ўсё роўна не заснула б. Які тут сон, калі зноў у хаце пуста. І мышы пад падлогаю, на гарышчы пішчаць, быццам адчуваюць, што няма гаспадара. Вытрымала, у хату не пусціла.

Ён пайшоў назад да Ганулі Дамінікавай, але тая не прыняла. Абліла памыямі і гнала дубцом амаль да царквы. Нездарма старыя людзі казалі: не злуй бабу, як сабаку, бо ўкусіць. І дзе цяпер зваршчык, толькі яму вядома. У краме, калі стаяла ў чарзе, Шурка пачула, што нібы з'ехаў з Бярозы. Мо так альбо не: у кожнага свая дарога. Тут табе не дваццаць гадоў, варта падумаць пра вечнае, да Клебанца, да мокрага халоднага жвіра ўжо, што да калодзежа.

Яна прасіла Кольку, Павелка, Сяргея і вось ужо Міхала быць гаспадарамі ў хаце. Не толькі есці яечню і таўканіцу, спаць у цёплым ложку, але ж, каб плот не ўпаў, у студні была чыстая вада. Свінню да кныра звадзіць на спатканне. Пакуль свіння была. А што? Саша Філец з Куроўшчыны за кожнаю такую сустрэчу ягонага кныра браў неблагія грошы. Дык і той, хто свінню прывёў, глядзі ва ўсе вочы. Грошы ж адддаў…

Свінню Павелка на вяроўцы вадзіў. Сама не ішла. Шурка ззаду папругаю падганяла. І вынік быў неблагі: пяцёра парасят. Двое сабе пакінулі, астатніх людзі забралі.

Колька ўсё рабіў, гаспадар быў. Сяргей толькі аднойчы студню пачысціў, новы шыфер на хляве прыбіў. Можа, і яшчэ паклапаціўся б. Ды Бог забраў…

Усіх прасіла перакласці печ. Ну, самі не майстры. Пашукайце якога дзядзьку. Пазаўчора пабацаў Міхал знайсці печніка. Няўжо яна, жанчына, будзе рамантаваць печ.

…Шурка падышла да Гацулаў, прысела ля іх на лаўку. Сцяпан пасунуўся, даючы ёй месца ля Мані. Адчувалася, што ён трошкі ўзяў лішку.

— Шурка, дай я цябе пацалую, — Сцяпан абняў яе, прыціснуў.

— Маню пацалуй, — Шурка адштурхнула Гацулу. Каб яшчэ, не дай Бог, зараўнавала Маня. Не, Маня святая, чыстая. З ёй можна душу адвесці. Гэта не Ганулю Дамінікавая.

— Што Маню, Маню?!. Жонка — гэта жонка, а Шурка — гэта Шурка.

— Мусіць, пенсію атрымаў?

— А як жа ж — атрымаў. Мані аддаў, але і сабе пакінуў. Вот табе Міхал аддае пенсію? А мо ты яму? — засмяяўся Сцяпан. Ён сказаў гэта без усялякай крыўды, але Шурка адчула ў ягоных словах непрыемны падтэкст. Быццам недалэнга Валя, пляменніца Колькі, у якой не зусім з галавой: хто хоча прыгалубіць, а хто і ў пысу дасць. Не, Міхал амаль усе грошы заўжды аддасць, толькі пакіне сабе на дзесяць бутэлек віна. Як, кажа, баявы запас. Ну, што гэта за мужчына без капейчыны ў кішэні? Папіхіч.

Міхал ужо больш года жыў з Шуркай. Жонка ягоная даўно памерла. Валачыўся па бабах, пакуль не прыстаў да Шуркі. І нібы тут у хаце ўсё жыццё. Быццам не было Колькі, Павелкі, Сяргея. Спакойна з ім, утульна. Але разгультаіўся, разгультаіўся па бабах. Лішні крок не зробіць, на пуп не бярэ. А і, праўда, навошта? Хто цяпер на пуп надта бярэ? Міхал сваё адрабіў на трактары, пылу наеўся. Здароўе ўжо трэба берагчы. Лепш віп'юць яны «фаўсты», пасядзяць, пагамоняць. Не жыццё, а цуд. Так думала Шурка, вяртаючыся з крамы. Ішла па сцэнцы, каб не спаткацца зноў з Гацулам. Скажа: «Шурка, пачастуй». А ім з Міхалам і самім мала. Да яе пенсіі яшчэ далёка. Не, лепш абмінуць Гацулаву хату.

Седзячы ля печы, Міхал драмаў. Недзе, пэўна, дзьмухнуў. Няйнакш Гэлька паставіла. Носам пасвістваў, у руках цыгарэта з дымком, дагарае. У печы зыркае полымя, у хаце, як у лазні. Хоць скуры здымай.

Убачыўшы Шурку, ачуўся, пажвавеў. Вочы хітрыя, бы ў галоднага сабакі.

— Галубка ты мая, ягадка! — выхапіў з рук торбу. Усё на стол. Дзверы ў сенцах — на засаўку ад нежаданых гасцей. Задаволены, твар расчырванеўся. Як ні кажы, ніхто не быў лепшы за Міхала. Пашанцавала з чалавекам.

— Эх, Міхалка, Міхалка! — як мне добра з табой. Я такая шчаслівая! — паклала галаву на плячо Міхала, моцна пацалавала яго.

— А мне, думаеш, кепска? — сказаў Міхал, пагладзіў яе па галаве, трошкі разбэрсаў чорныя густыя валасы, зрэдзь пасыпаныя сівізной. Ён ужо адкаркаваў віно, паставіў на стол капусту, нарэзаў кілбасы, хлеба. Чым не свята? Што яны — горшыя за тых паноў у тэлевізары?

У печы трашчалі ў агні сухія дровы, якія нарыхтавала Шурка яшчэ некалі з Колькам, калі выразалі ля Ясельды лес пад возера. Бярэзіна, альшына, асіна. Дровы ляжалі ў кастры за хлявом. Шурка ашчадна іх паліла, берагла. Міхал смяяўся з гэтага: будуць новыя.

Аб нечым гаварылі, смяяліся. Раптам мільгнула ў Шурчынай галаве, што яна даўно збіралася адпісаць Ваську ў турму, Анжэле, у якой нарадзілася другое дзіця. Вось заўтра зранку. Не, лепш пасля абеду… Думкі заблыталіся, бы кудзеля, скамячыліся. Міхал нешта гаворыць, гаворыць. І сам смяецца, смяецца. А Шурка засынае, куляючыся з табурэткі на ложак, які за спіной, — хадзіць далёка не трэба. І сніцца ёй, што яна ў белай сукенцы і кажушку з Колькам на санях імчаць па замерзлай Ясельдзе на сваё вяселле ў Сялец, а за імі Павелка, Мінавіч, Сяргей з гасцямі, і толькі недзе далёка-далёка цягнецца Міхал, шыбуючы напрасткі праз балота. Спрабуе іх дагнаць, нешта крычыць, а потым знікае ў шэра-белым ад снегу сухім чароце, які трашчыць, трашчыць. Ёй цёпла ў кажушку, у белых новых валёнках, ажно горача…

Міхал, пакінуўшы ў хаце Шурку, пастаяў трохі на бязлюднай, падвячоркавай вуліцы. Няўцямна паслухаў застылую глухую цішыню. Неба было цёмна-шэрае, халоднае. Ніводнага чалавека. Захацелася вярнуцца да Шуркі, але яна спала. І ён пайшоў, нібы хтось паклікаў, зусім у іншы бок. Нейкая невядомая сіла павяла Міхала, пацягнула праз пастаўнік, меліярацыйны канал да Алендраў, дзе была яго родная хата. Пустая з таго часу, як перайшоў да Шуркі.

Здаецца, з астатніх сіл дапяў да свайго гнязда, адамкнуў сенцы і заснуў ля стала. Раніцай, адпачыўшы, вярнуўся назад; быў упэўнены, што Шурка пачастуе яечняй з салам, аладкамі. З агарода ён ужо бег, не адчуваючы, як калоціцца сэрца, не хапае паветра…

Хаты, у якой яны ўчора з Шуркаю смачна частаваліся, пілі віно, не было. Тырчэў абсмалены комін, курэлі абсмалкі. І не было больш Шуркі… Не было яе голаса, вясёлых вачэй. Яе больш не было.

Перад самым снегам Міхала паклікала закалоць свінчо Гэля Кордавая. Як не дапамагчы адзінокай жанчыне? Былі і скварка, і чарка. А потым Міхал там сек дровы на дварэ. Вясёлая Гэля складвала іх у касцёр…

# Чытанне



Ўістан Х'Ю ОДЭН

*Кніга — гэта люстэрка: калі ў яго зазірае асёл, не трэба думаць, што выгляне апостал.*
***К. Г. Ліхтэнбэрг***

*Чалавек добра чытае толькі тое, што чытае з пэўнай прыватнаю мэтай. Напрыклад, каб набрацца сілаў. Ці з нянавісці да аўтара.*
***Поль Валеры***

Інтарэсы пісьменніка з інтарэсамі яго чытачоў заўсёды розняцца, і калі часам ім здараецца супасці, лічы гэта шчаслівым выпадкам.

У дачыненні да аўтара большасць чытачоў трымаюцца палітыкі двайнога стандарту: яны могуць здраджваць пісьменніку, калі захочуць, а ён жа ніколі, ніколі не павінен ім здраджваць.

Чытаць — значыць перакладаць, бо няма двух чалавек з аднолькавым жыццёвым досведам. Кепскі чытач як кепскі перакладчык: літаральна перакладае там, дзе трэба перakazваць сваімі словамі, і перakazвае сваімі словамі тое, што патрабуе літаральнага перакладу. Каб навучыцца добра чытаць, адукацыя, каштоўная сама па сабе, усё ж значыць менш, чым прыроднае пачуццё: некаторыя вялікія вучоныя былі бяздарнымі перакладчыкамі.

Ад кнігі мы часцяком бяром нашмат больш, калі чытаем яе зусім не так, як бачылася аўтару, але (калі дзяцінства ўжо мінула) толькі пры ўмове ўсведамлення гэтага.

У ролі чытача многія з нас паводзяцца ў нейкай ступені як вісусы, што падмалёўваюць вусы дзяўчатам у рэкламных абвестках.

Адной з прыкметаў літаратурнай каштоўнасці твора ёсць магчымасць прачытаць яго па-рознаму. І наадварот, доказам таго, што парнаграфія не мае і найменшай літаратурнай вартасці, ёсць тое, што, як толькі нам заманецца прачытаць парнаграфію не як стымулятар сэксуальнага жадання, а, напрыклад, як псіхалагічны анамнез эратычных фантазій аўтара, то знудзімся да слёз.

І хаця літаратурны твор можна чытаць некалькімі спосабамі, іх колькасць абмежаваная і ўтварае пэўную іерархію: некаторыя прачытанні больш «праўдзівыя» за іншыя, некаторыя больш спрэчныя, некаторыя відавочна памылковыя, а бываюць такія, як, напрыклад, чытанне рамана з канца ў пачатак, што аказваюцца зусім недарэчнымі. Вось таму на бязлюдны востраў нашмат лепш узяць з сабой добры слоўнік, чым які заўгодна літаратурны шэдэўр, бо ў стасунках з чытачом слоўнік абсалютна пасіўны і дапускае прачытанне бясконцай колькасцю спосабаў.

Мы не можам чытаць першую кнігу нейкага аўтара гэтаксама, як апошнюю кнігу аўтара ўжо вядомага. У творы новага пісьменніка мы бачым ці толькі моцныя, ці толькі слабыя бакі, а калі нават заўважаем абодва, то адчуць узаемасувязь між імі не ўдаецца. У выпадку ж з выбітным аўтарам, калі мы наогул яшчэ можам яго чытаць, мы ведаем, што насалоджвацца моцнымі, з нашага гледзішча, праявамі яго таленту немагчыма, не прыняўшы праяваў слабых. Больш за тое, нашая ацэнка вядомага творцы ніколі не абмяжоўваецца адно эстэтычным чыннікам. У дадатак да літаратурнай вартасці новай кнігі, яна ўяўляе для нас яшчэ і гістарычны інтарэс — як вынік дзейнасці чалавека, якім мы доўгі час цікавімся. Ён для нас не проста паэт ці празаік, ён герой нашай біяграфіі.

Паэт, чытаючы паэта, і празаік, чытаючы іншага празаіка, заўсёды параўноўваюць яго творы са сваімі. Іх ацэнкі падчас чытання выглядаюць так: «Мой Бог! Мой прадзед! Мой дзядзька! Мой вораг! Мой брат! Мой брат-дэбіл!»

Вульгарнасці ў літаратуры заўжды аддаюць перавагу перад нікчэмнасцю, гэтаксама як партвейну перад дыстыляванай вадой.

Добры густ мае больш агульнага з пераборлівасцю, чым з адрынаннем, і калі ён вымушаны нешта адрынуць, то робіць гэта з жалем, а зусім не з асалодай.

Безумоўна, асалода — вельмі памылковы арыенцір для крытыка, але пры гэтым памылковы ў найменшай ступені.

Чытаючы, дзіця кіруецца задавальненнем, але гэтае пачуццё непадзельнае, дзіця не падзяляе задавальненне, напрыклад, на эстэтычнае і задавальненне ад пазнання ці мараў. У юнацтве мы ўжо ведаем пра існаванне розных задавальненняў і што некаторыя з іх нельга адчуваць адначасова, але каб іх адрозніць, нам патрэбная дапамога іншых. Фармуючы свой кулінарны густ або густ літаратурны, юнак усё роўна шукае аўтарытэт, якому ён можа давяраць. Ён есць ці чытае тое, што рэкамэндуе яму аўтарытэт, і часам непазбежна здраджвае сабе, калі даводзіцца рабіць выгляд, што аліўкі ці «Вайна і мір» падабаюцца яму крыху больш, чым насамрэч. Ва ўзросце ад дваццаці да сарака мы перажываем працэс пазнання таго, кім мы ёсць, і ён правакуе на спасціжэнне розніцы паміж часовым абмежаваннем, якое мы абавязаныя перарасці, і неабходным абмежаваннем нашай прыроды, пераадолець якое немагчыма беспакарана. Толькі некаторым з нас удаецца спасцігнуць гэтую розніцу, не нарабіўшы памылак, не спрабуючы стаць крыху больш развітым чалавекам, чым дазволена. Менавіта ў гэты час пісьменніка можа збіць з дарогі іншы пісьменнік ці іншы светапогляд. Калі нехта ва ўзросце ад дваццаці да сарака кажа пра твор мастацтва: «Я ведаю, мне гэта падабаецца», — насамрэч ён кажа: «У мяне няма свайго густу, я прытрымліваюся густу свайго культурнага асяродку», — таму што ва ўзросце між дваццацю і сарака найбольш дакладнай прыкметай сапраўднага асабістага густу ёсць няўпэўненасць у ім. Пасля сарака, калі мы яшчэ не зусім страцілі сваё сапраўднае «я», задавальненне зноўку робіцца тым, чым было ў дзяцінстве — найлепшым чыннікам у выбары кніг для сябе.

Хаця задавальненне ад твора мастацтва нельга блытаць з іншымі задавальненнямі, яно з імі непасрэдна звязанае, бо атрымліваем яго менавіта мы, а не хтосьці яшчэ. Усе нашыя меркаванні эстэтычнага ці маральнага кшталту, як бы аб'ектыўна мы ні спрабавалі іх сфармаваць, усё роўна, з аднаго боку, уяўляюць сабой вытлумачэнне, а з другога — утаймаванне нашых суб'ектыўных жаданняў. Калі чалавек піша вершы ці прозу, Эдэм яго мары — яго прыватная справа, але як толькі ён бярэцца за крытычны артыкул, сумленне патрабуе апісаць чытачам Эдэм такім чынам, каб яны змаглі абмеркаваць яго меркаванне. Такім чынам, я мушу зараз даць свае адказы на некалі створаную мной анкету па пунктах, якія я хацеў бы бачыць у артыкулах іншых крытыкаў.

Эдэм

Ландшафт

Горы вапняковай пароды, падобныя да Пенінскіх, з невялікім участкам агнявой пароды і прынамсі адным патухлым вулканам. Стромкае і няроўнае марское ўзбярэжжа.

Клімат

Брытанскі.

Этнічны склад жыхароў

Надзвычай разнастайны, як у ЗША, але з невялікай перавагай нардычнага тыпу.

Мова

Шмат пазычанняў, як у ангельскай, але з вялікай колькасцю флексій.

Меры даўжыні і вагі

Нестандартызаваныя і заблытаныя. Дзесятковая сістэма адсутнічае.

Рэлігія

Паводле рыма-каталіцкага абраду, але палегчаны міжземнаморскі варыянт. Мноства мясцовых святых.

Памеры сталіцы

Ідэальная лічба паводле Платона — 5004, якраз тое, што трэба.

Дзяржаўны лад

Абсалютная манархія, манарх абіраецца на ўсё жыццё лёсаваннем.

Крыніцы прыроднай энергіі

Вецер, вада, торф, вугаль. Ніякай нафты.

Галіны прамысловасці і сельскай гападаркі

Здабыванне свінцу, вугалю, хімічная і папяровая прамысловасць, авечкагадоўля, раслінаводства, парніковае гародніцтва.

Віды транспарту

Коні і запрэжаныя коньмі фурманкі, вузкакалейная чыгунка, баржы, паветраныя шары. Ніякіх аўтамабіляў і аэрапланаў.

Архітэктура

Парадная: барока. Царкоўная: раманскі ці візантыйскі стыль.

Побытавая: брытанскі XVIII стагоддзя ці амерыканскі каланіяльны.

Хатняя мэбля і абсталяванне

Віктарыянскі стыль за выняткам кухні і ваннага пакоя, абсталяваных як мага больш сучасна.

Афіцыйная вопратка

Па парыжскай модзе 1830—1840-х гг.

Крыніцы інфармавання грамадскасці

Чуткі. Тэхнічныя і навуковыя перыядычныя выданні, а таксама газеты адсутнічаюць.

Грамадская іерархія

Абмежаваная спісам вядомых спачылых кулінараў.

Грамадскія забавы

Рэлігійныя працэсіі, ансамблі духавых інструментаў, опера, класічны балет. Ніякага кіно, радыё і тэлебачання.

Калі б мне давялося напісаць імёны ўсіх паэтаў і празаікаў, якім я бязмежна ўдзячны за іх творы — бо калі б не яны, маё жыццё было б бяднейшым, — гэты спіс налічваў бы старонкі. Але калі я пачынаю разважаць пра ўсіх крытыкаў, якім я напраўду ўдзячны, то іх колькасць абмяжоўваецца трыццацю чатырма імёнамі. Дванаццаць з іх немцы і толькі два — французы. Ці сведчыць гэта пра свядомую перадузятасць? Безумоўна.

Калі добрых літаратурных крытыкаў нашмат менш за добрых паэтаў ці празаікаў, дык адна з прычынаў гэтай з'явы — прыродны эгаізм. Паэту ці празаіку варта навучыцца скарацца перад аблічам сваёй галоўнай тэмы — жыцця як такога. Але галоўная тэма крытыка, перад якой ён мусіць умець скарыцца, складаецца з аўтараў, так бы мовіць, чалавечых істотаў — прыняць самапрыніжэнне такога кшталту цяжэй. Значна прасцей заявіць: «Жыццё важнейшае за тое, што я магу пра яго сказаць», — чым прамовіць: «Кніга містэра А важнейшая за тое, што я магу пра яе сказаць».

Ёсць людзі занадта разумныя, каб быць пісьменнікамі, але яны не ідуць у крытыкі.

Бачыць Бог, пісьменнікі часам бываюць даволі дурныя, але яны не заўсёды дурныя настолькі, як пра іх думаюць пэўныя крытыкі. Я маю на ўвазе крытыкаў, якім ніколі не прыходзіць да галавы, што калі яны ганяць нейкую кнігу ці ўрывак з яе, то аўтар ужо прадбачыў, што яны збіраліся сказаць.

Якая ж функцыя крытыка? На маю думку, крытык для мяне асабіста можа зрабіць наступнае:

1. Пазнаёміць мяне з аўтарамі ці творамі, пра якія я раней не чуў.
2. Пераканаць мяне, што я недаацаніў пэўнага аўтара ці твор, бо чытаў яго недастаткова ўважліва.
3. Прадэманстраваць мне сувязі паміж творамі розных эпохаў і культураў, якія б я не заўважыў самастойна, бо



не маю і ніколі не буду мець дастатковых для гэтага веды.

4. Прапанаваць мне «прачытанне» кнігі, якое б дапамагло яе лепш зразумець.

5. Растлумачыць працэс «стварэння» мастацкага твора.

6. Растлумачыць сувязі мастацтва з жыццём, навукай, эканомікай, этыкай, рэлігіяй і гэтак далей.

Першыя тры пункты патрабуюць адукаванасці. Але вучоны — гэта не проста той, хто мае шмат ведаў: яго веды мусяць мець каштоўнасць для іншых. Нельга ж назваць вучоным чалавека, які ведае на памяць тэлефонны даведнік Манхэтэна, бо абсалютна немагчыма ўявіць, чаму ён можа некага навучыць. Такім чынам, адукаванасць — з'ява часовая, бо прадугледжвае сувязь таго, хто ведае больш, з тым, хто ведае менш, і ў дачыненні да грамадства кожны крытык часова робіцца вучоным, таму што ён ужо прачытаў кнігу, якую крытыкуе, а грамадства — яшчэ не. І хаця веды вучонага мусяць мець патэнцыйную каштоўнасць, сам ён гэтую каштоўнасць можа не ўсведамляць. Вельмі імаверна, што вучань, якому вучоны перадае іх, ацэніць веды лепш. Наогул, чытаючы вучонага крытыка, мы атрымліваем больш карысці ад прыведзеных цытатаў, чым ад яго каментароў.

Апошнія ж тры пункты вымагаюць не выдатных ведаў, а выдатнай празорлівасці. Крытык тады дэманструе сваю празорлівасць, калі пытанні, якія ён падымае, вылучаюцца важнасцю і актуальнасцю, хаця пры гэтым многія чытачы могуць не пагадзіцца з прапанаванымі на іх адказамі. Напэўна, толькі некаторыя могуць прыняць высновы Талстога ў трактаце «Што такое мастацтва?», але прачытаўшы гэтую кнігу, ужо немагчыма ігнараваць пытанні, пастаўленыя Талстым.

Адзіная рэч, якую я заклікаю крытыкаў не рабіць, — гэта казаць мне, што я павінен ухваліць, а што — зганіць. Я зусім не супраць, каб ён падзяліўся са мной сваімі меркаваннямі наконт любімых і нелюбімых аўтараў і твораў; дый напраўду ведаць іх надзвычай карысна, бо, супаставіўшы тое, што ён лічыць за найлепшае, са сваімі ацэнкамі тых жа кніг, я буду ведаць, наколькі яго характарыстыка твора, які я не чытаў, можа супасці з маёй. Але нельга дазваляць крытыку распаўсюджваць на мяне свае законы. Адказнасць за тое, што чытаць, ляжыць цалкам на мне, і ніхто не можа за мяне гэта зрабіць.

Да крытычных меркаванняў пісьменнікаў варта заўжды ставіцца скептычна, бо ў большасці сваёй яны — праява яго ўнутраных спрэчак з нагоды таго, куды варта рухацца далей і чаго пазбегнуць. Больш за тое, у адрозненне ад вучонага, пісьменнік нават менш абазнаны ў тым, чым займаюцца яго калегі, чым у грамадскіх працэсах.

Паэт за трыццаць можа ўсё яшчэ быць прагным чытачом, але наўрад ці большасць з таго, што ён чытае, — сучасная паэзія.

Практычна ніхто з нас не можа з упэўненасцю пахваліцца, што ніколі ў жыцці не зганіў кнігу ці нават аўтара адно па чутках, і пры гэтым шмат хто з нас ні разу не пахваліў кнігу, якую не чытаў.

Запавет «Не супраціўляйся злу, а пераадольвай яго дабром» у многіх сферах жыцця выканаць немагчыма, але у сферы культуры гэта ўсё ж цвярозая думка. Кепскае мастацтва заўжды побач, але любы твор мастацтва бывае кепскім толькі часова, і заганы, якія ён увасабляе, згінуць, даўшы дарогу заганам іншым. Але зусім неабавязкова іх выкрываць, бо яны ўсё роўна згінуць. Калі б Макалэй не напісаў сваю разгромную рэцэнзію на паэзію Роберта Мантгомэры, мы б цяпер не былі ў палоне ілюзіі, што Мантгомеры — вялікі паэт. Самым разумным для крытыка будзе маўчаць пра кнігі, якія ён лічыць кепскімі, і ў той жа час усяляк рашуча прасоўваць творы, якія ён лічыць добрымі, асабліва калі яны недаацэненыя або застаюцца па-за ўвагай грамадскасці.

Некаторыя кнігі незаслужана забытыя, але ніводнай не памятаюць незаслужана.

Адзінае зло ў літаратуры, якое дараваць нельга, якое вартае выкрыцця з усёй суворасцю, — гэта псаванне мовы

Часам крытыкі даводзяць, што выкрываць заганы аўтара — іх маральны абавязак, бо калі яны гэтага не зробяць, той можа дрэнна паўплываць на іншых пісьменнікаў. Без сумневу, маладога пісьменніка можа збіць з дарогі, звесці з так званага сапраўднага шляху старэйшы пісьменнік. Але ўсё ж больш імаверна, што ён паддасца спакусе добрага пісьменніка, чым кепскага. Чым больш аўтар моцны і арыгінальны, тым ён небяспечнейшы для слабейшых талентаў, якія толькі шукаюць сябе. З іншага боку, творы, нікчэмныя самі па сабе, даволі часта будзілі ўяўленне іншых і ўскосным чынам спрычыняліся да нараджэння вартых кніг.

Нельга выхаваць у чалавеку добры гастранамічны густ, сцвярджаючы, што яго звычайная ежа, вадзяністая пераваная капуста, да прыкладу, — гэта штосьці агіднае. Нашмат лепш яго пераканаць, пачаставаўшы як след прыгатаванай гароднінай. З некаторымі людзьмі, што праўда, вы хутчэй дасягнеце жаданага выніку, калі скажаце ім: «Толькі цёмныя людзі любяць пераваранную капусту; найлепшыя ж аддаюць перавагу капусце па-кітайску». Толькі эфект наўрад ці будзе працяглым.



Калі крытык, якому я давяраю, ганіць нейкую кнігу і я адчуваю палёгку, то гэта толькі таму, што кніжак друкуецца зашмат, і суцяшэнне думаць: «Ну вось, нарэшце, хоць гэтую мне чытаць не трэба». Але калі б ён не напісаў нічога, вынік быў бы той самы. Нападкі на кепскія кнігі не толькі марнуюць час, але і псуюць характар. Калі кніга падаецца мне напраўду кепскай, адзіная цікаўнасць, якая падштурхне мяне да яе рэцэнзавання, будзе хавацца ўва мне самім — жаданне прадэманстраваць уласны розум, дасціпнасць і зласлівасць, на якую я здольны. Нельга крытыкаваць кепскую кнігу, не красуючыся.

Адзінае зло ў літаратуры, якое дараваць нельга, якое вартае выкрыцця з усёй суворасцю, — гэта псаванне мовы, бо пісьменнікі не могуць вынайсці сваю асабістую мову, яны грунтуюцца на мове, якую атрымалі ў спадчыну, і таму, калі псуецца мова, сапсаваныя і пісьменнікі. Але крытык, якога хвалюе гэтае зло, мусіць выкрываць яго ля самых вытокаў, то бок не ў літаратурных творах, а ў няправільным ужыванні словаў у асяроддзі людзей з вуліцы, журналістаў, палітыкаў і гэтак далей. Больш за тое, ён мусіць кіравацца тым, да чаго заклікае. Колькі крытыкаў у Англіі ці Амерыцы цяпер сапраўдныя майстры роднага слова, якім быў Карл Краўс, знаўца нямецкай мовы?

Саміх крытыкаў вінаваціць не варта. Мабыць, большасць з іх хацела б пісаць рэцэнзіі толькі на тыя кнігі, якія, нягледзячы на заганы, з іх пункту гледжання вартыя прачытання. І калі б крытык аднаго з буйных нядзельных штотыднёвікаў паддаўся гэтай спакусе, то прынамсі ў адну нядзелю з трох яго літаратурная калонка пуставала б. І зноў-такі, любы добрасумленны крытык, якому калі-небудзь выпадала пісаць абмежаваную аб'ёмам рэцэнзію на новы зборнік паэзіі, ведае: найлепшае, што можна зрабіць, — гэта даць шэраг кніжных цытатаў без аніякага каментару. Але калі б ён так зрабіў, рэдактар паскардзіўся б, што крытык атрымлівае грошы дарма.

Справядліва ганіць крытыкаў можна толькі за тое, што яны маюць кепскую звычку сартаваць аўтараў і навешваць на іх цэтлікі. Спачатку крытыкі класіфікавалі літаратараў як старажытных, то бок грэцкіх і лацінскіх, і як мадэрных, то бок усіх посткласічных. Потым яны класіфікавалі іх па эрах: аўгустынскія, віктарыянскія і г.д., а цяпер яны ўжо класіфікуюць аўтараў па дзесяцігоддзях: пісьменнікі 30-х, 40-х і г.д. Мабыць, хутка іх будуць падзяляць, як аўтамабілі, па гадах. Але ж класіфікацыя па дзесяцігоддзях ужо абсурдная, бо мае на ўвазе, што аўтар проста перастаў пісаць у трыццаць пяць.

«Сучасны» — яшчэ больш злоўжываны панятак. Мае сучаснікі — гэта ўсе насельнікі Зямлі ў час майго жыцця, немаўляты ямы ці нябожчыкі.

У пісьменніка, ці хаця б у паэта, людзі, якія мусяць ведаць лепш, часта пытаюцца: «Для каго вы пішаце?» Пытанне, безумоўна, бязглуздае, але і адказ я магу даць бязглузды. Здараецца, я знаходжу кнігу, якая, мне падаецца, была напісаная для мяне і толькі для мяне. Нібы раўнівы каханак, я не хачу, каб нехта яшчэ чуў пра яе. Мець мільёны такіх чытачоў, якія, не здагадваючыся пра існаванне адно аднаго, палка чытаюць тваю кнігу і ні з кім не абмяркоўваюць, вось гэта, я пераканаy, мара любога пісьменніка.

**Пераклад з ангельскай Юлі Цімафеевай**

## №13: Прывід аўтара

**(Прадмова да новага электроннага нумара «Прайдзісвета»)**

Магчыма, аўтар і памёр, як кажуць некаторыя, але нават калі так, яго прывід абавязкова бадзяецца недзе побач з намі. Бачым мы яго ці не — залежыць выключна ад нашага стаўлення да літаратуры ўвогуле і нашых з ім дачыненняў у прыватнасці. Адны чытачы забываюць пра існаванне аўтара, ледзь загарнуўшы кнігу (а хтосьці — яшчэ да таго, як яе разгорне), іншыя ж могуць аўтара ўзненавідзець, закахацца ў яго ці да канца свайго жыцця з ім палемізаваць. І гэта няпраўда, што аўтар, які памёр гадоў так сто пяцьдзясят таму, не будзе ім адказваць. Дыкенс, напрыклад, пакідаць сваіх чытачоў увогуле не збіраецца: «Скрудж, прыўскочыўшы на ложку і застыўшы напаўседзячы, апынуўся з незямным госцем, чыя рука полаг і расхінула, твар да твару — так блізка, як цяпер мы з вамі, бо ў думках я акурат нахіляюся над вашым плячом» («Калядны харал»).

Прывід любога аўтара можа расказаць нам шмат усяго цікавага — напрыклад, нешта гэткае пра сваё прыватнае жыццё, чаго шырокая публіка раней не ведала і пра што нават не падазравала (лісты спаленыя, сведкі памерлі натуральнай ці гвалтоўнай смерцю, дом разбураны), — але часам лепш, каб таямніца так і засталася таямніцай. Іншая таямніца, якой і аўтары, і іх прывіды дзеляцца нашмат больш ахвотна, — гэта рэцэпты напісання добрых вершаў ці раманаў альбо гісторыі пра свае заблытаныя стасункі з чытачом, ці з музай, ці з грамадствам. Адкрывацца гэтая таямніца можа па-рознаму — ад прыватных лістоў і дзённікаў да прадмоваў, пасляслоўяў і сур'ёзных літаратуразнаўчых артыкулаў.

У творах такога кшталту, як і ў іх чытачах, недахопу не было ніколі, бо і самі пісьменнікі, і іх прыхільнікі часам хочуць зразумець, як гэта — сесці і напісаць кнігу. Ці сесці і прачытаць кнігу. А часам нават самому твору робіцца цікава: як жа я зроблены? І ён раптам пачынае даследаваць уласную прыроду і ўсяляк дэманстраваць тое, з чаго складаецца, ператвараючыся ў металітаратуру. Аднак ні пісьменніку, ні твору ў гэтай справе давяраць нельга: першы можа ці перамудрыць, ці проста трохі з чытачамі пакакетнічаць, другі ж можа лёгка падмануць. Застаецца верыць толькі сабе, чаго мы і жадаем вам, чытачы новага нумара, і хай прывід аўтара, калі ён раптам нахіліцца над вашым плячом, зусім вас не напалохае!

***P.S.*** *А з усімі матэрыяламі трынаццатага «Прайдзісвета» можна пазнаёміцца на http://prajdzisvet.org*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (96) | 25 ліпеня 2014 | № 29 (398) Новы час

# Вячаслаў Адамчык: Лісты да жонкі



**Гэтыя лісты Вячаслава Адамчыка да жонкі Ніны Глобус і малога сына Валодзі пісаліся ў Маскве, дзе беларускі пісьменнік у той час вучыўся на двухгадовых Вышэйшых курсах Літаратурнага інстытута. Цяпер, па адыходзе абодвух у іншы свет, эпістальярныя радкі ўспрымаюцца чуллівай сямейнай аповесцю.**



***

Мае любенькія, як жывы-здаровы?

Не засумавалі па мне. Я па вас — вельмі. Але сёння пачуў навіну, што праз тыдзень буду дома. Прыеду... на 10 дзён. Радуйцеся.

Тут адзінота. У дадатак, пагода гнілая і шэрая як сум: марасіць дождж, на вуліцах гразі па вушы. У такую пагоду я ж, як вядома, не хадок. А калі высунуўся на двор, трэба ўжо чысціцца.

Але Маскву я крыху агледзеў. Быў на Чырвонай плошчы, у ГУМе. Дома раскажу. Шукаў Сандзю — не знайшоў. Затое мае былыя аднакурснікі, што вучацца тут у Вышэйшай партыйнае школе, адшукалі мяне. Праўда, выпадкова. Быў у іх. Скажу шчыра: выкурыў адну цыгарэтку. Усяго адну. І болей не куру. Чэснае слова. І гарэлку не п'ю. Учора ўзяў толькі чарачку. Гэта ўчора у Вышэйшай школе быў вечар. Такая, як даўней пісалі, вечарына беларусаў. Імпрэза. А як вы там трымаецеся? Можа, узялі каго на кватэру? Як жа ў вас выходзіць з садам і работаю? Ці рамантавалі нам кватэру? Ці ёсць у вас грошы?

Дарэчы, я напісаў рэцэнзію і адаслаў Шкрабу. Гэта тую — на Васілька.

Праслухаў першыя лекцыі. Нават Молеву, якой Караткевіч прысвячаў бадай што кожны свой верш. Уражанне пакуль што — няпэўнае. Зарубежная і руская літаратура чытаюцца неяк па-школьнаму.

Але добра, мае даражэнькія, мне пара спаць. Бачыце — перад сном я заўсёды вас успамінаю.

Валодзеў каменьчык я не згубіў. Ён у мяне ў чамадане.

Які падарунак вам тут купіць.

25 атрымаю грошы. Дарэчы, як там з даведкаю?

Усяго добрага. Папа Слава.

Абдымаю вас і цалую.

**20.X.63**

***

Добры вечар!

Хоць, дарэчы, вечар не такі ўжо і добры: на дварэ па вушы гразі, сёння цэлы дзень снег з дажджом. І халадэча страшэнная. Пачынаю нават думаць пра споднія порткі.

У пакоі, праўда, цёпла, хоць і не вельмі. Крышку холадна ад смутку і адзіноты. Але будзем трымацца... як той казаў.

Сёння цэлы дзень быў заняты гаспадаркаю. Купіў — пакуль купіў, дык колькі аб'ездзіў — шклянку, лыжку, шчотку. Так што прыжываюся...

Заўтра ўжо лекцыі. З 10 раніцы. Я нават перапісаў расклад і набыў сшыткі.

Вось што ў нас маюцца чытаць: палітэканомію, рускую (па выбару) мову, стылістыку, зарубежную літаратуру, эстэтыку, дзіямат, мастацтва, тэатр, тэорыю літаратуры, рускую літаратуру XIX стаг., спецкурсы па Пушкіну і Талстому, і яшчэ ў дадатак творчыя семінары.

Так што хопіць. У снежні экзамены і залікі. На студзень і люты — дадому. Вось і ўсё.

Стыпендыя кожны месяц — 25. Адзін раз, як і ты, Ніна, гаварыла, на рукі памерам 129 рублёў. Дарэчы, стыпендыю мне залічылі з 14. Хоць загада яшчэ не бачыў.

Вось і ўсё. Але перш, чым паставіць кропку, скажу, хоць і вам захочацца, што ем белыя булкі. Крупы — не бачыў. Астатняе ўсё ёсць.

Аставайцеся жывы здаровы.

Яшчэ ўспомніў — ці займаецеся фіззарадкай. Што чуваць у вас? Пішыце. Што купіць? Што на (незарборліва)?

Абдымаю і цалую.

Тата Слава.

**26.X.63**
**Масква**

***

Дзень добры, мае любыя і даражэнькія!

У нядзелю (гэта значыць трэцяга) буду дома. Ранічкаю. Навалюся на вас сонных і цёпленькіх. І з сённяшняга (ды дзе з сённяшняга!) дня пачынаю скакаць ад радасці, што нарэшце такі, — а разлука, здаецца, цягнулася не два тыдні, а цэлы год, — убачу вас. Вось ужо і так уяўляю, як буду прыціскаць вас да грудзей, цалаваць, абдымаць, і мы будзем усе ўтраіх разам, блізенька...

Вось як, мае даражэнькія.

А ці радуецеся вы?

Буду дома цэлых дзевяць дзён. Але пачынаю наракаць і бедаваць нават ужо цяпер, што гэта занадта мала.

Скарэй-скарэй гэтая субота!..

Бяда толькі, што я не зрабіў тое-сёе. Не назапасіўся батонамі (купляць буду пазней, бо счарствеюць), не набыў білет (пацікаўлюся ім заўтра) і для вас не падрыхтаваў падарункі. Дарэчы, для Валодзі купіў акварыум з двума чырвоненькімі рыбкамі. Рыбкі, як і ўсе кітайскія рыбкі, — чырвоненькія, толькі нежывыя. Акварыум, як і кожны акварыум, з вадою, толькі можна насіць яго ў кішэні — маленькі.

Вось што я хацеў вам напісаць.

А цяпер жменьку іншых маскоўскіх навін.

Знайшоў Сандзю. Знайшоў сам; адрас ад Славы прыйшоў пазней. Быў у яго, ён — у мяне.

У Маскве чэргі за ўсім, нават за тортам, ды яшчэ якія. Наогул, Масква дзіўны і для мяне дваякі горад: па-руску вялікі, дзе-нідзе драўляны, нават з пеўнямі, з беднымі людзьмі, з клубнічнікамі, з торбачнікамі, з п'янымі каля лікёра-гарэлачных аддзелаў у магазінах (дарэчы, і маладзенькія дзяўчаткі стаяць, хістаючыся і заплюшчыўшы вочы, толькі не ад сораму, вядома) і сучасны еўрапейскі з шкла і сталі, светлы і разадзеты па апошняй модзе, на шпілечках і далікатны.

Крэмль — гэта нешта даўняе, падфарбаванае. Пачынае падабацца неяк не адразу. Пачынаеш спачатку дзівіцца, чаму Плошча няроўная, чаму ёлачкі каля Маўзалея марныя і чаму на царкве Васілія Блажэннага намаляваны вазоны — так па-сялянску проста і прымітыўна, так, як гэта малявалі некалі на сценах і печах. У архітэктуры старых будынкаў многа ўсходняга. Гэта ўжо не падабаецца. І тады, успомніўшы тыя вазоны, думаем пра самабытнасць рускага мастацтва. І разам з тым пра рускую «жестокость», калі бачым «лобное месца» і тую вежу, з якое цар глядзеў, як людзям адсякалі галовы, пазнейшы, вядома, не рабіў нават і гэтага — занадта многім пачалі адсякаць галовы.

Мяне, спадзяюся, тут памілуюць, прыеду да вас жывы і здаровы.

Бачыў нарэшце і метро. Падвал — светлы, абліцаваны ў мармур, распісаны рознымі ўзорамі. Гэта станцыі. Электрычка ідзе праз такі цёмны тунэль (падвал), праз які мы ехалі на Каўказе. Прыблізна, вядома.

Хопіць вам навін? Не?

Астатнія раскажу, як прыеду.

Мільён вам бусек.

Дарэчы, ці не пускаеце вы там паціхеньку дымок? Я не куру — слова гонару.

Ваш тата Чэсік.

**28.X.63**
**Масква**

***

Добры дзень, любыя!

Выслаў вам грошы. 50 рублёў. Атрымаеце перавод, пэўна, разам з гэтым пісьмом, бо адпраўляю ўсё ў адзін час.

Што ты, Ніначка, пішаш наконт голаду і холаду. Няўжо ў Мінску няма цукру і масла? Можа, вам прыслаць? Недзе ў пачатку снежня маецца да мяне прыехаць Бураўкін, які дарма ўсё ніяк не надрукуе рэцэнзію. Нешта там хоча рэдактар скараціць. Дык вось усё цягнулі, каб атрымаць мой дазвол. Нарэшце, будуць друкаваць. Хай яе з гэтаю рэцэнзіяю. Дык вось, напішы, што тут купіць. Перадам праз Гену Бураўкіна.

Навін у мяне цікавых пакуль што няма. Жыву, адзін сумую, адзін радуюся. Успамінаю цябе і Валодзю. Абоіх вас люблю. Усё, што ёсць на свеце для мяне светлае і дарагое — гэта вы. Дык не гаруйце. Няхай над вамі заўсёды будзе яснае сонца. Няхай вас асвятляюць і мае надзеі-радасці.

Усяго добрага.

Слава.

25.XI.63

Масква

Шапку атрымаў. Нашу. Дзякую шчыра.

**27.XI.63**

Мая галубка, ты пытаеш, ці люблю я цябе. Гэтаксама, як і раней любіў. Мне здаецца, што лепей, неяк цяжэй, харашэй, асабліва цяпер на адзіноце, у гэтым суме, у далечы. Хоць любіў цябе заўсёды. І заўсёды радаваўся сам сабе, што ты ў мяне гэтакая ласкавая, шчырая, сардэчная, мая самая прыгожая. Калі іду па Маскве, калі ўбачу нешта прыгожае на жанчыне, мне здаецца, мне хочацца, каб гэта ўсё было на табе. Мне здаецца, што ты за яе выглядала б куды прыгажэйшай, куды мілейшай. Я нават у думках сваіх патаемных і глыбокіх не дапускаю, што нехта ёсць за цябе прыгажэйшы. Нешта шчырае прымушае мяне думаць так, хоць ёсць на свеце і прыгожыя дзяўчаты, і яны падабаюцца мне, але ў мяне з табою ёсць нешта шчыра-блізкае, нешта добра праемнае, і твой голас, і твае рукі, і твае вусны. Я нават помню іх цяпло, іх ласкавы дотык — што астатнія жанчыны мне здаюцца халодна чужымі, хоць, можа, добрымі і прыгожымі.

Дарую, Ніначка, за гэтыя агульныя словы, але ж я хачу вельмі ласкава, шчыра сказаць табе, што я люблю цябе, вельмі шчыра, хораша, цябе адзіную мілую, самую-самую любімую.

Вось як! Цалую цябе ў вочкі, у носік, у лобік, у жывоцік, у каленца, у пальчык, кусаю за вушка, за бародку, за п...ку. Кусаюся нямоцна з ласкі, з любасці. Ну, верыш, міленькая мая, Ніначка-галубка, што я цябе люблю.

Я веру ў тое, што ты верыш.

Ніначка, дадому прыеду ў панядзелак 30 снежня. Якім доўгім будзе гэты месяц. Як хочацца быць разам з табою, блізенька-блізенька.

Аставайся жыва-здарова.

Яшчэ раз цалую цябе і Валодзьку нашага. Вітаю вас са снегам, з першым здаровым марозікам.

Слава, твой на векі вечныя.

***Ліст Ніны Глобус да Чэся Адамчыка***

***

**6.XII.63.**
**г. Мінск.**

Славачка, мой галубок! Ты атрымаў маё злое пісьмо? Не злуй, ладна! Больш не буду злючкай. Трэба было мне пачакаць, супакоіцца, а потым пісаць пісьмо. А я напісала пад дрэнны настрой.

Ты пішы нам. Мы вельмі, вельмі рады кожнаму тваайму слову, кожнай вестачцы ад цябе.

9-га да нас прыехала мама (баба Ядзя) праведаць нас. Ёй вельмі сумна. Антоша пайшоў служыць. Хата зусім апусцела. Апусцела яшчэ і таму, што цёця Броня атрымала аднапакаёвую кватэру і выбралася. Жылі яны з мамай вельмі дружна. Разыходзяцца плачуць. Абедзвьум сумна.

Мама атрымала бацінкі і пісьмо. За ўсё табе вельмі ўдзячны.

Ты пытаеш пра здароўе Валодзі. Яшчэ кашляе. У сад хodзі-

ць. Учора мы з ім хадзілі катацца на горку ў парку Чалюскінцаў з санкамі. Каталіся доўга. Не хацеў ісці дадому. Яму было горача, а ў мяне вельмі змерзлі ногі. Чуць адагрэла дома.

Ты пішаш, што ў апавяданне пра радасць нагнаў многа суму. Без суму не бывае радасці. Каб мы не ведалі суму, то як маглі б мы зведаць радасць.

Слава, а чаму ты ходзіш працаваць у бібліятэку? Што ў цябе дома няма ўмоў? Што табе мяшае?

Славачка, абавязкова прывязі Валодзю мандарынак і цікавых цукерак на ёлку. Добра?

Ты пытаеш, што купіць мне? Што купіш, тое будзе добра. Мне ўсё патрэбна. Абута я хаджу ў старэнькія гумовыя боты, нашу на работу адну, на каленях працёртую, спадніцу, або такое ж плацце і хаджу з той сумкай, з якой хадзіла на пляж. Проста сорамна з шубай насіць такую сумку. Ага, разбедавалася! Але за тое я за халадзільнік ужо разлічылася. Там крышку яшчэ павінна, але мама сказала, каб я больш не ўспамінала. Вось за кватэру не плаціла, толькі за сад. Табе вышлю 12-га рублей 10, добра? Ці мала? Гэта за бацінкі Вовіны.

Як святкавалі Сандзін дзень нараджэння?

Прывітанне табе ад Стральцовых, Раманавых, Пташнікава. Будзь здароў. Цалуем з Валодзем цябе, гладзім па галоўцы.

Твая сям'я.

***

Ніначка,

дзякую за пісьмы: і за злое, і за добрае. На цябе не крыўдую і не злую. Бо я, калі пачынаю злаваць, дык сапсую настрой і сабе, і другім, ды яшчэ надоўга. Мне трэба вучыцца быць добрым, гаварыць людзям прыязныя слова, — я ж гэта не ўмею, я ўмею адмаўляць, ганіць, зневажаць. Але мусіць, не толькі… Няўжо я табе, Ніначка, не сказаў добрае, ласкавае слова?.. Сказаў. Праўда. А калі не гаварыў падчас, дык думаў, што ты ў мяне самая прыгожая і разумная. І ведаю, чаму ў цябе кепскі настрой: работа, клопат дома, Валодзька нездаровы, я — недзе, з грашыма гэтая бяда. Раздумаешся пра ўсё — вось і засумуеш, заззлуеш. Але будзе ў нас і добрая хвіліна — і была яна, — і вясёлая. Свет не такі ўжо кепскі, як мы іншы раз яго малюем. Гэта праўда.

Ніначка, прыеду — уладзім усё. Пагаворым, памяркуем. У студзені з грашыма ў нас з табою стане лепш. І думаю я вось пра што… Калі на кінастудыі будзе месца — пайду туды на работу. Пра гэта мы яшчэ пагаворым разам. Што скажуць другія — чхаць.

27 або 28 буду дома. З 23 снежня да 26 здаём залікі. Цяпер у нас семінары, лекцыі. Вось такое і жыццё. Апавяданне — яшчэ ў дарозе. Напісаў цэлы сшытак, і яшчэ адзін будзе. Потым скарачу, калі што лішняе ёсць. Спісваю ўсё з цябе, бачыш, праз 700 кіламетраў. Не карыстаюся натурай, як мастакі старажытнай Грэцыі і Рыма. І ў іх некалі выйшла Венера Мілоская.

Што выйдзе ў мяне — не ведаю. Дэталі будзем удакладняць дома і звяраць — якая ў мяне памяць.

Ну, аставайся жыва-здарова. Не гаруй. Цалую цябе і сынка Валодзьку.

Беражыце здароўе. Вось што.

Слава

**9.XII.63**

***

Ніначка,

паслухаўся цябе — мыюся. А пакуль вада грэецца — пішу. Дарэчы, па радыё чую нешта сваё на чужыне, і сваё кепскае — добрае: «Ой, шумяць лясы зялёныя».

Я нават заспяваў — вось які я нацыяналіст. У Маскве я не чуў беларускага слова. А ўсё ж сумую без яго.

Сёння бачыўся з Кулакоўскім, але ён гаварыў са мною і з Адамовічам чамусці па-руску. Ва ўсякім выпадку, стараўся. Можа, дома ў Мінску я гэтага і не заўважыў бы. Дома нешта многага не заўважаеш…

Ніначка, а чаго гэта ты з нейкім, як кажуць, скептысам пішаш: «…можа, я нікому радасці не прыношу». А я з сынам што для цябе? Я пакрыўдзіўся. І Валодзьку скажу, што ты пра яго думаеш. Як гэта так, мая дурненькая? Ды ты — цэлая вялікая радасць для нас. Я ўсё гавару табе пра гэта, гавару…

Не, вось што я зраблю на добры лад. Вазьму спачатку рэмень — адлуплю, проста па голенькай п…, а потым толькі пашкадую і суцешу. А то шкадуй цябе, гладзь па галоўцы, а ты…

Адным словам — заслужыла бярозавае кашы. І пакаштуеш, як прыеду дадому.

А цяпер вось што зрабі. Папрасі Пташнікава, каб ён узяў у Сачанкі мой зборнік — некалі Барыс казаў, што ён мае лішкі — і прышлі мне. Заадно прышлі і 12 нумар «Маладосці» (1962), які я аддаў Папову, дарэчы, і зборнік яму аддаў. Гэта трэба ўсё для Адамовіча — ён аддасць перакладчыцы.

Добра? І не крывіся, а выкупляй сваю віну.

Ты зацята маўчала, я злаваў. Што ж, думаў і думаю я: усё будзе добра, калі ты будзеш шчыра і аддана кахаць мяне — я дарую ўсё, мне больш нічога не трэба ад цябе, мая любая. Я нікога не ведаў ні да цябе, ні пасля цябе. І які дзіўны, рады быў я, спазнаўшы першую блізкую радасць з табою. Я гэта помню, пра гэта можна толькі напісаць у апавяданні, калі яно ўдасца.

І яшчэ не ўсё. Перагледзь мае паперы. Знайдзі адрас Медвядоўскага. Паглядзі там апавяданні, якія перадрукаваны — «Міг бліскавіцы», «Песня» (поўнасцю), «Па часе», «Што скажа яно», «Прыгаршчы жывое вады» — усё, ўшто знойдзеш, і памяркуй, як усё гэта можна пераслаць мне. Добра?

Іду мыць-абмываць сябе. Выбачай, што не паспеў пагаварыць з табою.

І не чмыхай, што — бедненькая, забытая, закінутая, што ніхто не шкадуе. Усё гэта выдумала сама. Усё гэта няпраўда. Няўжо ў нас з табою не было радасці? Як гэта так? Ніначка… я разводжу рукамі. Не веру. Была, ёсць, будзе.

Дарэчы, сённяшняе тваё пісьмо прачытаў Адамовіч. Смешна, чытае чужое пісьмо і думае, што сваё. Дзівак чалавек. Нашы прозвішчы тут блытаюць, і маё пісьмо прынеслі яму. Я тут рагатаў з яго, а ён чырванеў, саромеўся і прасіў прабачэння. Ён чамусці пачаў чытаць з канца. Потым мне расказваў. Нябось прывык за два гады да пацалункаў. А Кулакоўскі дык зусім тут смешны — пазычыў штаны, каб канты не памнуць у касцюмных. «Братачка, як жа гэта перад жанчынамі ў портках з памятымі кантамі?»

Слова пра свой раман скажа (ён тут хоча выдаць «Растанемся не надоўга»), а потым «От, каб дзе ўдаву… А то ж мне і пераначаваць няма дзе».

Шкада, што няма Макаёнка. Ён бы тут разыграў бы яго, як некалі ў рэстаране. Словам адным, «смешон старик».

Але хопіць гэтага смеху.

Цалую цябе ў носік. І ты ім вельмі не круці.

Твой шчаслівы Слава.

**10.XII.63**

***

Мае любыя!

У мяне тут клопат — ці не мерзнеце. У Маскве марозікі. Вось і думаю, як жа вас нагрэць. Пасылаю вам сваё цяпло і гэтыя кветкі (Размова ідзе пра кветкі на паштоўцы. — А.Г.), як сімвал, што прыйдзе скора вясна, што будзем разам. Скора, мае любыя. Сёння не маю часу многа напісаць. Позна. Увесь вечар забраў Кулакоўскі. Ёсць навіны, пра якія ты, Ніначка, не пішаш, пэўна, не ведаеш.

Заўтра — будзе вам вялікае пісьмо, а сёння — цалую вас, абдымаю і іду спаць.

Слава

**11.XII.63**

***

Дзень добры, дарагуська!

Што робіш там? Пра што думаеш? Ці не забылася, што ёсць недзе на свеце я. Ці не змерзла? Мароз усё большае. Холадна ў кватэры? Грэйце ваду. Глядзіце за радыятарамі. Не прастуджвайцеся. Вось якія ўстаноўкі. А чым жа я болей вам памагу, любенькія? Словам, надзеяй!

Што чуваць у мяне? Чакаем сесіі. Ды можа не так сесіі, як тых апошніх дзён, калі, пахадзіўшы па Маскве і што-небудзь купіўшы, можна будзе спакойна ехаць дадому. Засталося два тыдні.

Кулакоўскі пабыў тут пару дзён, і то кажа, што насумаваўся. Учора прасядзелі з ім цэлы вечар. Скардзіўся на «Полымя». І праўда, што за людзі ў рэдакцыі, не ўзялі на маё месца Кулакоўскага — ён прасіўся, і не адзін раз — а гэтую сіплую старушку Клышко, што толькі смярдзіць, як нешта гнілое. Смешна — адмовіць пісьменніку, ды яшчэ якому, а ўзяць нешта калялітаратурнае, ванючае.

У «Полымі», як я адчуваю, нелады, свара, нянавісць. Гэта было — цяпер пабольшала. І злосць і хітрасць.

На маё пісьмо хлопцы нават не адпісалі. Вядома, Пташнікаў там надуты, маўклівы. Ты чула, што яго «дело» разбіралі на партбюро. Дзяўчына, ці не тая рабенькая зязюля, паскардзілася ў Саюз, што Пташнікаў прымусіў яе зрабіць аборт і выгнаў. Наогул — гэтыя весткі надта гадкія. Чыгрынава хочуць там выжыць. «Полымя» — гнілое балота. Адзін перад адным хітруюць. Я ўяўляю, як цяпер Сачанка, нават пабойваецца загаварыць з Пташнікавым, каб не падумалі што-небудзь пра яго, каб не выгналі. Як ён цяпер кленчыць перад Скрыганом і лашчыцца да Клышко. Фу!

Цяпер жа Кулакоўскаму прапануюць месца ў «Полымі». Сам Танк. Хочуць скалупнуць або Пташнікава, або Чыгрынава. Але Кулакоўскі ўсё ж чалавек. Ён кажа: «Прасіўся, дакляравалі, а ўзялі Клышко, а вось цяпер заграбаць жар не пайду».

Дык вось што робіцца ў маладой літаратуры.

Дарэчы, Клышко трымаецца яшчэ ў кінастудыі. Вось дзеяч! На ўсе рукі майстар. І плаваць, і лётаць, як гусак. Праўда, Адамовічу сказалі, каб ішоў на гэтае месца. Ён адмовіўся. Ёсць выпадак пагаварыць з ім на гэты конт.

Адамовічу прапанавалі кафедру літаратуры народаў СССР ва ўніверсітэце Ламаносава. Нашто яму гэтая кінастудыя.

Ніначка, ці знайшла мае кнігі? Ці прышлеш мне? Я ведаю, што табе не хочацца, але трэба. Адамовіч, калі захоча, можа дапамагчы. Ён добра памог Быкаву выйсці на ўсесаюзную арэну, а з гэтай арэны Быкаў і цісне цяпер на беларускія падмосткі. Вось як. А мне не лішнім было надрукавацца ў Маскве, і табе, Ніначка, было б выгадна…

Ну, аставайся здаровенька. Цалую цябе, маю залаценькую, у шэрыя вочкі, у шыйку, у жывоцік, у каленца, у пальчык.

І яшчэ — кусаюся за п…

Пішы, як здаровейка ў Валодзі. Кашляе? Пасылаю яму марку і цалую яго. Малюнак яго — ваза (абстракцыянізм) вісіць у мяне на сцяне.

Ваш папа Слава

**12.XII.63**

***

Нінуська, мая добранькая.

Ці не забылася, што на гэтым свеце гарые і яшчэ ўсё шморгае носам — бо прастудзіўся — больш Адамчык. Не? Глядзі, добранькая… Ён жа тут усё ўспамінае цябе і хочацца яму пацалаваць цябе ў пяшчотную шчочку, у шэрыя вочкі. І думае ён, як ты жыва-здарова, як гадуеш сынка Валодзьку.

Вось як.

Ніначка, дома буду, пэўна, 28. 26 і 27 — аддаю на пакупкі, а можа, і адзін дзень. Бо 26 маюцца яшчэ быць заняткі, але на іх, пэўна, не пойдзем; хто ходзіць на лекцыі пасля залікаў.

Сёння ад Рэні атрымаў пісьмо. Піша, што Антон служыць у Карэліі, у глухамані, у стройбаце. Яму не пашанцавала, яго абманулі. Яны проста круцілі, каб зацягнуць яго ў войска. Зрок жа ў яго слабы, а ён, дзівак, мусіць, саромеецца прызнавацца. Я ведаю гэтую медкамісію — з нашага мінскага райваенкамата паслалі служыць хлопца з прабітаю галавою. Антон, вядома, гэта зусім другое.

Ну, усяго добрага, мая галубка. Навіны адны — рыхтуемся з Мусой да залікаў. Праштудзіравалі рус. літ., застаўся яшчэ Талстой, а часу мала, як і заўсёды для шкаляра.

Цалую цябе яшчэ разок,
І Валодзьку цалую.
Твой Слава.

**22.XII.63>**

***

Ніначка, любая,

дзівак ты вялікі — дзякую табе за шчырасць.

Праўда, мы старэем. Але чаго плакаць. А што быў «только семейный долг» — свіст, бо нічога ты, аказваецца, не бачыла. І на пошце трэба было прыглядзецца: да таго акенца, дзе можна атрымаць «до востребования», не падыходзіў, здаецца, з 58 года, ды такою рэчкаю пісьмы цяклі да мяне толькі твае (са Скідзеля).

Адкуль гэтая падазронасць? Дзівачка ты мая, і чаго ты ўцякала. Чаму не клікала мяне дадому. Я пэўна быў бы рады, а можа, і злы, падумаўшы пра тое самае, што і ты.

Ніначка, ты мая адзіная — нашто так, так абыякава нават груба закрэсліваць усё, дзівачка.

Што ж я ўтойваў і хаваў ад цябе? Адное: што ў тваім сэрцы быў нехта другі, можа не ў сэрцы, можа ў памяці. Ты зацята маўчала, я злаваў. Што ж, думаў і думаю я: усё будзе добра, калі ты будзеш шчыра і аддана кахаць мяне — я дарую ўсё, мне больш нічога не трэба ад цябе, мая любая. Я нікога не ведаў ні да цябе, ні пасля цябе. І які дзіўны, рады быў я, спазнаўшы першую блізкую радасць з табою. Я гэта помню, пра гэта можна толькі напісаць у апавяданні, калі яно ўдасца.

Дарэчы, і гэта ўсё я не таіў ад цябе.

А цяпер пра «юбку». Хіба я шкадаваў і шкадую? Вось зарабіць, вядома, цяжэй, чым шкадаваць (грошы маю на ўвазе)

Яшчэ раз — дзівачкаю ты стала без мяне і плаксіваю, і скептыкам, але ўсё ж тою самаю добраю, прыгожаю, ласкаваю, і цёпленькаю, і маладою (вось што ты сталееш, я не заўважаю). А падазронаю стала напэўна без мяне за гэты месяц. І я цябе люблю, і дазволь гаварыць тое, што ў мяне на сэрцы. Бо і праўда, некалі ачарствею, састарэю, тады не скажу.

І біць цябе трэба і любіць трэба… І што мне рабіць з табою?

Але каб вось цяпер зайшла ў пакой — найперш абняў бы ды моцна-моцна даў бы буську.

Ну, заставайся здаровенька і глядзі Валодзьку, і шкадуй яго, і буську дай. Скажы, што прыслаў папа. Які ён ужо вялікі разумнік, наш сынок.

Вось я «и пофилософствовал». Дарэчы, залік па філасофіі я здаваў сягоння. Засталося яшчэ два — руская мова і стылістыка. Заўтра маюся іх здаваць, паслязаўтра прымушаюць сядзець на лекцыях, проста просяць. 28 — я дома. Ну, давай, галубка мая, памірымся — цалую цябе ў шэрыя вочкі (і які тут Чэхаў?), у цёпленькія і добрыя губкі, «што рэчуть непраўду», і ў шыйку, і ў жывоцік, і ў каленца, і ў пальчык —

твой Слава.

**24.XII.63.**

**Іншыя лісты Вячаслава і Ніны Адамчыкаў можна прачытаць у жнівеньскім нумары часопіса «Дзеяслоў».**

**Публікацыя Адама Глобуса**

# Берасцю — ад Бяласіна

**Яўген Бяласін даўно абяцаў выдаць расследаванні пра падземныя хады Берасця. А яшчэ раней — пераклад эсэ Гайнрыха Гайнэ «Пра Польшчу». Аўтар выканаў абодва абяцанні.**

Пачаць, відаць, трэба ўсё ж такі з Гайнэ, і зусім не таму, што такі парадак аповеду падказала колішняя прэзентацыя выданняў. Падалося, што гэтая кніга больш дарагая аўтару. Не важна, што выкананая калісьці на замову… Не важна, што не аўтарская, а толькі перакладзеная. Істотна, што пераклад быў зроблены са старадрука, выкананага яшчэ ў XIX-м стагоддзі — сямейнай рэліквіі, што засталася ад бабкі-немкі. То-бок, гэтая праца мусіла быць для спадара Яўгена энергетычнай, бо не толькі адлюстроўвала думкі 25-гадовага паэта, якому наканавана было стаць ля вытокаў нямецкай літаратуры, але і ажыўляла сямейную гісторыю.

Аднак людзям, далёкім ад радаводу Бяласіных, у першую чаргу краязнаўцам, эсэ «Пра Польшчу» таксама будзе карысным. Як пазначана ў кнізе, Гайнрых у кампаніі са сваім сябрам аб’ездзіў не толькі прускую частку Рэчы Паспалітай, падзеленай між трыма краінамі, але і частку «рускай». Аўтар нататак не падзяляе палякаў і ліцвінаў, таму ёсць вялікая верагоднасць, што ў кнізе апісваюцца таксама людзі Беласточчыны, Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны (хоць нейкіх істотных зачэпак у выглядзе геаграфічных назваў у тэксце няма).

Пра другую кнігу Яўгена Бяласіна чытачы Берасцейшчыны ўжо ведаюць па састаўных частках, што друкаваліся на старонках газеты«Брестский курьер». Праўда, часткамі кнігі «Падзямеллі Берасця» гэтыя артыкулы сталі пазней, бо аўтар не падазраваў, што тэма зацягне яго так глыбока. А сталася так у многім дзякуючы такім жа, як ён, энтузіястам, якія знаходзіліся пасля кожнай публікацыі і дзяліліся новай інфармацыяй ці ўдакладнялі папярэднюю. Таму хутка Яўген пачаў называць цыкл артыкулаў пра падзямеллі народным праектам, і гэтая перыфраза перанеслася таксама на старонкі кнігі. Двое з такіх суаўтараў — кіраўнік дыгерскай групы Дзмітрый Барадачэнкаў і Міхаіл Бяспуда.

Увогуле, кніга пра берасцейскія падзямеллі і размовы вакол яе прымушаюць меркаваць, што тэма гэтая цікавая шмат каму. Што сведчыць пра высокі турыстычны патэнцыял такіх аб’ектаў, які, чамусьці, дагэтуль не задзейнічаны.

**Іна Хоміч, bk-brest.by**

# «Вяртанне нацыяналіста»

**Выдаць свайго кшталту выбранае з даследаванняў, якія пісаліся цягам 25 гадоў, Аляксандр Лукашук вырашыў дзякуючы архівісту Віталю Скалабану, які запэўніў яго, што яны і праз час не страцілі актуальнасці. Хаця некаторыя факты і звесткі перад новым выданнем аўтару ўсё ж давялося дадаць і ўдакладніць. Кніга выйшла накладам 200 асобнікаў у выдавецтве «Галіяфы».**




У выданне ўвайшлі творы, якія дакументальна ўзнаўляюць розныя перыяды беларускай рэчаіснасці. Напрыклад, кніга «Прыгоды АРА ў Беларусі» прысвечаная 1920-м гадам, калі на Беларусі дзейнічала Амерыканская адміністрацыя дапамогі — дабрачынная падтрымка жыхароў краінаў, пацярпелых у Першай сусветнай вайне. Сярод тых, хто атрымліваў амерыканскую дапамогу, былі і прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі: Я. Купала, У. Ігнатоўскі, Я. Колас, З. Бядуля ды іншыя.

Жахлівыя падзеі рэпрэсій 30-х гадоў апісваюцца ў кнізе «Здзек», якая выходзіла ў 1988 годзе ў Бібліятэцы часопіса «Маладосць» з прадмовай Васіля Быкава. У ёй упершыню з забыцця вярталася праўда пра лёсы многіх людзей, у тым ліку такіх, як першы сакратар ЦК КПБ Васіль Шаранговіч, які прабыў на пасадзе толькі чатыры месяцы, Галадзеда, Чарвякова.

Кніга «За кіпучай чэкісцкай работай» названая паводле радка з ліста аднаго чэкіста, які ў канцы 1930-х, як і многія з іх, сядзеў у мінскай турме. Праца прысвечаная ўнутранаму жыццю НКВД.

За п’есу «Філістовіч. Вяртанне нацыяналіста» аўтар некалі атрымаў з рук Васіля Быкава ўзнагароду імя Францішка Багушэвіча. Фігура нацыяналіста Янкі Філістовіча, які вярнуўся ў Беларусь на парашуце, доўгія гады выклікала спрэчкі.

Апошняя, пятая, кніга зборніка, «След матылька. Освальд у Мінску» прысвечаная Мінску 1960-х і Лі Харві Освальду.

**С. А.**

# Кветкі замест вершаў




*Для Аксаны*

Прастора здольная быць ворагам і прастора можа быць сябрам, памагатаем, калі ўдаецца абмежаваць яе і напоўніць звыклымі, тваімі рэчамі, і адсекчы чужое, і перанесці тое-не-сваё на новую прастору, зноў абмежаваць яе і гэткім чынам засвоіць, ствараючы новыя і новыя прасторы, дзе ўжо жыць не нам, а нашым словам.

І вось перада мною ўжо аркушы паперы, іхняя паверхня адлучаная яшчэ больш шэрым колерам сталешніцы. За акном яшчэ ноч, і я ведаю, што перад шэраю гадзінаю я магу апынуцца ўсё перад такімі ж амаль шэрымі аркушыкамі на шэрай сталешніцы, і гэты страх ці не большы за страх пачуцця таго, якімі словамі я запоўню шэрую паверхню.

Роўнае з падстукам гудзенне вентылятара супакойвае мяне, я сачу за дымам, гэта знак таго, што мая цыгарэта неўзабаве стане попелам, і мне ўжо не падаюцца такімі пакутлівымі думкі пра чужое жыццё, падгледжанае, нахай і з дазволу, у чужых словах. Вось зараз заспявае імбрык, і я падыду да вакна з адхінутымі фіранкамі — «адной перашкодай меней»: цікава, ці не дзеля таго, каб адляцець, падобна матылю, і гэтая думка змушае сэрца тахкаць часцей, альбо дзеля таго, каб сабраць словы, якія і за паўгады быў няздольны сабраць.

Але і гэтае акно — чужое, як і тое — там, з непрацёртым пылам вечнасці на падваконні. А на ім ласіцы — як узоры лёсу на далоні, адбітак якое вязе тралейбус з пераважна мною лічбай (і мною таксама), і пырскі ад вясла. Некалі кожны з нас даведаецца пра Харонавае ўменне веславаць. Але пакуль перадзім’е. Акно. Кактусы. Альвас. (Мне здаецца, што мае думкі горкія. Дым. Альвас прыемнейшы на смак.) Было б смешна пабачыць цяпер бусла, які крочыць плошчаю і заклікае жабу да працы; а ці не стаўся наш сцяг небам, пад якім мы дазваляем жыць толькі нашым лепшым пачуццям? Чарговы кубак зялёнай гарбаты яшчэ на гадзіну дазволіць адсунуць сон, і думка здолее пайсці за паэтам у краіну паэта; і нават калі гэтая краіна — калюжына альбо воблака, то варта прыгледзецца, хоць можна і не пабачыць, што калюжына паўтарыла форму воблака, а воблака паўтарыла форму калюжыны, і, як ні дзіўна, у іх ёсць імя. Гэтае імя прамаўляецца па-сапраўднаму толькі з дапамогаю сакрэтнай мовы, якую разумеюць (павінныя разумець!) тыя, хто перакананыя ў шчырасці-рэальнасці па-абодва-бакі акна. Шкло мкнецца да празрыстасці, але змушана паўтараць (адбіваць?) цемру па той бок і ўсмоктваць святло па гэты. І цішыня мяне спакоіць, бо яе парушае толькі ціхае з падстукам гудзенне вентылятара. І я думаю пра тое, колькі разоў ува мне пераварочваліся словы, гуртаваліся, і ўрэшце іх выйсце сталася зусім не такім, як я планаваў яшчэ гадзінаў колькі таму. Я наўмысна не гляджу на гадзіннік. Ён маўчыць. Ён вывучыў мову маўчання. Гэта — красамоўства, бо нішто не можа маўчаць пасля таго, як Слова выбухнула быццём з небыцця, як сталі гучаць песні — без голасу і без слыху. Іх чуюць, бо ім акампануе душа, — адзіны інструмент, які будзе гучаць і пасля таго, як нас ужо не будзе. Гэтая думка магла б прынесці адчуванні тугі і непазбежнасці, але пакуль мне трэба запоўніць птушынымі слядамі паперу, і я маўчу, узіраючыся ў словы, і чытаю: «на зіму зачынена», і пачынаю не згаджацца з тым, што смерць сняжынак не будзе азначаць таго, што і я — жывы, бо я ўжо не памятаю той дзень, калі памру.

Здаецца, я пагубляў усе ніткі, і працэс размяшчэння прастораў выйшаў з-пад майго кантролю. Я ўсё задумваў зусім не так, і ўсё выходзіць зусім не так, як я задумаў.

***

Ці не мярцвім мы свае пачуцці, адліваючы іх у словы? Ці гэта наадварот: калі пачуцці памерлі, мы можам сказаць іх словамі? Падшыць, пранумараваць, праставіць ці не праставіць назвы, пасартаваць паводле відаў, напісаць на апошніх старонках: «Змест». Засушаны ліст не жывейшы за паперу. Але вось чыясь рука адгінае старонку, узіраюцца нечыя вочы і бачаць лініі, пражылкі, адценні колераў. І нахай ён усё гэта чытае НЕ ТАК, але мёртвае — ужо не мёртвае, і ссохлымі жылкамі бяжыць кроў (не хларафіл!), бо смерці няма, пакуль ёсць жыццё, хоць адна ягоная крупіначка, ну хоць водблеск памяці пра жыццё…

Чытаць чужыя словы, слухаць чужыя жыцці. У іншай краіне, на вуліцах былое велічы, дзе свая мова — цяпер чужая. Божа, чаго мы хочам?

Лепш не ведаць адказу, каб не палохацца чорных правалаў у памяці: высветленыя, яны будуць яшчэ чарнейшымі. Множыцца мая туга, і як добра, што сёння — не поўня, пад ейным павуціннем мне было б яшчэ цяжэй думаць пра імгненнасць жыцця і працяглась існавання, калі новыя і новыя пакаленні нясуць адзін і той жа боль, і як добра (так!) бывае, што нас не бывае ў некаторых снах, і тады можна спаць надалей, бо прачнуцца ад аднаго сну — гэта патрапіць у іншы…

…Неўзабаве зіма. Ужо зусім побач. Яшчэ нядаўна я лічыў дажджы, а потым забыў, колькі іх выліла восень. І я раптам падумаў, што ў мяне ледзьве не сталася звычкай знаходзіць астры. Букеты астраў — сузор’і. Я перабіраю ў памяці знаёмыя твары, спалучаю іх між сабой, дадаю да сябе ці сябе дадаю да іх… Як гэта тут названа? — Сулюддзі. Няхай і так.

***

Пражываючы чужыя словы, не пражывеш чужога жыцця. Чытаючы чужыя словы — чытаеш адно тое, што б напісаў ці не напісаў сам. Але назіранне толькі падаецца няўдзелам. Незаўважныя працэсы ўжо змянілі склад крыві. Зразумела, не кардынальна. Ды гэта і не патрэбна. За акном яшчэ не шэра, там яшчэ цёмна. Цемра ўтрымлівае ў сабе магчымасць новых абшараў, дзе яшчэ змесцяцца непражытыя жыцці, непрачытаныя словы і нязнойдзеныя кветкі…

***P.S.** Беручы ў рукі гэты гербарый, хай кожны знойдзе нешта для сябе: пёрка, след матыля, пырску, пялёстак язміну, астру ці ружу, ці зжоўклы пятнічны нумар, ці яшчэ што спадабаецца, і спакойна бярэ з сабой. Здаецца, гэта яшчэ дазволена.*

# Кніга ўспамінаў Мікалая Махнача

**У падрыхтоўцы кнігі бралі ўдзел сябры БГА «Ветэраны Адраджэння» Міхась Чарняўскі, Зміцер Санько, Юрась Грыбоўскі, Здзіслаў Сіцька і Яўгенія Чаплінская.**

«Кнігу ўжо даслалі Мікалаю Махначу ў Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе ён цяпер жыве, — распавяла жонка ўкладальніка кнігі Міхася Чарняўскага спадарыня Святлана. — У тэлефоннай размове ён сказаў, што задаволены і кніга яму спадабалася».

Выданнем займаўся галоўны рэдактар выдавецтва «Тэхналогія» Зміцер Санько. На вокладцы — здымак разбуранага манастыра Монтэ-Касіна (Італія), 1944 год. У кнізе 130 старонак.

Адзаду на вокладцы прыведзеныя словы Зміцера Санько: «Гэтая кніга сваім сюжэтам нагадвае авантурны раман. Беларускі хлопец з Валожына, мабілізаваны ў 1941 годзе на лесараспрацоўкі ў Карэлію, прайшоўшы шмат выпрабаванняў, трапляе па нейкім часе — праз сярэднюю Азію, Блізкі Усход, Афрыку і Апеніны — у Брытанію, а потым у Амерыку… Але гэта не мастацкая выдумка. Гэта праўдзівы жыццяпіс удзельніка Другой сусветнай вайны на заходнім тэатры ваенных дзеянняў. Бліскучая памяць аўтара ўзнаўляе мноства фактаў, імёнаў, лічбаў, трапных назіранняў. У дадатку да кнігі — не менш змястоўныя ўспаміны яго сястры Валянціны Махнач-Слабодчыкавай і выбраныя ліставанні».

**Настасся РОЎДА**

«ДЗЕЯСЛОЎ» №70

ЛеГАЛ

# Белым па чорным

**На самым зародку ліпеня, калі я ўпарта пішу чарговы агляд раскрыленага на маім пісьмовым стале часопіса сучаснай беларускай нацыянальнай літаратуры, нада мной з нервовым ровам лётаюць расейскія знішчальнікі. Кажуць, пакуль што рэпетыруюць...**

У мяне і ў аўтараў выдання, дарэчы, большы абсяг і перспектыва палёту, чым у гэтых СУ-34, так як «дух лунае, дзе хоча», а матэрыяльнае стварэнне, — дзе змусяць, як зможа і колькі здолее... Дабро і зло так спрадвек і суседнічаюць... у імя жыцця і смерці...

Аднак пакуль жывём, пішам гісторыю свайго лёсу, уласнага і людскога.

Нярэдка падступае ўнутранае перакананне, што нацыя і яе культура і літаратура паміраюць... І гэта вельмі цяжка аспрэчыць. Якімі аргументамі? Усё ж навідавоку: у блакітным небе рэактыўным дымам, як кажуць, «белым па чорным» напісана... Невыносна балюча... Барадулін, Дамашэвіч, Кудравец, Бураўкін...

Ды, дзякаваць Богу, нечакана тымі ж днямі твар у твар сутыкнуўся з Алесем Бяляцкім... Столькі фізічнай і духоўнай волі паўстала над маёй паніклай пад прэсам жыцця і вартай жалю істотай, што зрабілася сорамна перад таварышам па беларускай долі... Гэта змусіла яшчэ больш упарта шукаць сілу супраціву ўсяму цёмнаму, атачыўшаму мяне, у самім сабе. Знаходзіць і праяўляць яе. Дзеля веры і спасціжэння. Зразумела, праз паўсядзённую працу і творчае стаўленне да жыцця.

Нездарма і публікацыі ў чарговым «Дзеяслове» (№ 70) падганяюць мяне да гэтай думкі, а не я, як тое можа падацца некаторым чытачам, падганяю сітуацыю і ўласны светапогляд пад змест і ідэйны вектар *незалежнага* (так і хочацца напісаць, не толькі ад ідэалогіі цяперашняй улады, але *ад вымогаў часу)* выдання.

Экстракт глыбокага чалавечага сэнсу жыцця, жаночага вопыту, адмысловых смаліста-смалічанскіх слоў, тояцца на дне кожнай тонкай падвойнай метафары ў адвольных афарыстычных вершах **Валянціны Аксак.** Зрэзы яе твораў — як агляд пражытага, озірк (азіранне)... Той сціплы букет кветак з уласнага падворку для падарунка ўмільнаму тубыльцу... І ў той жа час як бы і няма самой выбудовы верша (у звычайным, буднічным, і класічным яго разуменні), а ёсць толькі цымус высокага мастацкага натхнення... Ні раніца, ні вечар — бяссонны час паміж нараджэннем і смерцю...

*Камяні перад ганкам*
*змянілі аблічча.*




*Рвалася да іх —*
*родных,*
*а сустрэлі —*
*чужыя.*

Вершы В. Аксак — рэдкая з'ява, у простым і пераносным сэнсе. Паэтычным гурманам раю не прамінуць.

А вось тэматыка твораў (апошнім часам пераважна раманаў) **Людмілы Рублеўскай** нязменная — нацыянал-гістарычная (патрыятычная, можна сказаць). Сюжэты, героі, фабула, ідэйны змест (падтэкст) таксама блізкападобныя (з аднаго кораня растуць), як і сам стыль і форма пісьма (добра *набітыя* ўжо немалым літаратурным вопытам). Гэта як зачараванае кола, у якое — можа, і выпадкова, але раз і назаўсёды — патрапляе творца, тым больш, як у гэтым рамане («Дагератып»), ён апынаецца аж у падвойным — «знешнім» і «ўнутраным» атачэнні...

Калі Валянціна Аксак піша на абрыўках дыхання, то **Васіль Макарэвіч** разгортваецца на ўвесь аркуш сваёй шырокай душы... Кампазіцыйна выбудаваная ў вершах араторыя «Атлант» прысвечаная памяці Анатоля Вялюгіна.

У дзвюх абсалютна мастацкіх навелах юбіляра **Віктара Карамазава** адмыслова выпісана «кухня мастака» і разам з гэтым глыбокі ўнутраны (псіхалагічны) характар мастацкай творчасці ўвогуле — у тым ліку і літаратурнай. *«Але былі і прынцыпы свае, ні ў кога не пазычаныя: пісаць настрой пейзажны адразу ад пачатку да канца, за адзін сеанс, як не паспеў — другі раз з палітрай не падыходзь да палатна. Хай застаецца незакончаным. Каб не было ілжы. Лепш змоўчаць, недагаварыць, як сылгаць».*

«Штосьці не так» — гэта па сутнасці вершаваныя дзённікі-надзённікі паэта з няўрымслівай душой **Славаміра Адамовіча.** Слабее лірычны агонь, але іскрыцца і цвярдзее загартаваная вопытам жыцця сталь бунтарскага мыслення. Зрэшты і такія прызнанні вымагаюць увагі і адпаведнага стаўлення да цяперашняй яго творчасці:

*Ды з кожным днём усё цяжэй*
*быць выраддам у зграі...*
*І гонар мой — ніжэй, ніжэй...*
*І — чую — выгараю...*
*А мне не хочацца згарэць*
*і не пабачыць плёну...*
*І я крычу: даволі! гэць!*
*Але маўчаць мільёны...*

**Уладзімір Дамашэвіч** — мой старэйшы калега, таварыш і зямляк; смутак і жаль пасля яго сыходу мяне яшчэ не пакінуў, і тым больш — публікацыя гэтага апавядання 1994 года («Электрычка Мінск-Баранавічы»), яго беларускі строй (форма, сюжэт) і настрой (падтэкст і фабула) навяваюць на душу гэткі мінорны матыў нацыянальнага самакрытычнага самаедства адначасна з упартым нежаданнем змірэння з наканаваным лёсам... Будзем памятаць цябе, наш клецкі Дон-Кіхот...

Своеасаблівая экзістэнцыя духу — нізка новых вершаў **Аксаны Данільчык.** На мой густ, больш празрыстая і, як ні дзіўна, больш выразная яе паэтычная падборка выдрукавана ў адным з нядаўніх нумароў часопіса «Наша вера». Памятаецца, яна кранула фібры маёй душы і ўсхвалявала неяк адчувальней, чым гэтая публікацыя, разлічаная на чытацкую «інтэрпрэтацыю»... Аднак аснова паэзіі А. Данільчык і тут неадлучная ад аўтара, таму нельга не адзначыць чысціню погляду на свет і яснасць провідная мыслення.

«Людная вуліца» **Міхася Южыка** — наіўна-сентыментальная, аднак чытэльная белетрыстыка ў фантасмагарычным стылі. Ёсць інтрыгоўны, хоць і ўжо зацяганы празаікамі відавочны сюжэт, якому бракуе псіхалагічнай і падтэкставай глыбіні... Але жанчынам сярэдняга веку параіў бы «клюнуць» на прыманку аўтара...

Вершы берасцейца **Васіля Барысюка** ўдумныя і ўнутрана аўтарскія: пачуцці стрыманыя, словы спакойныя, статычныя, метафорыка аднамерная... таму сама паэзія ідзе наводдалі ад чытача і даганяе яго, як рэха альбо як плач згубленага дзіцёнка — разгубленую маці...

*Сябры па-ранейшаму*
*пішуць вершы:*
*хтосьці — збольшага,*
*нехта — зменшага.*
*Спрачаюцца:*
*хто горшы, хто лепшы,*
*трэці, другі ці першы...*
*Цудоўнае глупства —*
*гаворка пра словы...*

З сямі «імпрэсій» маладой **Ксеніі Шталянковай** ёсць тры, якія мяне па-добраму (па-мастацку) уразілі. Гэта «Без назвы», «Papialushka begins» і «Жыццё з задранай галавой». Адчувальна, што ў дзяўчыны ёсць талент, і ён не проста «спажываецца» і прагматычна кансервуецца надалей, але і заўважна развіваецца, а літаратурнае майстэрства аўтара штораз удасканальваецца, як мне думаецца, праз штодзённыя стылёвыя «муштры»... Моцы і ўдачы!

Поруч выдрукаваны вершаваныя нізкі двух паэтаў, можна сказаць, маіх землякоў. Калі па-шчырасці, то яны мяне не здзівілі, і ўвогуле, ад першага **(Ігара Канановіча)** чакалася нейкіх адкрыццяў і нечага больш значнага, ведаючы, што яму і дадзена значна больш. Сціслы, лаканічны, афарыстычны (месцамі) верш, які ён прапануе чытачу, патрабуе ўзорнай вобразнай яскравасці альбо здабытай вопытам жыцця мудрасці... На жаль, гэта не заўсёды заўважна ў вершах клецкага (па нараджэнні) паэта. Але ў яго ёсць і сваё, характэрнае, нажытае выпрабаваннямі душы:

*Кожнаму — свой пакой,*
*і толькі*
*цішыня —*
*адна на дваіх...*

Ад дэбюта **Андрэя Козела** з Нясвіжа ў мяне засталася надзея на будучы творчы плён маладога чалавека, які і сам прызнаецца, што яшчэ толькі «шукае словы, што стануць вершамі»... І чаму б яму не паверыць?! Да таго ж зрэдку, але радуюць сваімі высновамі такія фрагменты яго пакуль даволі празаічнай лірыкі:

*Рагочуць прама ў твар, спрабуючы зачапіць за*
*жывое, абставіны лёсу з маёй бездапаможнасці, з майго*
*няўрымслівага танца-змагання з паразамі...*
*Ды і адкуль ім ведаць, што з кожнай пераадоленай*
*паразай я станаўлюся яшчэ мацнейшым.*

**Сучасная грузінская паэзія** прадстаўлена ў нумары вельмі арыгінальнымі паэтамі, як і беларуская — іх перакладчыкамі. Здзіўляе, але нярэдка і засмучае (узрост, кансерватызм?) іншае: паэзія, у класічным сваім праяўленні — знікае... Эвалюцыянуючы ў часе, душах і розумах (свядомасці) сённяшніх людзей, яна паступова робіцца на іх падобнай — прагматыкай, шырокім досведам, іранічнасцю і расхрыстанасцю ў праяўленні пачуццяў і навуковай *абыдзенасцю* нават болевых сітуацый... Ёсць небяспека ў гэтым аддаленні чалавека ад паэзіі, гэтага ілюзорнага імкнення да нечага большага, што яе можа замясціць. Але нельга аддаляцца ад Слова, якое, у рэшце рэшт, верне і паставіць чалавека перад Сабой... Перад вечнымі пытаннямі жыцця і смерці...

Не так уразілі танкі японскай паэткі **Мары Кона,** як прадмова-размова да іх публікацыі, напісаная перакладчыцай вершаў В. Гапеевай. Гэта ў працяг маёй размовы пра сутнасць сучаснай паэзіі. *«Лічыцца, што рыфмы ў танках быць не павінна. Я запытала ў Мары-сан, ці так гэта. Яна спачатку не зразумела, а потым патлумачыла, што часам рыфма можа гучаць ненатуральна, «роблена», так бы мовіць, і, адпаведна, штучна, а штучнасць не можа быць прыгожай. Вось такая сувязь паміж натуральнасцю і прыгажосцю».*

Дарэчы, вельмі цікава (зноў жа ў працяг маіх разваг пра паэзію) прачыталася выказванне В. Быкава ў гаворцы з А. Адамовічам, якая друкуецца следам: «Паэзія, канечне, выдатны літаратурны жанр. Але, як пісаў разумны Артэга-і-Гасэт, — я аддаю перавагу прозе, якая ёсць стадыя сталасці, што чалавецтва дасягае пасля доўгіх паэтычных гульняў. Зноў жа памятаецца, як вызначаў пісанне вершаў Талстой — як танцы за бараной у полі. Канечне, гэта іранічная метафара, я паважаю паэзію. Нават некаторых паэтаў...».

Таму раіў бы чытачам не абмінуць увагай **«аўтабіяграфічныя дыялогі В. Быкава з А. Адамовічам»** пад назвай «Маладыя гады». У працяг гутаркі публікуецца эпісталярная спадчына Васіля Уладзіміравіча за 1963-1977 гады.

З захапленнем (і пэўным нова-адкрыццём) прачыталіся лісты маладога Варлена Бечыка ў кантэксце мемуарных успамінаў яго сябра **Міколы Гіля.** З гэтай эсэістыкі (і так можна назваць гэты тэкст), асабліва ў эпісталярыі В. Бечык выявіўся з нечаканых бакоў сваёй таленавітай і неардынарнай натуры (а падаваўся мне пры жыцці ціхім інтэлігентным, нават закамплексаваным чалавекам). Дзякуй Міколу Сымонавічу, што не даў затаіць такое светлае, але рознаколернае аблічча таленавітага крытыка.

Апроч агледжанага, вы можаце прачытаць пазнавальны артыкул **В. Жыбуля** пра японскага літаратара Удзяку Акіта, які наведваў Беларусь напрыканцы 20-х гадоў. Збор прадмоваў **Аляксандра Лукашука** да серыі кніг, што выйшлі пад патранажам беларускай службы Радыё Свабода, якая сёлета адзначае 60-годдзе свайго вяшчання. Спрабуй узнавіць творчую постаць рана адышоўшай з жыцця паэткі з Барысава **Таццяны Зіненкі** з'яўляецца шырокая публікацыя яе паэтычнай спадчыны і ўспамінаў сяброў і таварышаў па пяры ў рубрыцы «in memoriam» пад назовам «Гарчэйшае пітво». Друкуецца літаратуразнаўчы артыкул **Анжэлы Мельнікавай** пра раманную тэтралогію Вячаслава Адамчыка, «як люстэрка жыцця Заходняй Беларусі». Леанід Галубовіч рэцэнзуе беларускамоўны зборнік паэзіі рускай (па нацыянальнасці) паэткі **Марыны Наталіч.** Завяршае публікацыі 70-га нумара часопіса рубрыка «Дзеяпіс» з анатацыямі кніжных навінак.

Добрага чытання і чыстага ліпеньскага неба.

# 10 фактаў пра пісьменнікаў і ганарары

1. Аляксандр Дзюма напачатку публікаваў свой лепшы раман «Тры мушкецёры» ў газеце. У кантракце з выдаўцом была парадковая аплата рукапісу. Каб павялічыць ганарар, Дзюма, які заўсёды адрозніваўся прадпрымальнасцю, прыдумаў Грыма, маўклівага слугу Атоса, які гаварыў і адказваў на ўсе пытанні аднаскладова, у большасці выпадкаў «так» ці «не». Працяг кнігі пад назвай «Праз дваццаць гадоў» аплочваўся ўжо паслоўна, і Грыму давялося крыху разгаварыцца...
2. Аднойчы ў вялікага Франсуа Рабле не было грошай, каб дабрацца з Ліёна ў Парыж. Тады ён прыгатаваў тры пакуначкі з надпісамі «Атрута для караля», «Атрута для каралевы» і «Атрута для дафіна» ды пакінуў іх у гатэльным нумары на бачным месцы. Даведаўшыся аб усім, гаспадар гатэля даклаў уладам. Рабле схапілі і з канвоем даставілі ў сталіцу прама да караля Францыска I, каб той вырашыў лёс пісьменніка. Аказалася, што ў пакетах быў цукар, які Рабле тут жа і выпіў са шклянкай вады, а затым распавёў каралю, з якім ён сябраваў, як вырашыў сваю «дарожную» праблему.
3. Таварышы-паэты вінавацілі Маякоўскага ў жульніцтве, сцвярджаючы, што яго знакамітая вершаваная «лесвічка» мае за мэту адно павелічэнне ганарараў. І сапраўды, паэтам у тыя часы плацілі парадкова, так што Маякоўскі атрымліваў у 2, а то і ў 3 разы больш за вершы аналагічнай даўжыні.
4. Пры выданні паэмы Венедыкта Ерафеева «Масква — Петушкі» асобнай кніжкай па просьбе аўтара на яе ўстанавілі кошт 3 рублі 62 капейкі. Менавіта столькі каштавала бутэлька гарэлкі падчас напісання кнігі.
5. Слова ангельскага пісьменніка Рэдзьярда Кіплінга шанавалася літаральна на вагу золата: ён атрымліваў па шылінгу за кожнае слова, што на сённяшні дзень роўна фунту стэрлінгаў.
6. Сваю першую кнігу «Гары Потар і філасофскі камень» Джоан Роўлінг скончыла ў 1995 годзе. 12 выдавецтваў адхілілі дасланы рукапіс. Толькі праз год кніга была прынята маленькім лонданскім выдавецтвам «Bloomsbury», хоць яго галоўны рэдактар запэўніваў Роўлінг, што ёй не зарабіць шмат на дзіцячых кнігах, і раіў знайсці сталую працу. На сённяшні дзень яе кнігі (уключна з кінаэкранізацыямі) прынеслі прыбытак не на адну сотню мільёнаў даляраў.
7. У 1976 годзе прагрэсіўны падатак на прыбыткі шведскай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн склаў 102%. Яна напісала з гэтай нагоды сатырычны артыкул, які выклікаў гарачыя спрэчкі. Лічыцца, што ў выніку гэтай дыскусіі сацыял-дэмакратычная партыя прайграла чарговыя выбары і не ўвайшла ў склад урада Швецыі ўпершыню за 40 гадоў.
8. У Расіі сумленнае выдавецтва звычайна плаціць пісьменніку па 5 рублёў з кнігі пры накладзе ў пяць тысячаў асобнікаў. Але ў большасці выпадкаў аўтары задавальняюцца фармулёўкай «Пісьменніку належыць 10% ад сумы, атрыманай пасля продажу тыражу». Нярэдка пачаткоўцы прадае свой рукапіс за 200 даляраў або рады, калі яго кнігу выдаюць бясплатна.
9. Інфармацыю пра пісьменніцкія ганарары сучасныя аўтары і выдаўцы трымаюць у найстрогім сакрэце. Аднак сякая-такая інфармацыя ў прэсу ўсё ж прасочваецца: Барысу Акуніну, па чутках, заплацілі адзін з самых вялікіх для Расіі ганарараў — 1 млн. расійскіх рублёў. У суму ад 3 да 7 тысячаў даляраў ацэньваюцца звычайна мемуары зорак.
10. 12,5 тысячаў даляраў прызавых можа прынесці лаўрэату прэмія Букера, прыкладна 5 тысячаў — Малы Букер. У 2013 годзе сума Нобелеўскай прэміі па літаратуры склала 1,2 мільёна даляраў.

# Дом кнігі ў Пекіне

**Кругласутачны Дом кнігі «Саньлянь» адкрыўся ў цэнтры Пекіна. Там можна не толькі купіць кнігі, але і пачытаць ды выпіць кавы.**

«Храм ведаў» будзе працаваць у тэставым рэжыме. З дзевяці вечара да дзевяці раніцы дзейнічае адмысловая сістэма зніжак.

Стваральнікі букіністычнага цэнтра заклікаюць наведвальнікаў да актыўнасці. Сваімі думкамі пра працу крамы можна падзяліцца па электроннай пошце. Уладальнік запэўнівае: недахопы фіксуюцца і будуць выпраўлены.

Паводле новага кітайскага закона, са студзеня 2013 і да канца 2017 года кнігарні вызвалены ад падатку на дабаўленую вартасць. Такая квота дазволіць эканоміць 600 тысячаў юаняў. Але гэта яшчэ не ўсё. Субсідыя ў 1 мільён юаняў — выдатны зачын для старту і развіцця. «Саньлянь» — не проста месца, дзе прадаюцца кнігі, — упэўнены ўладальнік кнігарні. — Гэта храм ведаў, задача якога спрыяць культурнаму ўзбагачэнню пекінцаў і гасцей сталіцы».

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Guardian, BBC, РИА Новости, vsiknygy.net, prostokniga.com.ua.**

# Кніжнае задавальненне

**Навукоўцы вымералі ў грашах задавальненне ад наведвання бібліятэк. Задавальненне ад частага наведвання бібліятэк эквівалентна задавальненню ад падвышэння заработнай платы. Пра гэта гаворыцца ў даследаванні, праведзеным па замове Міністэрства па справах культуры, СМІ і спорту Вялікабрытаніі.**

Задачай даследавання, праведзенага Лонданскай школай эканомікі, было вызначыць, якія віды дзейнасці робяць людзей найбольш задаволенымі жыццём і які грашовы эквівалент гэтага задавальнення.

Як падлічылі навукоўцы, частае наведванне бібліятэк прыносіць брытанцам такое ж задавальненне, як калі б ім павялічылі заработную плату на 1359 фунтаў стэрлінгаў у год (ці 113 у месяц). Крыху менш задавальнення прыносяць заняткі спортам: на ўзроўні падвышэння зарплаты на 1127 фунтаў у год, у той час як заняткі мастацтвам — 1084 фунтаў у год.

# Працяг Мэры Попінс

**У Вялікабрытаніі апублікуюць малавядомыя творы стваральніцы «Мэры Попінс» Памэлы Трэверс.**



Яны выйдуць у свет у лістападзе 2014 года. Сярод малавядомых твораў — аповед «Цётка Сэс», які быў надрукаваны накладам у 500 асобнікаў і не прадаваўся. Галоўная гераіня гісторыі, «суровая і далікатная цётка Сэс», па словах самой аўтаркі, была працягам вобраза Мэры Попінс.

Прататыпам цёткі Сэс стала стрыечная бабуля пісьменніцы Хелен Морхед. Аповед быў напісаны ў 1941 годзе. Першапачаткова меркавалася, што гісторыя стане проста калядным падарункам для сяброў і сваякоў. Рэдактар будучай кнігі Трэверс Донна Кунан вырашыла высветліць, ці засталіся неапублікаваныя працы, калі ўбачыла прысвечаны пісьменніцы дакументальны фільм. Такіх твораў адшукалася тры. Апроч «Цёткі Сэс», выявіліся аповеды «Ah Wong» і «Johnny Delaney», напісаныя ў 1943 і 1944 гадах. Т. Д. Кунан мяркуе, што ў іх прысутнічаюць аўтабіяграфічныя элементы, аднак «ніхто не можа сказаць, што з'яўляецца рэальным, а што не».

# Кніга з чалавечай скуры

**У бібліятэцы Гарвардскага ўніверсітэта (ЗША) даследнікі знайшлі выданне, на адной з апошніх старонак якога быў запіс пра тое, што вокладка кнігі зроблена з чалавечай скуры.**

Зацікавіўшыся знаходкай, навукоўцы прыступілі да маштабных даследаванняў, каб устанавіць сапраўднасць запісу.

Правёўшы аналіз матэрыялу, яны прыйшлі да высновы, што вокладка кнігі, якая мае вельмі злавесны выгляд, сапраўды выканана не з авечай, як меркавалася раней, а са скуры чалавечай. Зрэшты, неабходна прызнаць, што ў XVII–XIX стагоддзях выкарыстанне чалавечай скуры па такім прызначэнні было вельмі распаўсюджанай з'явай. Як правіла, скуру здымалі са злачынцаў пасля іх пакарання смерцю, а затым выкарыстоўвалі для стварэння вокладкі крымінальнай справы пакаранага.

Працягнуўшы працу, навукоўцы ўстанавілі, што значная частка іншых кніг, якія захоўваюцца ў бібліятэцы Гарвардскага ўніверсітэта, пераплецены скурай кароў і быкоў, аднак цікавасць студэнтаў да тутэйшых выданняў моцна павысілася...

# Дубль «Краіны радасці»

**Аўтар рамана «Краіна радасці» Эмілі Шульц атрымала высокія аўтарскія адлічэнні за тое, што яе кнігу пераблыталі з аднайменным раманам Стывена Кінга.**

Восем гадоў назад канадская пісьменніца, якая жыве ў ЗША, Э. Шульц выдала свой дэбютны раман «Краіна радасці» « («Joyland»). Ён аб тым, як 11-гадовая Тэмі Лэйн ад нуды ўлетку 1984 года сочыць за сваім старэйшым 14-гадовым братам і суседзямі. Адзіная забаўка для моладзі ў яе мястэчку — зала відэагульняў «Краіна радасці», якую вырашаюць зачыніць гарадскія ўлады.

Кніга атрымала стрымана-пазітыўныя рэцэнзіі і не карысталася ашаламляльным поспехам у пакупнікоў... ажно да 2013 года, калі майстар трылераў Стывен Кінг апублікаваў раман з такой жа назвай. Даведаўшыся пра гэтую прэм'еру, сотні і тысячы аматараў прозы Кінга рынуліся на «Amazon» і па памылцы купілі электронную кнігу Э. Шульц...

# Літаратурны нонканфармізм

**У Маскве прайшла пятая, юбілейная цырымонія ўручэння антымэйнстрымнай прэміі «Нонканфармізм-2014».**

Прэмія была заснавана ў 2010 годзе па ініцыятыве галоўнага рэдактара «Независимой газеты» К. Рэмчукова і носіць эксперыментальны, часткова правакацыйны характар. З пары сотняў удзельнікаў конкурса ў фінал у намінацыі «Нонканфармізм-учынак» па традыцыі выйшлі аўтары трынаццаці лепшых тэкстаў. Журы (куды апроч К. Рэмчукова ўваходзіць увесь рэдакцыйны склад «НГ-Exlibris») прысудзіла галоўны прыз у выглядзе статуэткі абісінскай коткі і грашовай узнагароды празаіку і сцэнарысту Андрэю Бычкову за раман «Алімп ілюзій». Лаўрэатам у намінацыі «Нонканфармізм-лёс» стаў класік расійскага метафізічнага рэалізму Юры Мамлееў, а пераможцам у намінацыі «Спецпрыз» і трэцім уладальнікам коткі — кумір нонканфармісцкай Масквы паэт Усевалад Ямелін.

# Супраць дыскрымінацыі электронных кніг

**Бібліятэчныя саюзы Еўропы аб'ядналіся ў барацьбе за «правы» электронных выданняў. Сёння яны не могуць атрымаць у сваё распараджэнне многія электронныя кнігі.**

Нямецкі саюз бібліятэк разам з аналагічнымі арганізацыямі іншых краін Еўразвяза выступае за тое, каб ураўняць электронныя і друкаваныя выданні. Асноўная прэтэнзія заключаецца ў тым, што з-за юрыдычных фармальнасцяў з аўтарскім правам выдавецтвы часта не дазваляюць бібліятэкам набываць і, адпаведна, выдаваць чытачам электронныя кнігі.

Каб прыцягнуць увагу да гэтай тэмы, еўрапейскія бібліятэкі ініцыявалі кампанію «Права на электроннае чытанне». Напярэдадні Сусветнага дня кнігі ў краінах Еўразвяза прайшлі прэс-канферэнцыі, падчас якіх растлумачвалася пазіцыя бібліятэк.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 3 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.25** Музычная камедыя «Цырк» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** Дакументальны цыкл «Яны спявалі за Радзіму». Фільм 4-ы.
**14.25** Дыялогі аб цывілізацыі.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.40** Камедыйная меладрама «У люстэрка два твары» (ЗША).



**19.05** Меладрама «Малахольная» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Меладрама «Копія сапраўдная» (Францыя-Італія-Бельгія).
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Ідэальны рамонт».
**12.30** «Ералаш».
**12.55** «Да мяне Мухтар!». Мастацкі фільм.



**14.20** «Не можа быць!». Мастацкі фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Па слядах вялікіх рускіх падарожнікаў».
**17.20** «Асяроддзе пражывання».
**18.20** «Хвіліна славы». Мастацкі фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.20** «Твары ў натоўпе». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.05** «Турысты». Серыял.
**07.40** «Сардэчна паскардзіцца».
**08.00** Фільм «Золата дурняў». ЗША, 2008г.
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.25** «Добры дзень, доктар».
**13.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.00** Фільм «Ход у адказ». СССР, 1981г.
**15.35** «Глядзець усім!».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Іствікскія ведзьмы». ЗША, 1987г.
**22.50** Шоу «Арганізацыя Пэўных Нацый».
**00.15** Фільм «Сем самураяў». Японія, 1954г.

### 2 Беларусь

**07.20** Фільм-казка «Галёшы шчасця» (Чэхаславакія).
**08.55** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.05** Мазгавы штурм.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.40** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**13.15** Камедыйны баявік «Кепскія хлопцы» (ЗША).
**15.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.00** Фантастычны трылер «Нябачны» (ЗША-Германія).
**18.05** Гумарыстычная шоу-праграма «Comedy Баттл. Без межаў» (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Рэальны свет.
**21.40** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.40** Камедыя «Вялікі Бак Ховард» (ЗША).

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы».
**08.40** «Размаўляем па-беларуску».
**08.45** Серыял. «Мегрэ». 55-я - 60-я серыі.
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.30** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**14.20** «Старажытнае паданне. Калі сонца было богам». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**16.40** «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў». Дакументальны фільм пра народнага артыста Расіі.
**17.40** «Аўтограф». Валянцін Краўцоў - кіраўнік Гомельскага сімфанічнага аркестра.
**18.10** «Культпрасвет».
**18.35** Сусветнае кіно. «Легенды восені».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Ад сэрца да сэрца..» Рамансы ў выкананні заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Тамары Пячынскай.
**22.40** «Культпрасвет».
**23.10** А.М.Астроўскі. «Банкрут». Спектакль Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра.
**01.00** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.55** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард. Паўфіналы.
**12.00** Більярд. Чэмпіянат Еўропы.
**14.05** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Ліверпуль - Мілан.
**16.00** «Рыа-2014». Відэафільм.
**16.55** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард. Паўфінал.
**18.55** Футбол. Беларусбанк - Чэмпіянат Беларусі. Дынама (Мінск) - БАТЭ. Прамая трансляцыя.
**20.55** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Манчэстэр Юнайтэд - Рэал.
**22.50** Аўтаспорт. Чэмпіянат Беларусі. 3. Этап.
**00.00** Тэніс. Турнір ВТА. Стэнфард. Фінал. Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Ліс Леон».
**07.50** «Зорны пірат», тэлесерыял: 1 серыя.
**08.15** Свабода без гальштукаў!
**08.40** Хто ёсць кім?: «Алег Трусаў», рэпартаж.
**09.00** Беларусы ў Польшчы.
**09.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.00** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 9 серыя.
**10.30** Чаму дэмакратыя? «Крывавыя карыкатуры».
**11.20** Аўтаспынам па Беларусі.
**11.40** Моўнік (лінгвістычная праграма): Адкуль пайшлі найменні гарадоў.
**11.50** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы ўнучок».
**12.45** «Зорны пірат», тэлесерыял: 1 серыя.
**12.50** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**13.45** «Мая зямля», дак. фільм, 2010 г., Францыя–Марока.
**15.30** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 9 серыя.
**16.00** «Браты Клічко», дак. фільм, 2011 г., Германія.
**17.55** «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**18.30** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Ліс Леон».
**18.50** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.05** «U455. таямніца загінулай субмарыны», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**19.55** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Альманья. Вітаем у Нямеччыне!», маст. фільм, 2011 г., Германія.
**23.20** Лета з дэтэктывам: «Зграя», сенсацыйны серыял: 9 серыя.
**00.20** «Глыбокая вада–2», серыял: 5 серыя.
**00.40** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Dali».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афармляючы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

*Алег НОВІКАЎ*

**Новы ўрад Індыі пачаў самую маштабную з часоў атрымання краінай незалежнасці моўную рэформу. Задача рэформы — пакончыць з дамінаваннем англійскай мовы.**



# Хіндзізацыя ўсёй Індыі

Распачаў хіндзізацыю асабіста новы прэм'ер Нарэндра Модзі (Narendra Modi) — лідар індускай «Бхаратыя джаната парты» (BJP), якая ўвесну прыйшла да ўлады. Ён прачытаў на хіндзі праграмную прамову свайго кабінета. Усе папярэднія прэм'еры з першага дня абвяшчэння незалежнасці знаёмілі індусаў са сваімі планамі выключна на англійскай мове. Пасля Модзі ў размове з журналістамі прапанаваў комплекснае бачанне новай моўнай палітыкі. Галоўны арыенцір — мова хіндзі павінна стаць асноўнай.

Перш за ўсё, перабудавацца павінен цэнтральны адміністратыўны апарат. Чыноўнікам прапанавана весці акаўнты ў Twitter і Facebook выключна на хіндзі, гэтак жа, як і ўсю афіцыйную перапіску і камунікацыі. Адначасова прэм'ер загадаў індыйскаму МЗС праінфармаваць замежныя сталіцы — весці міжнародныя перамовы новае кіраўніцтва будзе выключна на хіндзі. Дарэчы, менавіта на хіндзі Модзі вёў перамовы падчас нядаўняга візіту ў Бутан.

«Людзям, якія выступаюць супраць гэтага рашэння (рэформа пра статус хіндзі) варта паглядзець на Кітай, Японію, Расію, Германію і Францыю ў якасці прыкладаў. Усе гэтыя краіны выкарыстоўваюць свае нацыянальныя мовы ў офісах, навучальных установах, і нават для навуковых даследаванняў. У выніку гэтыя народы ідуць па шляху прагрэсу. Сітуацыя ў Індыі, былой брытанскай калоніі, у гэтым плане проста незразумелая. Індыйскі ўрад павінен забяспечыць роўнасць выкарыстання хіндзі і англійскай мовы ў якасці афіцыйных моваў, і такім чынам захаваць культурную спецыфіку краіны», — піша адно з блізкіх да BJP выданняў.

З аднаго боку, усё правільна, але... У Індыі людзі ўжываюць для камунікацыі 1500 моваў, а 22 з іх маюць афіцыйны статус на федэральным узроўні або на ўзроўні штатаў. Гэты моўны вінегрэт даўно б прывёў да калапсу агульнанацыянальнага дыскурсу і, адпаведна, дзяржаўнага адзінства, калі б не англійская мова, якую, як правіла, разумеюць усе, у той час, як прыкладна палова з 1,2 мільярда грамадзян Індыі не валодаюць хіндзі. Яшчэ 10 працэнтаў індусаў карыстаецца выключна англійскай мовай. Усяго роднай мовай хіндзі лічаць 40 працэнтаў насельніцтва Індыі.

У дадатак пагалоўнае свабоднае веданне англійскай мовай — адзін з чыннікаў тэхналагічнай рэвалюцыі ў краіне. Індускія IT-інжынеры лёгка камунікуюць з заходнімі фірмамі.

Акрамя эканамічных рызыкаў і магчымых праблем дэфрагментацыі адзінага палітычнага поля, трэба ўзгадаць сумныя вынікі папярэдніх спроб адміністратыўнымі сродкамі насадзіць хіндзі. Такія спробы мелі месца напрыканцы 1940-х гадоў, калі падчас распрацоўкі праекту канстытуцыі планавалася, што дзяржаўных моваў у Індыі будзе дзве — хіндзі і англійская. Гэта выклікала пратэсты на месцах, якія часта вылiваліся ў акцыі грамадзянскай непакоры і нават мілітарны партызанскі рух. Нейтралізаваць моўныя Вандэі ўдалося пасля таго, як статус дзяржаўнай разам з англійскай і хіндзі атрымалі яшчэ некалькіх моваў.

На гэты раз справа да партызанкі не дайшла. Пакуль усё абмяжавалася дэмаршамі палітычных эліт штатаў, дзе хіндзі з'яўляецца мовай меншасці. «Ніхто не можа навязаць нам выкарыстанне хіндзі, калі на гэта не будзе наша асабістай волі. Тое, што робіць урад, — гэта спробаператварыць «нехіндзімоўных» грамадзян у людзей другога гатунку», — заявіў лідар вядучай партыі тамілаў.

Цікава, што Модзі адразу пагадзіўся з крытыкай з месцаў. Прагучала заява пра тое, што «хіндзізацыя» не выйдзе за межы Поўначы, дзе жыве асноўная маса хіндзімоўных індусаў. У доказ сваіх слоў падчас візіту ў адзін з паўднёвых штатаў прэм'ер прачытаў прамову па-англійску.

Такая палавіністасць моўнай рэформы можа выклікаць справядлівыя сумневы ў мэтазгоднасці яе правядзення. Але, на думку аналітыкаў, лінгвістычная кампанія патрэбна прэм'еру як антураж для больш маштабных рэформаў. Справа ў тым, што хіндзі — гэта мова сацыяльных нізоў, якія, як правіла, і галасуюць за BJP. Акрамя таго, так склалася, што англійская мова — адна з прыкметаў прыналежнасці да бюракратыі, і, адпаведна, адзін са сталых складнікаў вельмі карумпаванай індыйскай мадэлі, якую новы прэм'ер абяцае разбурыць.

Нядзіўна, што галоўнымі ахвярамі моўнай рэформы, на радасць простым індусам, сталі бюракраты. Як высвятляецца, чыноўнікі цэнтральных органаў вельмі дрэнна размаўляюць на хіндзі. Журналісты канстатуюць, што ў вертыкальшчыкаў лексічны запас хіндзі не перавышае тузін бытавых фраз. Пры дзяржаўных установах прыйшлося тэрмінова арганізоўваць моўныя курсы, на якіх, калі верыць прэсе, можна лёгка сустрэць выпускнікоў Гарварду і Оксфарду.

Агенцтва «Fox News» цытуе аднаго з чыноўнікаў, слухача згаданых вышэй курсаў, які прасіў кіраўніцтва вызваліць яго ад вывучэння хіндзі, паколькі з-за гэтага не можа заснуць, бо яму адразу сніцца англійска-хіндзі слоўнік.

Урад увесь час робіць акцэнт на тым, што няведанне мовы хіндзі — знак таго, што чыноўнікі адарваліся ад простага народу. Адзін з дэпутатаў ад BJP падкрэслівае: «Посткаланіяльная мадэль, якія існуе дасюль у Індыі, заснаваная на англійскай мове. Не трэба крыўдзіцца, аднак хіндзі — гэта мова, якая больш зразумелая масамі. Натуральна, не трэба насаджаць хіндзі. Гэта доўгі, павольны працэс. Аднак гэта не тычыцца бюракратаў, якія проста павінна ведаць такія рэчы».

Магчыма, прэм'ер рыхтуе пад соусам прамоцыі хіндзі кадравую рэвалюцыю, сацыяльны ліфт для сваіх прыхільнікаў, паколькі цяперашні корпус бюракратаў можа сабатаваць яго рэформы.

З іншага боку, шэсць з паловай мільёнаў чыноўнікаў Індыі (або іх частка) наўрад ці так проста пойдуць з сваіх кабінетаў. Ужо таму, што чыноўніцтва ў Індыі — гэта сапраўдная каста, якая сфармавалася яшчэ ў каланіяльныя часы. Будзем спадзявацца, што наспяваючы канфлікт не будзе замінаць рэформам, якія сапраўды патрэбныя Індыі.

Дарэчы, адна з прапаноў Нарэндра Модзі павінна зацікавіць і беларусаў. Яго ўрад плануе зрабіць Індыю турыстычнай Меккай, і для гэтага прыкладна з зімы радыкальна спросціць візавы рэжым. Калі не адбудзецца нічога экстраардынарнага, візы ў Індыю хутка можна будзе афармляць проста праз інтэрнэт.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларускі лідар Аляксандр Лукашэнка не стамляецца паўтараць, што дамова аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза — гэта не зусім тое, на што спадзявалася Беларусь. Аднак цяпер яго тон некалькі змяніўся: калі раней у ім было больш папрокаў, дык цяпер — надзея на «светлую будучыню». Нагадаем: літаральна напярэдадні ад'езду ў Астану, дзе адбылося падпісанне пагаднення, беларускі лідар пытаўся: «Калі мы не дасягаем двухбаковых дамоўленасцей — тады які эканамічны саюз?!» Зараз жа геапалітычная сітуацыя змянілася, дакладней, канчаткова стала зразумела, што мірным шляхам украінскі крызіс не вырашыцца; краіна ўжо адназначна павярнулася тварам у бок Захаду і тыльным бокам у бок ЕАЭС, і Лукашэнка стаў выказвацца больш асцярожна.

**«Эксперт» (Казахстан)**

Што тычыцца палітыкі Лукашэнкі ў адносінах да Украіны, а менавіта дэклараванай ім падтрымкі цэласнасці краіны і гатоўнасці да супрацоўніцтва з новымі ўкраінскімі ўладамі, то тут, на думку аналітыкаў, Бацькам рухае выключна разлік. Справа ў тым, што таваразварот Беларусі і Украіны перавышае $7 мільярдаў, і губляць такога важнага партнёра Лукашэнка не хоча. Менавіта таму ён спрабуе лавіраваць паміж Кіевам і Масквой: з аднаго боку, украінскія танкі ездзяць на беларускай салярцы (якую Беларусь выраблае з расійскай нафты), а з другога — Лукашэнка размясціў дадатковыя расійскія самалёты на беларускіх аэрадромах пасля пачатку расійска-ўкраінскага канфлікту, каб прадэманстраваць саюзніцкую вернасць Крамлю.

**«Новое время» (Расія)**

Сакрэт палітычнага даўгалецця Бацькі бачаць у папулізме кіраўніка дзяржавы і ў недастатковым узроўні запытаў грамадзянскай супольнасці краіны, якую цалкам задавальняе прапанаваны прэзідэнтам адносны дабрабыт. Гэта трансфармаваны варыянт савецкага жыцця, які прапануе сацыяльныя гарантыі ў замен на абмежаванне грамадзянскіх свабодаў і свабоднага развіцця грамадства. Аднак галоўным залогам поспеху Лукашэнкі заўсёды была магутная фінансавая дапамога Масквы. Паводле ацэнак беларускіх экспертаў, яе памер штогод дасягае 10 мільярдаў долараў.

**«Экономические Известия» (Украіна)**

Пазіцыі Аляксандра Лукашэнкі сур'ёзна ўмацаваў украінскі Майдан. Хай і не заўсёды камфортная стабільнасць апынулася ў вачах беларусаў больш прывабнай за крывавы хаос і анархію — а менавіта так падаваліся ўсе падзеі ва Украіне дзяржаўнымі беларускімі і дамінуючымі ў беларускай медыяпрасторы расійскімі тэлеканаламі. Тое, што мадэль «чарка і шкварка», калісьці абвешчаная першым прэзідэнтам Беларусі замест савецкай, выртае ўплыў у кантэксце ўкраінскіх падзей, паказваюць і вынікі апошняга апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў: у снежні 2013 года Лукашэнка давяралі 37,7 %, у сакавіку 2014-га — 45,9%, у чэрвені — 49,6% апытаных сацыёлагамі беларусаў.

**«RFI» (Францыя)**

Уапошні час нейтральны тон Мінска знік. Па сутнасці, з моманту падпісання Пагаднення аб Асацыяцыі з ЕС Кіеў практычна канчаткова выйшаў з зоны ўплыву Масквы. Падобныя дзеянні ўкраінскіх уладаў запатрабавалі ад Расіі рашучых крокаў па абароне ўласных інтарэсаў як у ваенна-палітычнай, так і ў эканамічнай сферах. У такіх умовах Беларусь, у сілу сваіх саюзніцкіх абавязкаў, не магла далей захоўваць нейтральную рыторыку ў дачыненні да ўкраінскіх падзей. Не выключана, што без націску Крамля тут не абышлося, але факт застаецца фактам — сёння Беларусь апынулася ўцягнутай у гандлёвую вайну з Украінай. Натуральна, падобныя недружалюбныя крокі Мінска не засталіся незаўважанымі ў Кіеве, і Украіна ўжо ўвяла спецыяльныя пошліны на малочную прадукцыю, цукеркі і піва, якое пастаўляецца з Беларусі. Мяркуючы па ўсім, Беларусь і Украіна не спыняцца на ўзаемным абмене пошлінамі.

**«Военно-политическое обозрение» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗІМБАБВЭ. Яшчэ адзін дыктатар хоча Мундыяль

Міністэрства спорту Зімбабвэ, якой з пачатку 1980-х гадоў кіруе дыктатар Робер Мугабэ, заявіла пра намер пазмагацца за статус арганізатара Мундыяля–2034. Па словах кіраўніка спартыўнага дэпартаменту Вальтэра Мзембі, ён ужо размаўляў пра гэта з функцыянерамі FIFA, якія, быццам, у захапленні ад ідэі. Больш таго, калі верыць Мзембі, менавіта клеркі FIFA і натхнілі яго на гэты праект. Пытанне, як Зімбабвэ, самая бедная краіна ў свеце, можа пабудаваць адпаведную спартовую інфраструктуру, не вельмі трывожыць чыноўніка. Паводле яго словаў, галоўнае — навесці парадак у сталічным аэрапорце, а гуляць матчы можна на стадыёнах Паўднёвай Афрыкі, дзе нядаўна прайшоў чэмпіянат і назіраецца праблема эксплуатацыі аб'ектаў. Таксама стадыёны ёсць у суседняй Замбіі або Мазамбіку, да якіх з Харарэ ляцець максімум паўтары гадзіны. Застаецца дадаць, што ў 2003 годзе Харарэ намагалася правесці ў сябе сусветны турнір па крыкету, аднак з-за негатоўнасці спартовых аб'ектаў краіну хутка пазбавілі права арганізацыі спаборніцтва.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. У збітым Боінгу павінна была ляцець жонка Саакашвілі



Былы грузінскі прэзідэнт Міхаіл Саакашвілі прапанаваў сваю версію трагедыі з малаазійскім Боінгам, які быў збіты над тэрыторыяй Данбасу. Ён даў зразумець, што сепаратысты, якіх падазраюць у злачынстве, жадалі забіць яго жонку, грамадзянку Нідэрландаў. Па словах экс-прэзідэнта Грузіі, Сандру і яшчэ групу галандцаў запрасілі на канферэнцыю ў Аўстралію, аднак ляцець яны былі павінныя транзітам праз Малайзію. Галандскія ўдзельнікаў канферэнцыі ўзялі білеты менавіта на той фатальны рэйс Амстэрдам — Куала-Лумпур. А Сандру выратавала толькі тое, што ёй не было з кім пакінуць сына, і напярэдадні вылету яна адмовілася ад паездкі. Хаця Саакашвілі не сказаў, што атака на самалёт магла быць замахам на яго жонку, калі меркаваць па інтэрнэт-форумах, усе менавіта так яго апавяданне і зразумелі.

**Паводле грузінскай прэсы**

### РАСІЯ. Гіркін сапраўды этнічны беларус

Інтэрнэт цікава рэагуе на інфармацыю пра тое, што Ігар Гіркін (Стралкоў) — адзін з лідараў данецкіх сепаратыстаў — этнічны беларус, пра што ён сказаў у адным з інтэрв'ю. Архіварыусы праверылі словы Гіркіна і сапраўды выявілі, што быў такі Гіркін Ігнат Ягоравіч, беларус, які нарадзіўся ў снежні 1909 года ў вёсцы Воранаўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Там жа ў 1931 годзе быў прызваны ў шэрагі Чырвонай Арміі, падчас вайны з Японіяй — інжынер-капітан, затым — маёр тэхслужбы авіяпалка паветранай арміі. Наяўнасць этнічнага беларуса ў шэрагах ДНР дазволіла праруcкім прапагандыстам яшчэ больш казаць пра агульную барацьбу славян супраць празаходняй кіеўскай «хунты». Прамайданаўскія каментатары кажуць, што на баку Кіева таксама хапае беларусаў. Застаецца дадаць, што паводле «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», «гірка» (гырка) — ніжняя шырокая частка збанка ці «збанок з адбітым горлам».

**Паводле расійскай і ўкраінскай прэсы**

### ЧЭХІЯ. Памяць не дае дзейнічаць

Зцікавай тэорыяй, якая дазваляе зразумець паводзіны еўрапейскіх чыноўнікаў, выступіў чэшскі часопіс «Respekt». Выданне сцвярджае, што пасіўнасць Еўропы адносна агрэсіўнага курсу Пуціна звязаная з цяперашнім стогадовым юбілеем Першай сусветнай вайны. Быццам, памяць пра тую трагедыю вельмі моцна ціснe на мазгі лідараў еўрапейскіх краін. У доказ ён цытуе аднаго з дарадчыкаў Ангелы Меркель, які кажа, што развязаць канфлікт на фоне сотай гадавіны стрэлу ў Сараеве было б палітычным суіцыдам. Аўтар артыкулу таксама сцвярджае, што Еўропа паводзіла б сябе кардынальна інакш, калі б Масква анексавала Крым год таму. Тады ў ЕС адзначалі гадавіну Мюнхенскай дамовы 1938 года, паводле якой Лондан і Парыж дзеля захавання міру перадалі Гітлеру нямецкамоўныя рэгіёны Чэхаславакіі. Грамадская думка ў Еўропе была абсалютна адзінадушная ў высновах: Мюнхен навучыў, што саступаць агрэсару ніколі нельга. Адпаведна, і замежная палітыка ЕС была б год таму больш рашучай.

**Паводле чэшскай прэсы**

# Калі астранаўты былі злачынцамі

*Алег НОВІКАЎ*

**ЗША гучна адсвяткавалі 55-ю гадавіну высадкі чалавека на Месяц. Між тым, быў час, калі місію карабля «Апалон-2» разглядалі як гістарычную памылку, а саміх астранаўтаў лічылі ледзь не ворагамі народа.**



**Сёння палёт на Месяц, безумоўна, успрымаецца як адна з самых значных старонак амерыканскай гісторыі**

Праз год пасля дэсанту на Месяц капітан «Апалона-2» Ніл Армстранг даў інтэрв'ю, у якім сярод іншага выказаў расчараванне тым, што інтарэс да палёту на Месяц у амерыканскім грамадстве прайшоў так хутка. У 1977 годзе большасць амерыканцаў увогуле лічыла палёт на Месяц памылкай.

Як сталася, што людзі, якія зрабілі адзін з самых вялікіх прарываў у гісторыі чалавецтва, аказаліся ў 1970-х гадах амаль забытымі? Культуролагі і палітолагі называюць шмат фактараў. Адзін з галоўных — халодная вайна, а дакладней, выкліканая ёй так званая «касмічная гонка». Пасля запуску ў СССР спадарожніка і палёту Гагарына амерыканцаў ахапіў калектыўны комплекс непаўнавартаснасці. На вачах нівеліраваўся імідж ЗША як сусветнага лідара, што сярод іншага спрыяла ўздыму камунізму. Вашынгтону трэба было давесці, што янкі не саступаюць Саветам у космасе.

Палёт на Месяц давёў, што амерыканцы зноў у авангардзе тэхналагічнага прагрэсу. Аднак на гэтым інтрыга закончылася. Як выказаўся адзін з тагачасных паліткаментатараў, «Нарэшце мы перамаглі ў касмічнай гонцы. Далей няхай бягуць толькі фанатыкі». Фінал гонкі адразу адмоўна адлюстраваўся на бюджэце NASA. Палётаў стала менш, і, адпаведна, інтарэс да космасу ў соцыуме знік.

Другі фактар — эканоміка. З-за нафтавага шоку пачатку 1970-х гадоў, які выклікаў эканамічную дэпрэсію, Захад зацягнуў паясы. Праграма «Апалон-2» у свеце новых рэалій узгадвалася як хрэстаматыйны прыклад бессэнсоўнай траты шалёных грошай (касмічная гонка напачатку 1970-х гадоў каштавала 33 мільярды долараў, а сам палёт Армстранга і яго каманды — 7 мільярдаў). Дарэчы, нават на піку месяцаманіі — так называўся выбух інтарэсу ЗША да космасу — эканамічны скепсіс наконт падобных палётаў быў вельмі моцны: улетку 1969 года толькі 53 працэнты амерыканцаў лічылі, што праект «Апалон-2» апраўдаў укладзеныя ў яго сродкі. Амерыканскія левыя ўвогуле заклікалі накіраваць увесь бюджэт NASA на барацьбу з беднасцю ў ЗША. Асабліва гучна пратэставалі хрысціянскія арганізацыі і актывісты афраамерыканскага руху, якія лічылі, што скокі Армстранга па Месяцы на доўгія гады падарвалі сацыяльныя праграмы, якія галоўным чынам ішлі на дапамогу чарнаскурым грамадзянам ЗША.

Хутка наогул з'явілася канспіратыўная тэорыя змовы. У 1975 годзе амерыканскі пісьменнік Біл Кейсінг апублікаваў кнігу «Мы ніколі не былі на Месяцы», дзе сцвярджалася, што палёт «Апалона-2» быў фальсіфікацыяй. Аўтар заяўляў, што ЗША пайшлі на імітацыю дэсанту на Месяц для ўзняцця свайго прэстыжу з-за адставання ад СССР у касмічных дасягненнях, а таксама для рэабілітацыі іміджу Амерыкі ў свеце, які вельмі сапсаваўся падчас вайны ў В'етнаме. Саму сцэну высадкі, быццам, здымалі ў нейкім ангары ў Галівудзе.

Адзін з самых цікавых аспектаў гэтай тэорыі тычыцца ролі СССР, спецслужбы якога, як вядома, мелі добрую сетку інфарматараў. Калі б місія «Апалона-2» была падманам, то, хутчэй за ўсё, на Лубянцы ведалі пра гэта, і наўрад СССР упусціў бы магчымасць скампраметаваць Вашынгтон. Кейсінг і яго паслядоўнікі казалі, што Брэжнева падкупілі. Пасля таго, як Ніксан падараваў яму ў рамках візіту ў СССР новы «Кадзілак», дарагі Леанід Ільіч, быццам, пагадзіўся маўчаць, як партызан на допыту.

Дарэчы, у СССР пра палёт каманды Армстранга простыя людзі ведалі няшмат. Пра подзвіг амерыканскіх астранаўтаў літаральна двума сказамі паведамілі падчас праграмы «Время». А ў Кітаі, дзе Мао ставіў свае сацыяльныя эксперыменты, увогуле палічылі, што навіна пра высадку чалавека на Месяц не вартая эфіру. Найбольшы сярод сацыялістычных краін інтарэс да «Апалона-2» мела Югаславія. Ціта нават запрасіў астранаўтаў наведаць Бялград у рамках сусветнага турнэ.

Але вернемся да амерыканцаў. Трэба адзначыць, што экспедыцыя на Месяц паўплывала на вобраз астранаўтаў у масавай культуры. Такі персанаж, як заваёўнік прыроды, які верыць у тэхнічны прагрэс, аказаўся незапатрабаваны аўдыторыяй. Энтузіязм наконт таго, што прагрэс і рост спажывання здольныя зрабіць чалавека шчаслівым, у 1970-я гады быў па-за модай. Астранаўты ў кнігах і фільмах таго часу выглядаюць як дэпрэсіўныя, псіхічна нездаровыя людзі. Такая нелюбоў тлумачыцца таксама тым, што непапулярная на той час адміністрацыя Ніксана нейкі час піярыла каманду «Апалона-2» як эталон амерыканскага грамадзяніна.

Застаецца толькі аддаць належнае стойкасці Армстранга і яго сяброў, якія захавалі нармальную псіхіку ў падобнай грамадска-культурнай атмасферы, дачакаўшыся новых часоў.

Інтарэс да космасу ў ЗША пачаў вяртацца толькі на мяжы 1980-х гадоў. Гэта было звязана з новымі трэндамі ў масавай культуры. Трыумф кінасагі «Зорныя войны» выклікаў бум інтарэсу да касмічнай тэматыкі. Акрамя таго, у 1980 годзе ў Белы дом прыйшоў Рональд Рэйган са сваёй мегафішкай — Стратэгічнай Абароннай Ініцыятывай, або, прасцей кажучы, праграмай «Зорныя войны». Каб апраўдаць у вачах грамадскасці інвестыцыі ў вайсковыя касмічныя праграмы, дзяржава пачала піяр подзвігаў амерыканскіх астранаўтаў, у тым ліку каманды «Апалона-2». Сваю ролю ў рэабілітацыі ідэі заваёвы космасу згуляў і пачатак эры шатлаў — шматразовых касмічных караблёў, першы з якіх запусцілі ў 1981 годзе.

У выніку настрої ў грамадстве пачалі мяняцца. Ужо ў 1989 годзе 67 працэнтаў амерыканцаў пазітыўна ставіліся да праекту «Апалон-2». Сёння палёт на Месяц, безумоўна, успрымаецца як адна з самых значных старонак амерыканскай гісторыі. Як, дарэчы, і эпоха 1970-х з яе феноменам негатыўнага ўспрыняцця касмічнай гонкі. Так ці інакш, менавіта тады, на хвалі ірацыяналізму, крытыкі тэхналагічнага прагрэсу, неараманітызму, узніклі новыя канцэпцыі тэхнікі (той жа інтэрнэт, персанальны кампутар і г.д.). З часам рэалізаваныя напрацоўкі 1970-х гадоў дазволілі чалавецтву зрабіць крок далёка наперад, у тым ліку і ў даследаванні космасу.

# Момант ісціны для Пуціна

Алег НОВІКАЎ



**З моманту катастрофы на першых палосах вядучых СМІ абавязкова прысутнічае матэрыял, прысвечаны трагедыі. У заходніх газетах шмат шакіруючых рэпартажаў, якія апісваюць жудасныя падрабязнасці. Адначасова з'явілася і шмат аналітыкі.**

Па сутнасці, упершыню Захад спрабуе ацаніць маштаб украінскага крызісу, зразумець прыроду падзей на Данбасе і ролю Расіі ў іх. Тое, што Пуцін паводзіць сябе крывадушна, а таксама праз пастаўкі зброі правакуе супрацьстаянне, выклікала сапраўдны разварот грамадскай думкі адносна стаўлення да бакоў канфлікту.

Напярэдадні трагедыі ўкраінскі канфлікт успрымаўся ў еўрапейскім палітычным дыскурсе хутчэй як лакальная праблема Кіева. Пасля падзення самалёту ў Данбасе шмат пішуць пра тое, што ўкраінцы маюць справу з рэжымам, які не лічыцца ні з этычнымі нормамі, ні з існуючымі пасля вайны межамі.

«На працягу апошніх шасці месяцаў Уладзімір Пуцін перакроіў карту Еўропы, распаліў вайну ў суседняй суверэннай дзяржаве і вёў прапагандысцкую кампанію, у значнай ступені накіраваную супраць Захаду, якой яшчэ не было з моманту заканчэння халоднай вайны. Захад у асноўным пакідаў усё як ёсць. У святле таго, што адбылося, такі падыход больш не з'яўляецца прыдатным спосабам весці справы з амаральнай, архаічнай і жорсткай пуцінскай Расіяй», — адзначае «The Telegraph».

Яшчэ больш катэгарычная рэдакцыя «Financial Times»: «Для Пуціна надышоў момант ісціны. У апошнія гады Уладзімір Пуцін, прэзідэнт Расіі, быў неканструктыўным гульцом на сусветнай сцэне, сумна вядомым сваёй падтрымкай жорсткага рэжыму Асада ў Сірыі і анексіяй Крыму. Аднак тое, як ён будзе дзейнічаць пасля таго, як над Украінай быў збіты малаазійскі авіялайнер, верагодна, унясе самы вялікі ўклад у тое, у якім выглядзе замацуецца яго міжнародная рэпутацыя. Можа, гэтая жудасная трагедыя, якая забрала жыцці 298 нявінных людзей, пераканае лідара Крамля згарнуць крывавыя паўстанцкія дзеянні на ўсходзе Украіны, якія ён падсілкоўваў, таемна пастаўляючы ўзбраенне прарасійскі настроеным мяцежнікам, якія змагаюцца з кіеўскім урадам».

Але вялікіх надзей на тое, што Пуцін зменіць свой курс няма. «New York Times» піша: «Відавочна, што яго (Пуціна) асабістая і цынічная мэта — пакараць Украіну і прычыніць ёй шкоду. Пуцін і тыя, хто яго падтрымлівае, падобна, няздольныя зразумець, што яго мадэль кіравання, з уласцівымі ёй кумаўством, карупцыяй і запалохваннем, — не тое, да чаго імкнуцца былыя савецкія рэспублікі. Расійскія лідары не дапускаюць, што гэта не ЦРУ прымусіла многіх украінцаў імкнуцца на Захад».

З гэтым згодны французскі «Express». «Цяжка ўявіць, што расійскі прэзідэнт прызнае хоць бы малую віну за катастрофу «Boeing» «Малайзійскіх авіяліній», — мяркуе выданне, і тлумачыць гэта так: «Каб выратаваць свой аўтарытэт унутры краіны, у Пуціна няма іншага выбару, як прымусіць свой народ верыць у новую віртуальную рэальнасць, у міжнародную змову, скіраваную на тое, каб затармазіць Расію ў яе маршы да веліччы».

Як следства, узнікае пытанне — што рабіць з Пуціным? Большасць СМІ падзяляюць пазіцыю газеты «The Sunday Times»: «Пуцін зменіцца толькі пад уздзеяннем знешняга ціску». Гэта і іншыя выданні ахвотна ўзгадваюць, якія наступствы меў паветраны тэракт для Кадафі, які, як лічаць, нясе адказнасць за арганізацыю выбуху ў 1988 годзе амерыканскага самалёта над Локербі. Гэта каштавала Трыпалі жорсткіх санкцый, і нават налётаў амерыканска-брытанскай авіяцыі.

Да абмеркавання авіяналётаў справа не дайшла, а вось пра санкцыі і іх магчымы эфект у дачыненні да Расіі пішуць шмат. «Калі заходнія краіны будуць паслядоўнымі, яны прымуць рашэнне аб жорсткіх санкцыях супраць Масквы, якія сапраўды паралізуюць расійскую эканоміку, гэта стане пачаткам франтальнага ўдару і пачаткам новай стратэгічнай эры ў Еўропе», — заключае французскае выданне «Le Nouvel Observateur».

Прапануецца шмат форм ціску на Маскву — ад абвяшчэння ў Лондане персонамі нон-грата ўсіх расійскіх алігархаў (чамусьці яны вельмі любяць жыць у горадзе на Тэмзе) да стварэння новай энергетычнай кампаніі, якая б пастаўляла ў Еўропу расійскі газ. Цікавая прапанова прагучала ад брытанскага выдання «The Observer». Газета піша, што антырасійскія санкцыі будуць прадуктыўнымі выключна ў тым выпадку, калі Кіеў адначасова пачне дэманстраваць поспехі ў барацьбе карупцыяй. У сувязі з гэтым прапануецца ўвесці санкцыі не толькі супраць расійскіх, аднак і супраць украінскіх чыноўнікаў.

Еўрапалітыкі пакуль дастаткова асцярожныя. Пакет санкцый, які быў прыняты 22 ліпеня на сустрэчы міністраў замежных спраў краін ЕС, большасць СМІ называюць «талерантным». «Financial Times» канстатуе: «Разлад у ЕС паставіў крыж на новых санкцыях супраць Расіі». Незадаволеная і газета «The New York Times», якая піша: «На фоне нерашучых дзеянняў Еўрасаюза ў дачыненні да прыняцця новых санкцый супраць Расіі многія ва Украіне лічаць, што ў Еўропе займаюцца пустой балбатнёй».

Некаторыя выданні лічаць рашэнне міністраў слушным, паколькі яно не зачыняе дзверы для перамоваў. «Замест таго, каб даць нагоду для новага гвалту, трэба шукаць падставу для спынення агню і аднаўлення перамоў. Любая спроба Захаду або Усходу навязаць сваю волю дэстабілізуе Украіну. Пытанне цяпер у тым, як рухацца да мірнага ўрэгулявання, якое захавае Украіну адзінай і незалежнай. Гэта, безумоўна, патрабуе ад Злучаных Штатаў, іх еўрапейскіх саюзнікаў і рускіх арганізаваць перамовы паміж украінскім урадам і прадстаўнікамі ўсходняга рэгіёну для стварэння федэратыўнага або дэцэнтралізаванага дзяржаўнага аб'яднання», — мяркуе «Wachinton Post».

Гісторыя з малаазійскім самалётам стала падзеяй, якая мяняе ў заходняй свядомасці канцэптуальнае разуменне канфлікту. Як піша «The Wall Street Journal»: «Да крушэння амаль увесь свет намагаўся заплюшчыць вочы на расійскія злачынствы і хлусню на Украіне. Крушэнне MH-17 і яго наступствы даюць палітычным лідарам у Еўропе і ЗША шанец распавесці сваім народам пра тое, якім рэжымам кіруе Пуцін, і растлумачыць, што варта зрабіць, каб стрымаць яго, пакуль ён не пачне пагражаць большай колькасці людзей».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сі Цзыньпін



Старшыня КНР напісаў тэкст, на яго базе арганізацыйны аддзел Кампартыі Кітая (КПК) склаў інструкцыю, апублікаваную газетай «Сіньхуа» — цэнтральным партыйным органам. Інструкцыюназіральнікі параўноўваюць са славутым тэкстам літаратурнага крытыка Яо Вэньюаня пра п'есу «Разжалаванне Хай Жуя», якая выйшла ў свет зімой 1965 года. Лічыцца, што менавіта той тэкст даў старт культурнай рэвалюцыі, а дакладней, грандыёзнай кадравай чыстцы сярод чыноўнікаў і апаратчыкаў. Быццам, задумаў «агонь па штабах» і Сі Цзыньпін, які лічыць, што гэта адзіны сродак знішчыць гідру карупцыі ў партыйных установах. Чыстка будзе праходзіць пад соусам пагалоўнага перанавучання функцыянераў ідэям Маркса-Леніа-Мао. Паўторнае знаёмства са спадчынай класікаў, якія піша кітайскі лідар, як ніколі актуальна. «Ад таго, захаваюць чыноўнікі вернасць камуністычным перакананням або стануць на шлях маральнага заняпаду, залежыць лёс КПК і дзяржавы», — гаворыцца ў дакуменце. На думку экспертаў, шмат хто з 86 мільёнаў сяброў КПК не пройдзе курсы і будзе вымушаны пакласці партбілет. Праўда, наўрад ці камуністаў, якія кантралююць усе сегменты эканомікі і палітыкі, у Кітаі стане менш. Толькі ў мінулым годзе ў кітайскую Кампартыю запісалася паўтара мільёны неафітаў.

### Бідзіна Іванішвілі



Экс-прэм'ер Грузіі, мільярдэр, нефармальны кіраўнік краіны (усе міністры і прэзідэнт з'яўляюцца сябрамі ягонай партыі «Грузінская мара») нечакана заявіў пра намер весці грамадска-пазнавальнае шоў на мясцовым канале GDS. Праект стартуе ў кастрычніку. Ужо вядома, што дапамагаць новай тэлезорцы будзе адна з папулярных грузінскіх журналістак. Цяпер шмат хто ў Грузіі ламае галаву, нашто Бідзіне кар'ера тэлевядучага? У гэтай сферы Іванішвілі яшчэ не працаваў, а ў палітыцы, падаецца, дабіўся ўсяго, што мог. Нядаўна «Грузінская мара» перамагла на выбарах мэра сталіцы і канчаткова выціснула канкурэнтаў з партыі «Нацыянальны рух» у апазіцыю. Самае цікавае, што выключна з-за таго, што ў сетцы праграм каналу з'явіцца шоў Іванішвілі ўвесь канал зменіць фармат (зараз GDS — гэта тэлебачанне для прыхільнікаў музыкі і забаўляльных шоў). Дарэчы, уладальнікам GDS з'яўляецца сын Бідзіны.

### Нік Грыфін



Палітык сышоў з кіраўніцтва Брытанскай нацыянальнай партыі (BNP) — самай буйной партыйнай арганізацыі правых радыкалаў у Вялікабрытаніі. Непасрэднай прычынай адстаўкі журналісты лічаць вынікі апошніх выбараў. У маі на выбарах у Еўрапарламент партыя атрымала ўсяго 2 працэнты, што, акрамя іншага, каштавала Грыфіну мандата еўрадэпутата. Адначасова BNP з трэскам праляцела на муніцыпальных выбарах, страціўшы 46 з 48 месцаў у мясцовых органах кіравання. І ўсё гэта здарылася на фоне росту ў краіне ксенафобскіх і антыеўрапескіх настрояў, чым, праўда, карыстаюцца не нацыяналісты, а папулісцкая Партыя незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (UKIP). UKIP, паводле апошніх апытанняў, можа нават займець другую па колькасці сяброў фракцыю ў будучым парламенце. Сыход Грыфіна з пасады старшыні BNP, якую ён займаў 15 гадоў, — гістарычная падзея для брытанскага правага радыкалізму. Грыфін як выпускнік Кембрыджу намагаўся надаць нацыяналістам рэспэктабельнасць. У 2002 годзе за яго партыю прагаласавала 500 тысяч выбаршчыкаў, што з'яўлецца абсалютным рэкордам для правых радыкалаў. Аднак утрымаць поспех Грыфін не здолеў. Яго сыход значыць канец гульням у саліднасць. Хутчэй за ўсё, партыя вернецца да экстрэмісцкіх вытокаў, пра што лепш за ўсё кажа профіль яе новага лідара Адама Уолкера, які ўмоўна асуджаны за збіццё падлеткаў, у якіх ён у дадатак скраў ровар.

# Мамзэлі і сутэнёры Заходняй Беларусі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Пасля верасня 1939 года супрацоўнікі НКУС вывезлі з Заходняй Беларусі на ўскрайкі СССР немалую колькасць прастытутак. Але пачыналася ўсё значна раней.**

## Варшаўскія бардэлі

Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны большасць насельніцтва ІІ Рэчы Паспалітай знаходзілася ў цяжкім эканамічным становішчы. Асабліва гэта тычылася Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Гэта спрыяла, у тым ліку, і распаўсюджанню крыміналу і прастытуцыі.

Сапраўдным цэнтрам «вольнага кахання» стала сталіца краіны — Варшава. Як вынік таго, што ў горадзе на Вісле знаходзіўся вялікі гарнізон кайзераўскіх войскаў. Здымаць стрэс франтавых выпрабаванняў жаўнеры прызвычаіліся ў тылавых варшаўскіх бардэлях.

Менавіта «прафесіяналкі» часоў Вялікай вайны, а таксама іх сутэнёры сталі ў пачатках стварэння сферы сэксуальных паслуг незалежнай Польшчы. Варшаўскія публічныя дамы размяшчаліся на вуліцах Пенкнай, Маршалкоўскай, Хмельнай, Жэлязнай. Аднак хутка ў гэты бізнэс прыйшлі новыя людзі, якія «гандаль жывым таварам» паставілі на паток.

## «Гешэфт» на прастытутках

Яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя яўрэйскія эмігранты з польскіх тэрыторый стварылі ў Аргенціне арганізацыю «Civ Migdal», праз якую ажыццяўлялі вываз на працу маладых дзяўчат яўрэйскай нацыянальнасці з тэрыторыі Расійскай імперыі, у тым ліку і з беларускіх губерняў. Тады ў публічных дамах Буэнас-Айрэса апынулася каля 30 тысяч жанчын «з Расіі».

Актыўнасць сутэнёраў з Еўропы выклікала супраціў мясцовага крыміналітэту, аднак скінуць прышлых гандляроў прастытуткамі ў іх не атрымалася. Больш таго, з цягам часу «польскія» бізнэсмэны адкрылі свае бардэлі ў Рыа-дэ-Жанейра, Сан-Паўлу, Нью-Ёрку і іншых гарадах. Па падліках паліцыі, даход ад публічных дамоў прынёс «Civ Migdal» каля 50 мільёнаў тагачасных амерыканскіх долараў.

Пасля атрымання Польшчай незалежнасці бізнэсмэны працягвалі вывозіць маладых дзяўчат у «новы свет». Яны бязлітасна распраўляліся з канкурэнтамі. Так, гаспадар аднаго з варшаўскіх публічных дамоў паспрабаваў наладзіць адпраўку жывога тавару ў бардэлі Мексікі. Дзяўчат ён атрымліваў пераважна з ваколіц Навагрудка. Калі пра гэта даведаліся сутэнёры з Аргенціны, яны хутка злілі канкурэнта польскай крымінальнай паліцыі.


1930-я гады. Заходняя Беларусь. У адным з рэстаранаў


Польскія жанчыны-паліцэйскія, 1930 гады

Зрэшты, у 1930 годзе правасуддзе дабралася і да «Civ Migdal». Інспектар федэральнай паліцыі Буэнас-Айрэса Хуліа Алсогарай накрыў усю вярхушку гэтай арганізацыі. У верасні таго ж года аргенцінскі суд прысудзіў 108 чалавек да вялікіх тэрмінаў зняволення.

## Амерыканскі консул-сутэнёр

На пачатку 1930 гадоў у адным з варшаўскіх гатэляў паліцэйскія арыштавалі грамадзяніна ЗША Маўрыцыя Баскіра. Пры ператрусе ў яго нумары былі знойдзены дзясяткі лістоў ад жанчын, да якіх былі далучаны здымкі ў негліжэ. Брэст, Вільня, Львоў, Познань, Лодзь — па адрасах гэтых пасланняў можна было вывучаць геаграфію міжваеннай Польшчы.

Але не паспелі паліцэйскія завезці Баскіра ў следчы ізалятар, як на стале начальніка паліцыі ўжо ляжаў ліст ад віцэ-консула Злучаных Штатаў Гары Хола, у якім той патрабаваў вызваліць арыштаванага і пагражаў дыпламатычным скандалам. Аднак пракурор з Нясвіжу, адкуль паходзіў арыштаваны амерыканец, не толькі не спужаўся пагроз з боку дыпламата, але і запатрабаваў выдаць з консульства пашпарты трох жыхарак Навагрудскага ваяводства, якім Баскір дапамагаў аформіць візы для выезду ў ЗША.

Хутка на адным з допытаў арыштаваны прызнаўся, што ён афармляў фіктыўныя шлюбы з маладымі грамадзянкамі ІІ Рэчы Паспалітай і вывозіў іх за акіян для працы ў публічных дамах. Паліцэйскім удалося выявіць, што амерыканец паспеў ажаніцца на 200 дзяўчынах.

Праз некаторы час дзяржаўная паліцыя затрымала злачынцу, пры якім было некалькі пашпартоў з амерыканскімі візамі за подпісам консула Гары Хола. За ім усталявалі нагляд. Аказалася, што ў Польшчу той прыехаў у 1920 годзе з місіяй Чырвонага крыжа, пазней працаваў консулам ЗША ў Рызе. Там ён пазнаёміўся з будучым кампаньёнам па крымінальным бізнэсе Маўрыцыем Баскірам.

З таго часу яны пачалі зарабляць адпраўкай дзяўчат у сэксуальнае рабства за акіян. Дарэчы, амерыканскі дыпламат падрабіў дакументы, дапамог падзельніку збегчы з польскай турмы і выехаць у Злучаныя Штаты. Пасля гэтага сам Хол таксама з'ехаў. Аднак польскія ўлады перадалі назбіраны супраць злачынцаў матэрыял амерыканскай паліцыі, і праз некаторы час абодва апынуліся ўжо ў амерыканскай турме.

## Спецыяльная брыгада

Для барацьбы з прастытуцыяй у Варшаве была створана спецыяльная брыгада Следчага аддзялення Дзяржаўнай паліцыі. Узначальвала брыгаду лейтэнант Станіслава Палеалог.

Брыгадзе ўдалося знішчыць 19 публічных дамоў, арыштаваць 55 буйных сутэнёраў. Адным з іх быў гаспадар двух буйных варшаўскіх бардэляў Ізраіль Мосак. Спачатку ён ездзіў па розных мястэчках Заходняй Беларусі і шукаў дзяўчат «для працы ў сталіцы». Справы пайшлі ўгару, і ён стаў пастаўляць прастытутак у публічныя дамы Пінска і Навагрудка. Гэта яго і згубіла. Калі з гораду на Піне ў Варшаву прыехаў чарговы кур'ер за новым таварам, паліцыя арыштавала ўсіх на месцы злачынства.

Яшчэ адным буйным варшаўскім сутэнёрам быў Архіп Калашнікаў. Акрамя гандлю дзяўчатамі, ён падпрацоўваў вышыбалам у адным з бардэляў. Пасля таго, калі ён на кароткі час трапіў пад следства, яго дзяўчаты паспрабавалі вызваліцца з няволі. Адна нават выйшла замуж. Але калі Архіп выйшаў з турмы, то жорстка збіў былую прастытутку, за што зноў на тры гады апынуўся ў за кратамі.

Працу польскіх бардэляў кантраляваў так званы «сутэнёрскі суд», на чале якога стаяў Іцэк Кіфер. Гэта быў вельмі багаты чалавек, якому належаў рэстаран і дарагая кватэра ў цэнтры Варшавы. Два яго сыны таксама займаліся сутэнёрствам. Прастытуткі мелі права звярнуцца са скаргай у гэты суд, які прымаў рашэнне пакараць сутэнёра, якому належала жанчына, ці перадаць прастытутку іншаму гаспадару. Да таго ж суд змагаўся супраць канкурэнтаў, якіх проста здавалі паліцыі. Усяго ў 1930-я гады ў Варшаве працавала каля 25 тысяч прастытутак, сярод якіх было нямала і ўраджэнак Заходняй Беларусі. Іх працу кантралявала сем тысяч сутэнёраў.

## Дэталі порнаіндустрыі

Сярод путан існавала свая градацыя. Напрыклад, «мамзелямі» называлі найбольш танных дзяўчын з правінцыі, а «ваўчыцамі» — жанчын, якія «палявалі» на мужчын ля вайсковых казармаў. Большасць з прастытутак былі з бедных сямей, часта непісьменныя.

Аднак былі і выключэнні. У 1936 годзе ў Варшаве за злачынства судзілі княжну Ірыну Трубяцкую, якая была… гаспадыняй аднаго з варшаўскіх бардэляў. У яе «доме цярпімасці» працавалі дзяўчыны з багатых польскіх сямей. Гэта былі тыя, каму было сумна, яны шукалі нечага новага, якіх-небудзь прыгод, хаця б сэксуальных. Урэшце элітны бардэль закрыла паліцыя, а руская графіня атрымала два гады турмы.

Звычайна кар'ера путаны пачыналася ў 16 гадоў, праз пяць-восем год яе выцяснялі больш маладыя. Пасля гэтага жанчыны або змянялі сферу дзейнасці, або іх прадавалі ў бардэлі на перыферыі.

Кошт гадзіны працы прастытуткі складаў каля 1,5 злотага (за гэтыя грошы можна было набыць пяць кілаграмаў селядца, тры кілаграмы цыбулі, кілаграм ялавічыны з косткай, або двойчы паабедаць у танным рэстаране). З гэтай сумы злоты ішоў сутэнёру, астатняе — жанчыне. Большая частка прастытутак хварэла на сіфіліс і іншыя венерычныя захворванні, шмат з іх скончалі жыццё самагубствам. Дапамагаць путанам спрабавалі розныя рэлігійныя і дабрачынныя арганізацыі, але сітуацыі гэта не змяніла.

У Варшаве існавала некалькі падпольных фотаатэлье, якія выраблялі порнапрадукцыю, якую распаўсюджваліся па ўсёй тэрыторыі ІІ Рэчы Паспалітай. Так, у 1936 годзе вучняў адной з гімназій Гродна схапілі ў той момант, калі тыя разглядалі фатаздымкі, прывезеныя са сталіцы, для канспірацыі ўклееныя ў афіцыйны маладзёвы часопіс. Дарэчы, гэтыя фатаздымкі сёння можна сустрэць на шматлікіх інтэрнэт-аўкцыёнах.

У верасні 1939 года НКУС і міліцыя, акрамя іншага, узяліся і за барацьбу з прастытуцыяй на далучаных тэрыторыях. Жанчыны лёгкіх паводзін падлягалі вывазу ў аддаленыя раёны Савецкага Саюза. Пасля 1945 года новыя камуністычныя ўлады Польшчы таксама ўзяліся за ліквідацыю прастытуцыі, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.


Дзяўчыны ў бялізне, Варшава 1930 гады



У будуары

Успаміны

# Тры гады ў Смаргонях



Арсень ЛІС

**Да лета 1948-га я заканчваў сёмы клас Залескай школы. Трэба было думаць, куды падацца вучыцца далей. Мае аднакласніцы-дзяўчаты, у тым ліку стрыечная сястра Маня Дудка, кіраваліся ў Ашмянскае педвучылішча. Прафесія настаўніка была тады ці не самая жаданая, папулярная ў нас. Я ж падумваў пра тое, каб атрымаць агульную сярэднюю адукацыю. Дзесяцігодка на той час была толькі адна на ўвесь раён — у Смаргонях. Там вучыўся ўжо старэйшы за мяне Сяргей Гісіч з суседняга ад Вётхава Алянца. Сустрэўшы Сяргея летам на Сухіх, дзе ён завіхаўся з касой на сенажаці свайго дзеда, даведаўся я, што і як там у Смаргонскай школе.**

Тым часам прайшлі чуткі, што адкрываецца дзесяцігодка і ў Крэве. Пагаварвалі, што ў Смаргонях могуць і не прыняць: там набіраецца зашмат вучняў і будуць скіроўваць негараджанаў у новаадкрытую Крэўскую школу. А да Крэва нам адно што далекавата, а, па-другое, і дабірацца туды нязручна. Не тое, што ў Смаргоні: сеў на прыгарадны цягнік — і праз нейкіх 15–20 хвілін там.

У сувязі з узніклай сітуацыяй мой дзейны бацька вырашыў прасцей уладзіць справу з далейшым навучаннем сына. Параіўшыся з суседам-настаўнікам, ён напісаў заяву на імя міністра асветы Платона Саевіча, каб у Залессі адкрылі школу-дзесяцігодку. Канешне, наіўна было спадзявацца, што такая задумка ўраз можа здзейсніцца. Але бацька неадкладна павёз заяву ад залесьчан у Мінск. Маўляў, а што? Адкрылі ў Крэве, а чаму не зрабіць такое на станцыі Залессе, на прамым чыгуначным шляху паміж Маладзечнам — Смаргонямі — Вільняй?

Наша з бацькам хадайніцтва перад асветным міністрам заставалася без адказу, і я мусіў, каб не ўпусціць час, пашыбаваць у Смаргоні. Натуральна, былі сумненні, не хацелася быць скіраваным у Крэва. А тым часам мая насцярога, прымуць ці скіруюць у Крэва, была дарэмнай. Проста перад настаўніцкай мяне пераняла педагог-інспектар Каўфман. Вясною яна наведвалася да нас, у Залессе, на выпускныя экзамены. Была якраз на іспыце па канстытуцыі. Тады мы здавалі на экзаменах ледзь не ўсе прадметы. Пры адказах на пытанні інспектара мне давялося старацца ледзь не за ўвесь клас. Справа ў тым, што з сямікласнікаў яшчэ мала хто стала цікавіцца газетай. Тым больш газетай для дарослых. Мой бацька на той час выпісваў «Советскую Белоруссию», і я з большага дзякуючы ёй арыентаваўся ў так званай бягучай палітыцы. Прынамсі, ведаў, хто такія бязродныя касмапаліты ды яшчэ сякія-такія тагачасныя грамадска-палітычныя рэаліі, факты. Цяпер знаёмы мне інспектар проста ўзяла мяне за руку і, адвёўшы да школьнага сакратара, сказала: «Запишите мальчика в восьмой класс». Прытым дадала штосьці ухвальнае пра хлопца-старанніка. Не памятаю, ці паспеў падзякаваць нечаканай сваёй апякунцы. Зараз жа скіраваўся на цяснаватае школьнае падвор'е, далучыўся да хлапчукоў, што бавіліся на спортпляцоўцы. Між тым, нельга было не заўважыць на ўзвышэнні край пляцоўкі, як з бюста, пафарбаванага на серабрыста-шэра, на ўсіх самавіта і строга глядзеў сам Сталін.

Да ад'езду дахаты ў мяне заставалася яшчэ ладна часу. Прыгарадны «Маладзечна—Гудагай» хадзіў тады двойчы на дзень — з раніцы і вечарам. Маючы лішак часу, я скарыстаў, каб збольшага агледзецца на новым месцы. Цагляны школьны будынак наш стаяў нібы апушчаны ў нізіну. Як разгледзіўся пазней, то знаходзіўся ён быццам у пойме рэчкі. Яна даўней, мабыць, была нашмат шырэйшая: праклала тут нешта накшталт даліны. Праз дарогу ад школы зямны дол брыўся, уздымаўся вышэй. На ім за масіўнай каменнай агароджай узвышаліся муры старадаўняй святыні-харомiны. Касцёл, вядома, быў зачынены. На яго прасторным дзядзінцы мы адбывалі некаторыя свае праграмныя фізкультурныя практыкаванні, фатаграфаваліся ўсім класам на памяць. Праз гады даведаўся, што наш Смаргонскі касцёл будаваўся аж у XV стагоддзі магнатам Юрыем Зяновічам як кальвінскі збор.



Арсень Ліс (трэці злева ў першым шэрагу) у сёмым класе Залескай школы

Ад школы да гарадскога цэнтра было — рукой падаць. Ён быў трохі далей сённяшняга, з яго прасторнай плошчай перад новаўзведзеным будынкам уладна-адміністрацыйнай раённай вертыкалі ды помнікам Леніну. Той, ранейшы, тварыўся адмысловымі гандлёвымі будынкамі з цёмна-чырвонай цэглы ды брукаванкай паміж імі.

Далей быў сціплы акуратны будынак даваеннага часу з невялікай пляцоўкай перад ім. У ім знаходзіўся райком партыі, а ў сутарэннях — друкарня раённай газеты.

Леваруч, дамінуючы над усім, што было побач, узвышаўся праваслаўны сабор з невысокай каменнай агароджай, традыцыйнай брамай з прыбрамкамі. Адрамантаваўшы званіцу, пашкоджаную снарадам у вайну, службу ў ім праводзіў самавіты з выгляду святар, бацька будучага беларускага славутага харавога дырыжора Віктара Роўбы.

Ад цэнтра, ззаду за саборам спускалася ўніз, у прырэчную лагчыну, вуліца, на якой мне выпала жыць тры гады. Пазней яна, як тое адбылося з Крэўскай, Віленскай, Зарэчнай, Святлянскай, што атрымалі персанальныя імёны, была перайменавана, назвалася імя Кірава. А ў маю школьную бытнасць у Смаргонях яна афіцыйна яшчэ звалася Крывой. Пэўна, згодна са сваёй, так бы мовіць, канфігурацыяй — пакручастасцю. На пачатку яе некалькі мураваных дамоў ляжала ў друзе. Казалі, што тыя камяніцы пры царах ды за палякамі належалі купцам. Відаць, такі так і было, бо час ад часу там можна было заўважыць чалавека, другога, што хадзілі па руінах, поркаючы дроцікам дол. Мабыць, спадзяваліся натрапіць на схаваныя грошы — шукалі золата.

Бацька наняў мне кватэру ў той частцы Крывой, дзе яна, перасекшыся з Святлянскай, паднялася з лагчыны ўгору.

Дом маіх гаспадароў-месцічаў знадворку выглядаў ніштавата: стаяў на высокай падмуроўцы, крыты гонтай, чатырма вокнамі глядзеў на свет — усход і поўдзень. Падвор'е меў невялікае, абнесенае невысокім плотам са штыкецін, з невысокімі кустамі бэзу пры ім ад вуліцы ды паветкай на заднім плане. Унутры дзяліўся на тры пакоі, самы большы, з чырвоным кутам, увесь увешаны абразамі, быў аддадзены кватаранту, мне.

Гаспадар, рослы, мажнаваты мужчына гадоў сарака пяці, пан Альберт, працаваў майстрам на электрастанцыі. У Смаргоні трапіў яшчэ да вайны як адмысловец у галіне электрычнасці. Выхадзец з Польшчы, гаспадар выслаўляўся звычайна пальшчызнай з міжвольным дамешкам беларускіх ды рускіх слоў. Асабліва пасля сустрэч з Бахусам, якія здараліся нярэдка. Мне часам цікава было слухаць іранічныя дыялогі яго з жонкаю, званаю Анцяй.

У гаспадара падчас іх з жонкаю сумоўя самым важкім аргументам быў адзін: «Пан Альберт ве, цо робі». У перакладзе: «Пан Альбет ведае, што робіць». Дарэчы, панам Анця свайго сужэнца ніколі не называла, не пры звычайнай размове, ні ў спрэчках. Была з простых местачкоўцаў.

***

Я напачатку распавёў усё пра сваіх гаспадароў, у якіх кватараваў падлеткам. А як запачуўся тады, гадоў 65 таму, у новай для сябе Смаргонскай школе? Ужо ў залескай сваёй сямігодцы, мабыць, падсвядома зарыентаваўся на самыя цікавыя для сябе прадметы, урокі. Такімі былі літаратура, гісторыя ды геаграфія (фізічная). І ў Смаргонях менавіта ад настаўнікаў-выкладчыкаў улюбёных прадметаў чакаў новага, цікавага для сябе. Адразу ўдалося прыдбаць некалькі падручнікаў, новых і ўжо ўжываных да мяне. У падручніку па беларускай літаратуры ўразілі адразу Коласавы словы:

*«Не пытайце, не прасеце*
*Светлых песень у мяне.*
*Бо як песню заспяваю,*
*Сум вам душу скалане...»*

А ў пачатку раздзела, прысвечанага Дуніну-Марцінкевічу, з неўразуменнем наткнуўся на выразана выпісанае алоўкам слова «рэакцыянер». Пазнака, відаць, засноўвалася на словах выкладчыка.

У Жоры Лазара, з якім сядзеў за адной партай, аднаго разу ўбачыў стары падручнік па беларускай літаратуры пад назваю «Хрыстаматыя беларускае латэратуры» XI век — 1905 год», выдадзены ў Вільні ў 1922 годзе. Жора тую кніжку толькі паказаў, пахваліўся, болей не прыносіў. Бацька яго быў настаўнікам пры паляках. У той «Хрэстаматы» мяне ўразіў, запомніўся на ўсё жыццё партрэт чалавека ў сярэднявечнай апратцы.

Уразіў, як цяпер разумею, незвычайнасцю строю самога ўбранства, строгага, закрытага і ў адначассі прыгожага. Пад партрэтам было адбіта старапісьнымі літарамі «Васіль Цяпінскі».

Пазней, у падручніках па гісторыі сярэднявечнай Еўропы, натуральна, бачыў выявы такога ўбранства. Але яно ніколі не ўражвала, як тое здарылася ў мяне з партрэтам-гравюрай Васіля Цяпінскага. Мяне і на старасці год не пакінула захапленне ад постаці гэтага дзеяча беларускай рэфармацыі. Вядома, пасля таго, як уведаў пра яго жыццё, літаратурны чын.

Дазнаўшыся пра не пазбаўленае драматызму жыццё Васіля Цяпінскага, яго творчую спадчыну, не раз уяўляў, як ён пры нагодзе ехаў на санках, перавозячы ў іх сваю невялікую друкарню. Сам перакладаў і сам набіраў Евангелле. Згадваліся яго словы, якім нельга было не даць веры, калі казаў: «...Народу майму з убогае маентнасці свае ўслугуючы».




Васіль Цяпінскі. Той самы партрэт, які так уразіў васьмікласніка Арсеня Ліса

Працяг будзе

# Культура мовы

**Гэты ліст мы атрымалі ад аднаго з нашых сталых чытачоў з Талачына і вырашылі пазнаёміць з яго зместам усіх. Магчыма, хтосьці і не пагодзіцца з меркаваннем Анатоля Шнэйдара, калі ласка, запрашаем да дыскусіі на нашым сайце novychas.info 30 ліпеня.**

*Анатолій ШНЭЙДАР, ТАЛАЧЫН*




Больш за ўсё абыякавасці, непаважлівых адносін да вуснай мовы ў тэле- і радыёэлектронных сродках масавай інфармацыі. Моўная бездапаможнасць асобных журналістаў здзіўляе.

У свеце ўсё больш актыўна працягваецца тэндэнцыя да адстойвання сваёй цывілізаванай ідэнтыфікацыі, менталітэту. Як вядома, нацыянальная мова складаецца на аснове мовы народнасці ў працэсе яе развіцця ў нацыю. А паняцце «нацыя» — гэта наяўнасць агульнай тэрыторыі, эканомікі, мовы і літаратуры, асаблівасцей культуры і характару. Адсутнасць хаця б адной з пералічаных адзнак парушае паняцце «нацыя».

На жаль, на гэтую акалічнасць не звяртаецца належнай увагі. Як і ў суседняй Расіі, у нас яшчэ працягваюцца абыякавыя адносіны да роднага слова. У сучасным беларускім грамадстве назіраецца больш чым парадаксальная сітуацыя. Паслядоўна і пастаянна выкарыстоўваемых адзіных норм і ў арфаграфіі, і ў лексіцы, і ў марфалогіі ў нас да апошняга часу не было. У гэтым сэнсе Беларусь з'яўлялася больш чым унікальнай дзяржавай у Еўропе і свеце.

У Францыі парушэнне норм роднай мовы, выкарыстанне іншамоўных слоў, тым больш скажоных, недакладна перакладзеных, напісаных або вымаўленых, караецца вялікімі грашовымі штрафамі. Сёння ў нас допускаецца ўжыванне трох варыянтаў беларускай мовы... Зараз выпушчаны новыя слоўнікі, у якіх улічаны змяненні апошняй моўнай рэформы ў рэспубліцы.

Асабліва небяспечна, калі ў мове адбываюцца значныя метамарфозы за кошт замены беларускіх слоў этымалагічна блізкімі паланізмамі або назіраецца бяздумнае выкарыстанне англіцызмаў, нязграбных перакладаў з іншаземных моў (пры наяўнасці агульнаўжывальных аналагаў!). Усё гэта абарочваецца стратай выразнасці, сакавітасці роднай мовы, падзеннем пісьменнасці, дакладнасці паняццяў.

Больш за ўсё абыякавасці, непаважлівых адносін да вуснай мовы ў тэле- і радыёэлектронных сродках масавай інфармацыі. Хаця за апошнія гады пісьменнасць, прафесійны ўзровень тэле- і радыёперадач стаў больш высокім, але па-ранейшаму моўная бездапаможнасць асобных журналістаў здзіўляе.

**Кажуць, у мове душа народа. А на справе атрымліваецца ні мовы, ні душы, ні народа. Адна «трасянка»**

Скажам, ідзе рэпартаж з месца падзеі. Вядучы запамятаваў патрэбнае беларускае слова, тут жа вымаўляе яго на рускай мове, і як бы нічога не здарылася, працягвае размову. І атрымліваюцца такія «шэдэўры»: «выказаў надежду», «найбольш апасныя аб'екты» і г. д. Як бы дамовіўшыся, многія журналісты перайшлі на такія канчаткі: «два мільён(а)», «два чалавек(а)», «чатыры метр(а)», «абараняў варот(а)», «тры дзесятк(а)», «на выдзеленым участк(і)», «сход праходзіў у дух(і)», «зараз вашай ува(гі) будзе прапанавана», «у рэспублік(і)», «забіў гол у сва(і) варот(а)», «на значнай част(кі)» замест «у рэспубліцы», «на значнай частцы».

Насуперак правілам граматыкі часта не схіляюцца лічэбнікі, робіцца памылкі ў канчатках слоў, якія абазначаюць долі працэнта: «5,3 працэнт(аў)» замест «працэнта». Часта робіцца няправільны націск у словах «вып(а)дак», «в(а)лавы прадукт», «кв(а)ртал», «адз(і)наццаць». Часам беларускія словы вымаўляюцца як «мінчяне», «бабруйчяне», «учёра» і г. д.

Цікавыя метамарфозы адбываюцца пры вымаўленні слова «дождж». Можна пачуць «ішлі дажді», «ішоў дож» або «дош». Не звяртаецца ўвагі на немілагучныя спалучэнні, якія ўтвараюцца ад канчатка папярэдняга і пачатка наступнага слова, кшталту «ужо пайшлі», «ужо пустуе», «ужо перайшлі».

Адна з вядучых радыё невядома на якой мове вымаўляе сваё імя — Марыянна. У беларускай мове ёсць такое імя, але яно вымаўляецца і пішацца Мар'яна з адным «Н».

Кажуць, у мове душа народа. А на справе атрымліваецца ні мовы, ні душы, ні народа. Адна «трасянка». Ад памылак ніхто не абаронены. Іх не робіць толькі той, хто не працуе. Але ж справа заключаецца ў тым, каб умець выпраўляць зробленыя раней памылкі і не паўтараць іх больш.

Гадоў дзесяць таму ліст на гэтую тэму я даслаў у газету «Советская Белоруссия», але там, відаць, палічылі, што такая «дробязь» не заслугоўвае публікацыі на старонках прэзідэнцкай газеты, і пераслалі пісьмо ў Камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні, адкуль аўтар нават адказу не атрымаў.

Шмат часу прайшло з той пары. Шмат кіраўнікоў камітэта змянілася, а ў эфіры з перадачы ў перадачу, з году ў год «гучаць» адны і тыя ж памылкі і па сённяшні дзень. Адсюль вынікае, што сапраўды гэта пытанне нікога не хвалюе, передачы не аналізуюцца і нічога не робіцца па выпраўленні становішча з боку зацікаўленых службаў і ўстаноў.

Відаць, патрабуецца перагляд работы ВНУ, якія займаюцца падрыхтоўкай журналісцкіх кадраў рэспублікі. Няўжо на самай справе, як пісала ў адным з сваіх артыкулаў Е. Дубінская, «…времена, когда культура была по-настоящему востребована телевидением и телезрителем, остались в прошлом». Але ж па сутнасці тэлебачанне і радыё павінны быць сапраўднымі «заканадаўцамі», прапагандыстамі этыкі і культуры роднай мовы.

Бернард Шоў сцвярджаў, што існуе сто спосабаў сказаць слова «так» і толькі адзін — напісаць яго на паперы. Душа, прыгажосць, характар народа раскрываюцца ў слове. Па мілагучнасці, песеннасці мова беларусаў параўноўваецца з італьянскай. Высокую ацэнку мілагучнасці, багатаму фанетычнаму і лексічнаму складу беларускай мовы даў калісьці Адам Міцкевіч.

Францішак Багушэвіч пакінуў такі запіс: «Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш сваю мову, так, як той чалавек прад сканаиннем, катораму мову займе, а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

Няўжо і ў новым тысячагоддзі мы так і не навучымся размаўляць на роднай матчынай мове? Вельмі добра, што на радыё ёсць праграма «Роднае слова». Гэта вельмі патрэбная і важная праграма. Яе вядучая валодае добрай дыктарскай здольнасцю, прыемным голасам, і прэтэнзій да яе няма.

Але ёсць такое, нечакана ўрываецца громкая, рэзкая музыка, на фоне якой затым ідзе тэкст. Музыка тут зусім не патрэбна. Яна часам заглушае голас вядучай, перашкаджае ўспрымаць тэкст. Музычнае суправаджэнне лепш убраць, гэта не эстраднае прадстаўленне і галоўнае тут не музыка, а магчымасць слухачу сканцэнтраваць увагу, каб разабрацца ў моўных складанасцях і паняццях, аб якіх вядзецца размова. Гаворку неабходна весці не спяшаючыся, грунтоўна, для чаго, мабыць, трэба павялічыць праграму на некалькі хвілін, каб карысць была для тых, хто слухае.

І яшчэ аб адной праблеме — «кулямёцістай» мове. Сучасныя вядучыя тэле- і электронных СМІ часам сваім перадачам задаюць такі тэмп, быццам бы галоўнае ў аб'ёме інфармацыі перададанай у эфір, а не ў аб'ёме яе засваення. На адным дыханні, без кропак і косак, міні-пауз або інтанацыйных адценняў, не робіцца лагічных паўз перад пачаткам новай інфармацыі, выдаецца нагара шквал моўнай прадукцыі, што значна ўскладняе ўспрыняцце тэксты.

Не кожны здольны паспець за такой моўнай гонкай, пачынае злавацца і знаходзіць просты выхад — выключае «скрынку». Куды і навошта спяшаемся?! «Лепш менш, ды лепш», — казаў класік. Варта прыслухацца да слоў кавалера медаля Францыска Скарыны, да высокага прафесіянальнага майстэрства Уладзіміра Баклейнчава, чым голасам «гаворыць» Мінскае метро: «Асцярожна, дзверы зачыняюцца…»

— Далёка не кожны зможа прачытаць тэкст, каб ён прагучаў. Працаваць са словам трэба ўмець. Фанетыка, марфалогія, арфаэпія — усё гэта прысутнічае ў нашай працы. І я цяпер, нягледзячы на даволі вялікі стаж, усё роўна хвалююся, некалькі раз перачытваю тэкст радыёпраграмы перад тым, як выдаць у эфір.

Не хачу сябе хваліць! За кожны пракол, памылку наказвалі рублём! Таму мы, дыктары, многа працавалі над сабой, — кажа Уладзімір Баклейнчаў, які стаў візітоўкай, сімвалам падземкі і перадачы «Беларусь — Расія». І канкурэнтаў у яго пакуль што няма. Як і ў Ільі Львовіча Кургана, беларускага Левітана. А так хочацца, каб былі!

Вось якую думку выказаў аб дзвюхмоўі паэт Фелікс Шкірманкоў у вершы «Не буду маўчаць»:

*Дзвюхмоўе сёння у краіне —*
*Без страт укараненне не прайшло:*
*Сярод настаўнікаў, на сорам,*
*Яно прыхільнікаў знайшло*

*Амаль што знікла асяроддзе,*
*Дзе мова родная гучыць,*
*Дзе кожны спадчынай духоўнай,*
*Як скарбам продкаў, даражыць.*

*Таму і ты, на жаль, міжволі*
*Губляеш з памяці сваёй,*
*Не заўважаючы, паволі,*
*Слоў залатых бяссонны рой.*

*Не абышло, не абмінула*
*Няшчасце і мяне ў жыцці.*
*І я не ведаю дагэтуль,*
*Як паратунак мне знайсці?*

*Таму бывае часам цяжка*
*У вершы выказаць усім,*
*Што адчуваю, што трывожыць,*
*Што ў сэрцы зраненым маім.*

*Але ў задушлівасці гэтай*
*Не разгубіўся, не дрыжу,*
*А словам матчынае мовы*
*Усё, што думаю, — кажу!*

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 988

Падпісана да друку 25.07.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.